*Мікола Капыловіч*

# ЗАСАДА

*Аповесці*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1979

ББК 84 Бел 7
К 20

*Для дзяцей
сярэдняга школьнага ўзросту*

Мастак Л. МАРЧАНКА

**Капыловіч М.**

К 20 Засада: Аповесці. [Для дзяцей сярэдн. школ. узросту / Маст. Л. Марчанка].— Мн.: Маст. літ., 1979.— 176 с., іл.

«Засада» — так назваў сваю новую кніжку прозы пісьменнік Мікола Капыловіч, аб'яднаўшы пад гэтай назвай дзве аповесці: «Засада» і «Міцька, Валік і я». Аповесці розныя па тэме — у першай аўтар малюе лес і яго жыхароў, другая — перагортвае яшчэ адну старонку Вялікай Айчыннай вайны.

К $\frac{70803-161}{М\ 302(05)-79}$ 151—79

© Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1979 г.

# ЗАСАДА

## 1

Дзядзька Міхась на двары лясніцтва запрагаў каня. Ён вывеў Белакапытага з хлява, паставіў у аглоблі, насунуў яму на галаву хамут, надзеў вуздэчку і цяпер падціскаў церассядзёлак, і тут у двор убеглі Валодзя і Сяргей.

— А-а, мужчыны! — убачыў іх і выгукнуў ляснік.— Чым пахваліцеся? Як пяты клас закончылі?

Хлопцы выцягнулі з партфеляў дзённікі, паказалі лесніку:

— Добра! Без троек!

— Малайцы! — пахваліў дзядзька.— Значыцца, вы ўжо на канікулах. Памочнікамі будзеце, га?

— Будзем! Іван Кузьміч, наш класны кіраўнік, да вас адправіў на лета. Мы ж другі год у школьным лясніцтве робім,— сказаў Сярожа.

— Тое лета здарава памагалі, нічога не скажу. Думаю, што і цяпер не падкачаеце.

— Не падвядзём! — дружна адказалі хлапчукі.

Каня даймала заедзь. Машкара хмарамі таўклася над ім, лезла ў вочы, і Белакапыты адмахваўся хвастом, біў нагамі зямлю, тармасіў галавою. Калі хлапчукі падышлі да каня, ён навастрыў вушы, паглядзеў на Сяргея і Валодзю

сваімі чорнымі вачыма, весела заржаў — пазнаў. Хлапчукі шапкамі пачалі адганяць машкару.

— Во, во, правільна робіце! — падахвочваў ляснік.— А я ўжо хацеў прасіць, каб каня ратавалі... Заела заедзь беднага, схуднеў увесь, плача, бачыце, ад болю.

— Кроў ссуць, гады! — пагладзіў Сяргей каня між вушэй.— Стой, Белакапыценькі, стой!

Конь перастаў грымаць капытамі аб зямлю, ніжэй нагнуў галаву, каб хлопцы гладзілі яго.

— Работы вам будзе багата. І гадавальнікі трэба даглядаць і пасадкі вартаваць у дзялянках, каб хто жывёлу на іх не пасвіў. І галоўнае, мужчыны,— пажары. Раз у тыдзень будзеце на вышцы вахту несці. Кожны — па аднаму дню. Калі ўбачыце дым у лесе — трывогу трэба біць. Лепей, канечне, каб дыму не было. Ахова птушак, звяроў — ваша справа. Так што работы, мужчыны, хопіць. Не спужаліся?

— Не. Будзем усё рабіць.

Ляснік уставіў у гужы аглоблі, падцiснуў хамут, накінуў на галаву каню вуздэчку, закілзаў яго. Потым узяў у рукі лейцы — Белакапыты быў запрэжаны. Конь занепакоіўся, часцей застукаў капытамі, заржаў — застаяўся ў хляве і цяпер прасіўся хутчэй у дарогу.

— Бяжыце дамоў, пакладзіце свае партфелі, паабедайце, пераапраніцеся і хутчэй вяртайцеся сюды. Паедзем у лес. Я пачакаю вас.

— Ура-а! — закрычалі ад радасці хлапчукі.— Мы ў адзін момант!

І пабеглі, размахваючы партфелямі, толькі пыл закурэў з-пад ног.

## 2

Хораша ў лесе. Едуць яны па дарозе, што ляжыць у дубняку, маўчаць, зачараваныя спевамі птушак. Праменні працэджваюцца, як праз зялёнае сіта, скрозь густа затканыя лісцем верхавіны дрэў, падаюць на дарогу, на Валодзю, Сяргея, дзядзьку Міхася. Па спіне Белакапытага скачуць сонечныя зайчыкі, і конь, як у казцы, мяняе сваю афарбоўку: на прагалінах быў гняды, у гушчыні дубоў плямісты, пабіты жоўтымі яблыкамі па баках, на крыжы.

На перадку воза прымасціўся, трымаў у руках лейцы і панукваў на каня Сяргей. Ззаду ў яго, спусціўшы з воза ногі, сядзелі дзядзька Міхась і Валодзя.

— Агледзім спачатку гадавальнік. Даўнавата ля яго не былі, потым паедзем церабіць хвойнік,— сказаў ляснік.— Я буду секчы, а вы — сцягваць сасёнкі ў адну кучу.

— Хай бы раслі... Садзілі ж іх,— пашкадаваў дрэвы Сярожа.

— Пасадкі трэба абавязкова прарэджваць. Хвойкі перашкаджаюць расці адна адной, калі яны стаяць густа,— не цягнуцца ў неба. Усім ім не хапае ў зямлі спажывы. Яны — як дзеці. Дай, скажам, адну цукерку на дзесяць такіх хлапчукоў, як вы. Падзеліце па крошцы яе, а смактаць няма чаго. Нават саладу ў роце не адчуеце. Калі ж цукерку гэтую аднаму даць, насмокчацца, праўда?

— Мне трэба цэлы кулёк, каб насмактацца,— усміхнуўся Валодзя.— Адну я адразу ж праглынуў бы...

— Так і хвойкі,— працягваў ляснік,— працярэбіш іх — і святла будзе больш, і вільгаці тым, што застануцца расці.

— Эх ты, не ведаеш, а яшчэ юны лесавод! — Валодзя ўзяў за брыль шапку Сярожы і нацягнуў яму на вочы.— Вучыцца трэба!

— Ты таксама не ўсё ведаеш.

— Усё ведаю. Бацька расказваў. І кніжак пра лес у мяне багата. Праўда, тата?

— Не вельмі хваліся,— абазваўся ляснік.— Зараз праверым твае веды.

І раптам недзе далёка ў лесе пачулася дробнае: Тр-р-р, т-р-р-р, т-р-р-р!

Бы хто палачкаю біў у барабан. Гучны пошчак нёсся па лесе...

Хлапчукі сціхшана слухалі дзіўныя гукі.

— Што гэта? — спытаў дзядзька ў Валодзі.

— Жаўна. Дзюбу войстрыць аб сухі сук. Быццам з кулямёта б'е... О, зноў разанула чаргою.

— Гэтая птушка дзюбы ніколі не войстрыць... Сама яна войстрыцца ў яе,— сказаў ляснік.

— Тады гняздо сабе выдзёўбвае ў дрэве. І такі стукат ідзе па лесе.

— Не,— пакруціў галавою дзядзька.— Не ўгадаў. Такая ў жаўны песня... Сядзе на голы сук і трымкае па ім дзюбаю...

— Ха-ха-ха! — засмяяўся Сяргей: Валодзя, які нядаўна хваліўся, што ўсё ў лесе ведае, асарамаціўся.— Вось гэта знаток! Хто хваліцца, той хутка валіцца!

— А ты чаго рагочаш! — крануў яго за плячо ляснік.— Хутка і цябе падымем на смех, хлопец. Скажы, напрыклад, мне: чаму гэтую птушку завуць жаўна?

Сяргей перастаў смяяцца, пасур'ёзнеў, пачаў церці рукою лоб. І раптам аж падскочыў ад радасці:

— Таму, што яна жуе чарвякоў... Ад слова «жуе»...

— У яе ж зубоў няма. Як яна можа жаваць! — цяпер схапіўся ад смеху за жывот Валодзя.— Гэта ж не конь!

Смех узяў і лесніка. Ён рагатаў доўга і гучна, аж конь насцярожыўся, натапырыў вушы.

— А я ведаю, тата!

— Скажы, калі ведаеш.

— Жаўна — гэта чорны дзяцел...

— Вось гэта правільна,— згадзіўся ляснік.

Пад'ехалі да вялізнага дуба, што стаяў ля дарогі. На ім была парэпаная кара, там-сям пакрытая старым палінялым мохам. Высока ўгары разрасліся пакручастыя, з вялізнымі гузамі-нарасцямі галіны. А да іх хоць бы адзін сучок — ствол роўны, доўгі, гладкі.

— Бачыце вулей? — паказаў у галлё дуба дзядзька Міхась.— Вунь на той тоўстай галіне!

— Бачым. Даўно гэтая калода там. Толькі не залезеш да яе. А пад вулеем прыбіты нейкія тоўстыя бярвенні...

— Тыя бярвенні бортнік усцягнуў на дуб і прымацаваў ніжэй вулея, каб мядзведзь не далез да пчол.

— У нашым жа лесе няма мядзведзяў,— сказаў Валодзя.

— Дык былі... Вулей стаяў на дубе яшчэ да вайны... Пчолы нават былі ў ім. Фашысты прыйшлі аднойчы ў лес і хацелі выдзерці з калоды мёд... Адзін абвязаўся вяроўкаю і палез на дуб... Альпіністам быў... Далез да самага вулея, а тут партызаны наскочылі — тыя гітлераўцы, што былі ўнізе, кінуліся ўцякаць, а гэты, што больш за ўсіх пнуўся

мёду пакаштаваць, так і застаўся на дубе, бо не ўправіўся злезці і ўцячы. Можа, партызаны і не заўважылі б, каб не вяроўка... Сцягнулі яго з дрэва...

— А чаму цяпер у вулеі пчолы не жывуць? — спытаў Сяргей.

— Можа, вымерзлі ў лютую зіму, а можа, і жаўна ўсе соты выклевала.

— Хіба жаўна мёд есць?

— Жоўны мёду, каб ведалі вы, не ядуць, а кормяцца пчоламі... Маладымі, якія з сотаў яшчэ не вылезлі,— лічынкамі пчол. Лавіць дарослых пчол у іх не хапае спрыту...

Ляснік узяў лейцы з рук у Сяргея — конь, адчуўшы гаспадара, пайшоў спарней, і колы драбней застукалі па карэннях. Потым дзядзька ўзмахнуў пугаю, цмокнуў, і Белакапыты пабег трухам, воз пачало падкідваць, аж зубы затрымцелі, і хлопцы ўхапіліся рукамі за драбіны, каб не зваліцца. Змоўклі — гаварыць не будзеш, бо прыкусіш язык у такую калатнечу.

Пад дубамі густа і роўна расла папараць. Усю зямлю засцілала. Калі залезеш пад яе, агледзішся па баках, замрэш ад дзіва: святло тут цьмяна-зялёнае, як у акварыуме, неба не відаць, толькі густа стаяць напятыя карычневыя сцябліны, нібы струны, і падпіраюць сабою зялёнае тугое прасціраддла, якому няма канца і краю. Спадыспаду, як на сталі, бегаюць дагары казюркі, жучкі. Рудыя, жоўтыя, чорныя. І таемны робіцца свет, быццам трапіў у вечназялёныя джунглі Афрыкі і ляжыш пад пальмамі.

Конь трохі пратрухаў, пайшоў мерна і ціха па ляснoй дарозе, пафыркваючы і памахваючы галавою.

— Дзядзька Міхась,— пасля маўчання абазваўся Сярожа,— чаму вы на матацыкле не ездзіце?

— Хм-м,— ляснік нацягнуў лейцы.— Едзеш на матацыкле і не чуеш гоману лесу, яго гукаў... Усё глушыць матор. Нават стуку сякеры і звону пілы не разбярэш, калі арудуе які самавольны парубшчык. Не той, як кажуць, эфект... Ды і што ўбачыш у лесе пры хуткай яздзе? Ні дрэў, ні звяроў, ні птушак. Усё ў вачах толькі мільгацець будзе. І, нарэшце, лясныя пахі перабівае бензін.

— Эх, каб у мяне быў матацыкл! Не злазіў бы з яго, здаецца, ні ўдзень ні ўначы. Сеў і — др-р-р! — вецер у вушах толькі свістаў бы.

— Пакуль у слуп які не ўрэзаўся б з разгону,— усміхнуўся Валодзя.

— Не ўрэзаўся б... Я ўмею катацца... Дзядзька мне паказваў, як ездзіць. Праўда?

— Паказваў,— згадзіўся ляснік.

— Вырасту, куплю матацыкл і вас пакатаю... Тады ваш матацыкл зносіцца, а мой новенькі будзе. Эх, завяду, дам газу! — І Сяргей таўхануў нагою — паказаў, як ён будзе заводзіць матацыкл.

Мінуўся дубняк. Дарога ўпаўзла ў балотца, зарослае доўгаю густою асакой. Пад капытамі каня захлюпацела гразь, зашумела вада ў колах.

Выехалі на сухое. Уперадзе быў гадавальнік, абцягнуты доўгім, збітым з жэрдак плотам. За агароджаю роўнымі радамі рос нізкі, калматы, як шчотка, хвойнічак. З яго бяруць дрэўцы на лясныя пасадкі. Некалі хлапчукі памагалі сеяць тут тоненькія, вылушчаныя з шышак зярняткі, а цяпер, бач, узышлі і дружна растуць хвойкі.

Ляснік спыніў каня, прывязаў яго лейцамі да жэрдкі і павёў хлапчукоў у гадавальнік.

— Праз колькі гадоў, думаеш, вырастуць з гэтай малечы вялізныя хвоі? — спытаў Валодзя ў Сяргея.

— Праз сто.

— Тады нас на свеце ўжо не будзе. Людзі заселяць іншыя планеты, а сосны будуць шумець, расці і расці. От бы дажыць да таго часу, зірнуць на іх хоць вокам.

— Гаворыш, як стары дзед, які паміраць збіраецца.

Ляснік хадзіў між сеянцаў, пільна ўглядаўся ў зялёную пругкую шчэць хвоек. Потым раптам спыніўся, паклікаў да сябе Валодзю і Сяргея. Калі яны падбеглі, вачам сваім не паверылі: на тым месцы, дзе стаяў дзядзька, гадавальнік быў перакапаны, збэрсаны. З зямлі тырчалі толькі тонкія валаскі карэньчыкаў.

— Колькі хвоек прапала! — гаварыў ляснік.— Перавярнуў увесь гадавальнік дагары нагамі! Ах ты, воўчае мяса!

Хлапчукі адразу зразумелі, каго лаяў ляснік,— на перакапаным, парытым дзірване былі бачны свежыя сляды дзіка.

— Усю ноч, мабыць, арудаваў. А вялізны — сляды, як у каровы,— прыглядаліся ўсе да зямлі.— І што ён тут шукаў? Жалудоў жа ў гадавальніку няма...

— Ён не толькі жалудамі корміцца. Жарэ і карэнні, і чэрві. Усё без разбору... Не, табе гэта так не пройдзе! — гразіў дзядзька Міхась дзіку, быццам звер быў тут, ля яго, і чуў пагрозы.

Хлапчукі пачалі раўняць скібы дзірвану, уздыбленыя дзіком, папраўляць і абграбаць зямлёю сеянцы.

## 3

Будынак лясніцтва стаяў на ўзгорку, на самай ускраіне вёскі. Тут жа, за глухою сцяной, быў хлеў, а ля яго — гладка прычасаны граблямі, вастраверхі, як вежа, стажок сена для Белакапытага. Пажарны рыштунак — лапаты, багры, доўгія, скручаныя, як удавы, брандспойты — ляжалі пад паветкаю. На двары лясніцтва ўзвышалася і высокая, рабрыстая, нібы шкілет, пажарная вышка. Каб залезці на самы яе верх, трэба пераходзіць з адной лесвіцы на другую аж восем разоў. Добра засапешся, пакуль узыдзеш на вартавую пляцоўку. А зірнеш з вышыні на зямлю — каленкі задрыжаць ад боязі: хаты здаюцца скрынкамі, людзі — мурашкамі, лес — мохам. Хлапчукі амаль кожны дзень лазілі на вышку і не баяліся вышыні. Прывыклі да яе. Толькі страшна было, калі першы раз лезлі. Сёння — іх чарга пільнаваць з пажарні за лесам. Калі дзе-небудзь над ім пакажацца дым, адразу трэба паведаміць у лясніцтва.

Прыйшлі яны сюды раніцай. Леснікі — іх было чалавек дзесяць — сядзелі на ганку, курылі. Чакалі, калі выйдзе з канторы ляснічы Алесь Пятровіч і дасць кожнаму на дзень даручэнне. Не было толькі сярод іх дзядзькі Міхася. Аж тут адчыніліся дзверы лясніцтва, на ганак выйшаў ляснічы, а за ім і дзядзька. Хлапчукі прыслухаліся да іх гаворкі.

— Кажаш, Міхайлавіч, што ўнадзіўся ў гадавальнік, зрыў багата сеянцаў. Няйначай, кныр. Учора да мяне прыходзіла Антося. Плача і гаворыць, што ўсю бульбу пераварнуў на яе сотках. Ні аднаго жывога карча не пакінуў.

Перакапае адзін загон, пераходзіць на другі. І так усю бульбу перапаласкаў. Лычом, як плугам, прайшоўся па загонах.

— Трэба, Пятровіч, упільнаваць і забіць клыкастага, бо багата наробіць шкоды. І людзям, і лясніцтву, і калгасу,— загаварыў дзядзька Міхась.— Такой ненажэрнай утробе багата корму трэба. Калі паспее калгасная збажына — усе палеткі збэрсае. Пабачыце.

— Сам ведаю. Толькі не дазваляецца законам. Мы павінны ахоўваць дзічыну, а не знішчаць яе. Трэба ўзяць у раёне ліцэнзію, дазвол на адстрэл дзіка. Заўтра паеду.

— Бачыў учора гэтага дзіка ў Воўчым балоце,— заварушыўся на лаўцы Трахім Смоўж, які панура сядзеў, слухаў размову і смактаў цыгарэту.— Іду, значыцца, па кладцы, чую, нешта трашчыць. Гляджу — ён! Здаравенны, поўсць рудая, шчэць натапырыў на загрыўку і сунецца на жываце па балоце, толькі сапе ад натугі. Бліснуў на мяне сваімі ледзянымі зыркалкамі — пахаладзела ўсё ўсярэдзіне. Каб не схлусіць, вялізны, што зубр. Жоўтыя крывыя іклы тырчаць з рота, як рогі. Паласнуў бы імі, кішкі выпусціў...

— Можа, там адлежваецца ўдзень. Перад тым як ісці на палеткі пасвіцца. Лежку сабе там зрабіў, каб было далей ад чалавека і спакайней,— памеркаваў Алесь Пятровіч.— Вам, таварышы, такое заданне: трэба сёння высачыць кабана, аблажыць яго ў балоце з усіх бакоў і не выпускаць адтуль. А я тым часам скокну на матацыкле ў Ліпнікі, дазвол вазьму ў раёне... Вярнуся хутка.

Леснікі пачалі разыходзіцца.

Хлапчукі, перад тым як лезці на вышку, заспрачаліся паміж сабою.

— Хлусіць Смоўж, ніякага дзіка ён у балоце не бачыў,— гаварыў Сяргей.— Хіба па твані звер пралезе? У ёй толькі чарцей тапіць. Дрыгва... Ды і дзе тое балота... Нешта не верыцца, каб ён так далёка адыходзіў ад палёў...

— Можа, і хлусіць, а можа, і не,— не згаджаўся з ім Валодзя.— Дзік добра плавае і па твані поўзае... Як лодка, сунецца па ёй на жываце.

Каб хто іншы сказаў з леснікоў, хлапчукі паверылі б, а словам Смаўжа веры не давалі, бо чамусьці не любілі гэтага чалавека — быў ён унурысты, бурклівы, і ніхто з ім не вадзіў дружбы.

— Сярожа,— паклаў Валодзя на плячо сябра руку,— давай і мы пачнём высочваць дзіка. Адны. Чуе маё сэрца, што ён не там, не ў Воўчым балоце днюе...

— Давай. Толькі страшна. Калі кінецца, косці ўсе ператрушчыць.

— Эх ты, дзівак! Людзей ён баіцца. Нападае, як параняць яго і няма ніякай выкруткі. А рване на нас, на дрэва залезем.

— Ці ўправімся яшчэ залезці,— уздыхнуў Сяргей.— Гэты звер можа і дрэва тое лычом падкапаць і паваліць. Бразнемся з ім на зямлю, а ён нас гатовенькіх на шматкі...

— Калі такі баязлівы, не ідзі. Адзін пайду высочваць.

Сяргей пабаяўся, каб Валодзя не падумаў, што ён сапраўды баіцца дзіка, весела загаварыў:

— Гэта я так сказаў. Пойдзем заўтра...

## 4

Калі ляснік Трахім Смоўж прыйшоў з абходу дамоў, ужо сцямнела. Ён павесіў на цвік, убіты ў прасценак між акон, сваю стрэльбу, сеў на табурэт і пачаў разувацца. Боты, набрынялыя ў балотнай вадзе вільгаццю, не злазілі з ног, як ні пнуўся Смоўж зняць іх.

— Грыша, памажы! — клікнуў ён на дапамогу сына.

Грыша, даўгатвары, няскладны целам, з вялікімі, як у кажана, вушамі, прыбег з другой паловы хаты і памог бацьку зняць з ног абутак. Калі здымаў бот з правай нагі, так ірвануў яго за абцас, што сам не ўтрымаўся і паваліўся спінаю на падлогу.

— Зноў рагаткі, самапалы робіш? — забурчаў Трахім.— Убачу твае аружжа — у печы спалю.

— Сам жа казаў, што рагатку трэба зрабіць,— з крыўдай у голасе азваўся Грыша.— Каб вераб'ёў з проса зганяць, калі яно паспее на сотках.

— Проса толькі яшчэ пасеялі,— сказаў Трахім і цяпер лагодна паглядзеў на сына.— Гаспадарлівы, бачу, у мяне ўдаўся. З запасам жывеш, хе-хе-хе!

— А чаму качара не прынёс сёння?

— Пад стрэльбу не трапіў,— адказаў Трахім і паклікаў пальцам да сябе Грышку. Калі той падышоў, узяў яго за вуха: — Збрахнеш каму, што я па качках і зайцах страляю цяпер, улетку, адкручу вось гэты твой радар. Ясна?

І жартам, не балюча крутнуў за вуха сына.

— Нікому не скажу, не бойся! — хныкнуў у нос Грышка.

— Язык, як мянташка... Касу ім толькі вастрыць. Яшчэ плявузгнеш дзе... Сам ведаеш, што дзічыну забаронена цяпер страляць.

— Не скажу...— паўтарыў хлопец.

Трахім палагаднеў, ступіў босымі нагамі на падлогу, пратупаў да ложка і лёг, каб ногі адпачылі, адышлі, бо вельмі ж нылі — за цэлы дзень нахадзіўся па лесе да колікаў у пятах. Закурыў, нешта падумаў і зноў паклікаў да сябе Грышу:

— Бяжы па Лёньку. Справа ёсць. Сакрэтная. Скажы, каб адразу сюды ішоў.

— Зараз. На адной назе.

— Хоць на карачках, толькі хутка.

Грышка выскачыў за парог і знік у цемры — было толькі чутно, як яго босыя ногі застугнялі пад вокнамі па сцежцы.

Лёньку не трэба было доўга чакаць. Яго кароткая камлюкаватая постаць хутка вырасла на парозе. Паздароўкаўся, прайшоў на сярэдзіну хаты і сеў на табурэтку.

— Звалі, дзядзька?

— Зваў. Свежыны хочаш?

— Якой? — няўцямна паглядзеў Лёнька на Трахіма.

— Дзікай. Якая ж улетку можа быць свежына! Свойскіх свіней цяпер не б'юць.

— Хто ад свежай скваркі адмовіцца! Яшчэ і як хачу.

— Дык слухай мяне, плямяш. Дзікі кабан аб'явіўся ў лесе, шкоду людзям робіць. Чуў пра гэта?

— Уся вёска гаворыць...

— Дык вось. Трэба яго прыбраць да рук. Ляснічы хоча забіць дзіка і мяса здаць дзяржаве. Паехаў у раён па

дазвол, па рацэнзію... тфу... ліцэнзію гэтую,— плюнуў Трахім.— Слова няможна вымавіць... Ага, дык вось... Сёння ўсім я збрахаў, што дзік у Воўчым балоце лежку сабе зрабіў. Паверылі... І ляснічы нават. Загадаў леснікам аблажыць заўтра гэтае балота з усіх бакоў. З сабакамі. А мы тым часам высачым яго ў іншым месцы. Блізка ад патраў недзе... У гушчарах. Няйначай, у Чорных хмызах... Жульбарс мой след возьме, мае добры нюх. Высачым і з двух сквалоў грымнем... Укладзём. Нашто, каб чужыя людзі елі дзічыну недзе ў гарадской сталовай, калі і мы апетыт маем. Мяса падзелім пароўну... Ну як, пляміш?

— Аперацыя талкова распрацавана. Усе леснікі ў Воўчым балоце твань месяць, а мы тым часам...— загарэўся Лёнька, аж на месцы закруціўся.— Мяса будзе — гара.

Не вытрымаў і ўставіў сваё слова Грышка. Дагэтуль ён моўчкі слухаў размову бацькі з Лёнькам.

— А мне капшук выражаце. Надзьму, высушу, накідаю ў яго фасолі — от звінець будзе.

— У вушах будзе звінець, калі стукну па карку. Выйдзеш з тым капшуком-пульхірам на вуліцу, каб пахваліцца, людзі адразу здагадаюцца.

— Я ў хаце гуляць з ім буду.

— І ў хаце нельга.

Грыша змоўк і пачаў слухаць далей іхнюю гаворку.

— Даўно я не страляў. Апошні раз стрэліў, калі ў арміі быў. Не дай божа, прамахнуся. Пойдзе на мяне звер тарпедаю — растрыбушыць... Людзі і касцей не збяруць,— пачухаў патыліцу Трахімаў пляменнік, і ў голасе ў яго пачуўся страх.— Па ім хіба з гарматы пальнуць. Кажуць жа, што гэты звяруга вялізны, як слон.

— Падстрахую цябе,— суцяшаў Лёньку ляснік.— Пад лапатку будзем біць. У лоб яго не возьме куля. Рыкашэтам пойдзе. Так што рыхтуйся. Стрэльбу табе дам. І патроны... Іх у мяне поўны патранташ. З кулямі... Ён недзе адлежваецца ўдзень у Чорным хмызе, блізка ля поля. Сабаку пусцім па следу...

## 5

Назаўтра раніцай, як толькі паднялося сонца, хлапчукі былі на нагах.

Сустрэліся на вуліцы.

— Ідзём? — спытаў Валодзя.

— Ідзём,— адказаў Сярожа, азірнуўся па баках, каб не ўбачыла і не здагадалася маці, і нагінкам агародамі рушыў за сябрам у лес.

Калі разораю яны адбеглі ад хат, Валодзя сказаў:

— Зазірнём у Чорны хмыз.

— Бацька твой дома? — спытаў Сяргей.

— Не, пайшоў з леснікамі Воўчае балота аблажваць... Яшчэ цёмна было, як падняўся... І сабаку з сабою ўзяў. А як жа мы з табой без сабакі? — раптам спахапіўся Валодзя...

— Я свайго паклічу,— сказаў Сяргей, заклаў у рот пальцы і тры разы моцна свіснуў.

Спыніліся і пачалі глядзець у той бок, дзе стаяла Сяргеева хата. І раптам убачылі, як з-за хлява, угнуўшы галаву — шукаў, няйначай, іхнія сляды,— выскачыў Рыжык. Сяргей свіснуў яшчэ раз — сабака спыніўся, убачыў хлопцаў і ўжо не разораю, а напрасткі рвануўся наперад — як

не клубком пакаціўся да іх. Прыбег, пачаў кідацца на грудзі хлапчукам, павіскваючы ад радасці.

— Эх, расцяпы! Забылі пра Рыжыка. Хіба без яго мы высачылі б дзіка?..

А вось і лес. Аброшаныя лісці дрэў блішчалі на сонцы, быццам адпаліраваныя, з іх скочваліся, падалі на зямлю кроплі расы. На ўсе галасы спявалі, захліпаліся ад песень птушкі. Цёхкалі, перабівалі адзін аднаго, аж у вушах звінела, салаўі. Звярнулі з дарогі, пачалі прабірацца праз хмызняк да лясной рэчкі. Называлі яе Доўгай, ніхто не ведаў, з якога месца яна выцякае, бярэ пачатак.

Валодзя ішоў першы, ламаў нагамі сухое суччa, расхінаў перад сабою хмызняк. Было змрочна і дзіка — прамені сонца не прасвечвалі сюды. Пахла зляжалым гнілым лісцем. Выйшлі да рэчкі, за ёю — Чорны хмыз. Цягнуўся хмыз паўз Доўгую далёка, быў глухі, і людзі абыходзілі яго. Што цікавага ў гэтым цёмным гразкім кустаўі!

Між алешын цякла рудая вада, плыла між купін і карчоў неяк нехаця, лянiва, закручвалася віхрамі між дрэў, апавітых дзікім хмелем. Часта дзе хмель спавіваў сваімі зялёнымі пялёнкамі вольхі ад каранёў да самых макавін, туга перавязваў, нібы вяроўкамі.

Перад хлапчукамі пералятаў з куста на куст, прысядаў на ножках, як заведзеная цацка, трос хвосцікам і трывожна трашчаў рэмез — недзе блізка вісела на кусце яго доўгае гняздзечка.

Па кладках, намошчаных з сухіх галін, хлопцы перайшлі на другі бераг рэчкі. Валодзя раптам глянуў сабе пад ногі, спыніўся, пачаў углядацца ў зямлю:

— Сяргей, сюды!

Сяргей падбег і ўбачыў перавернуты, ўздыблены лычом дзірван, адкінуў убок корч. Ля яго, на свежай сырой зямлі, былі бачны шырокія сляды вепрука.

— Нядаўна капаў... Трэба сабаку пусціць на след,— памеркаваў Валодзя.— Рыжык, бяры, бяры! — І пачаў тыцкаць палкаю ў адбіткі дзіка. Сабака падбег, панюхаў тое месца, якое паказаў Валодзя, запырхаў, захроп, і поўсць на яго загрыўку ўздыбілася.

— Напаў на след! Цяпер завядзе нас да самага дзіка,— усхвалявана загаварыў Валодзя.— Паглядзім, што за звер...

Сэрца ў Сяргея затахкала ад хвалявання. Яму і хацелася ўбачыць дзіка, і боязна было. Агледзеўся вакол, і пахаладзела ў грудзях — з усіх бакоў абступаў глухі цёмны хмыз... Хоць бы адно дрэўца, на якое можна было б залезці, калі папрэцца, кінецца на іх раз'юшаны вяпрук... І ногі ў хлапчука амярцвелі, быццам прыраслі да зямлі.

— Чаго ты такі белы? — спытаў у яго Валодзя.

— Б-б-аюся! — ледзь выціснуў з сябе Сяргей.

— З намі ж Рыжык... Выратуе, калі што. Хіба не чытаў у кніжках, як сабакі выратоўваюць ад небяспекі сваіх гаспадароў? Звер кінецца на нас, а Рыжык учэпіцца зубамі яму ў загрывак... Будзе, як у цырку.

— Можа, і ўчэпіцца... Дома свіней ён добра ганяе... Калі каторая чужая ў двор усунецца,— паспакайнеў, пасмялеў трохі Сярожа.

Сабака ўзяў след і павёў хлапчукоў далей у хмызняк. Яму, здавалася, не было ні канца ні краю. Уперадзе нарэшце трохі пасвятлела — там быў прагалак. Хлапчукі прыслухаліся, замерлі і пападалі на зямлю — з прагалка

пачулася раскацістае рохканне, глухія ўдары, аж зямля задрыжала пад нагамі. Яны адхінулі ў бакі вецце хмызу — на прагалку круціўся, абкружаны двума ваўкамі, дзік. Унурыўшы галаву, звер кідаўся на ваўкоў, калі яны бліжэй падступаліся. Рудая шчаціна натапырылася на ім, маленькія вушы навастрыліся, хвост падціснуты між ног, а глыбока схаваныя вочкі гарэлі люта і адчайна. З рота дзіка плыла пена, збіралася на жоўтых крывых іклах у два вялізныя клубкі.

Ад страху ў хлапчукоў заляскалі зубы,— баяліся паварушыцца, ляжалі ў кустах і, затаіўшы дыханне, сачылі за паядынкам. Ваўкі — адзін падгалы, ростам з цяля, другі меншы — разышліся, пачалі забягаць з бакоў, каб ухапіць дзіка за жывот, але ім не ўдалося наблізіцца да звера — дзік кідаўся то на аднаго, то на другога ваўка, адганяў іх ад сябе сваім страшным ікластым лычом. І вось калі дзік уступіў у паядынак з меншым ваўком, падгалы раптам улучыў момант, зайшоў у хвост вепруку і кінуўся на яго ззаду — звер маланкава крутнуўся на месцы, падчапіў лычом ваўка і шпурнуў яго цераз сябе... Воўк бразнуўся вобзем, ускочыў на ногі і кінуўся ў хмыз. За ім, падтуліўшы хвост, пабег і малады воўк...

Дзік матнуў галавою, заляскаў ікламі, на якіх ружавела воўчая кроў.

Хлапчукі пачалі ціха адпаўзаць назад, пільна ўглядаючыся ў звера... Вось-вось, здавалася, ён кінецца на іх. Тады — канец... Калі трохі адпаўзлі, ускочылі на ногі і панесліся што ёсць сілы. Толькі кустаўё разлягалася перад імі... Ачомаліся на другім беразе рэчкі, упалі ад стомы на зямлю, пачалі аддыхвацца.

— Вось гэта зваруга! — выдыхнуў Валодзя.— Двух ваўкоў адолеў... Таго, здаровага, добра правучыў. Дзесятаму закажа. Лычом хвацка падняў і бразнуў на зямлю. Аж нагамі задрыгаў... Як не здохне ад раны сам, яго ваўкі разарвуць.

— Ч-чаму? — яшчэ тросся ад страху Сяргей.

— Калі ў паядынку з вепруком на ваўка трапіць шмат пены, ваўкі гайнёю накідваюцца на свайго сабрата і разрываюць яго на часткі... За тое, што зганьбіў іх воўчае кодла, не асіліў дзіка...

— А як яны даведаюцца пра паядынак?

— Нюхам... Пена дзіка смуродам аддае.— Валодзя раптам спахапіўся: — А дзе ж наш Рыжык?

— Тут. Вунь пад кустом,— паказаў Сяргей на сабаку.

Рыжык ляжаў, паклаўшы галаву на лапы, і ўвесь дрыжаў.

— Вось гэта ваўкадаў! — пакаціўся ад рогату Валодзя.— Ха-ха-ха!

Не вытрымаў і квола, аднымі губамі, усміхнуўся і Сяргей.

І раптам хлапчукі сціхлі, прыслухаліся — у тым баку, дзе быў дзік і адкуль яны прыбеглі, грымнулі два раскацістыя стрэлы, забрахаў сабака.

## 6

Позна ўвечары Трахім Смоўж і Лёнька сядзелі за сталом і вячэралі. Перад імі стаялі — у графіне гарэлка і шырокая, як рэшата, патэльня са скваркамі. Яны ўжо апараж-

нілі па шклянцы самагонкі, расчырванеліся і ўзбуджана гаварылі, размахвалі рукамі.

— Як мы яго, га? — хапаў з патэльні відэльцам мяса, падносіў да рота і прагна жаваў Трахім.— Каб не я, віселі б твае, плямяш, вантробы на тым хмызняку.

— Добра пацэлілі, нічога не скажаш. У самае сэрца кулю ўсадзілі,— душыўся гарачымі скваркамі і згодна ківаў галавою Лёнька.— Стрэліў я і прамазаў, а ён як рохкнуў, як вызверыў вочы і на мяне з усіх ног. Іклы — бы кінжалы... Канец, думаю... Заплюшчыў вочы ад страху... Бывай, белы свет! Хацеў быў перазарадзіць стрэльбу, але рукі анямелі і раптам — ба-бах! З двух ствалоў грымнула. Расплюшчыў вочы — кабан ляжыць і нагамі перабірае... Не паверыў спачатку, што жывы застаўся... Нават ушчыкнуў сябе...

Зноў Трахім схапіў з патэльні скварку, зноў няголеная, як у абскубленага гусака, заварушылася скура на яго доўгай шыі.

— Бачу, што канец табе, калі дзік рынуўся... Вось-вось падбярэ сабе пад ногі... Прыклаўся да стрэльбы — дзік лычом у зямлю... Капыты адкінуў. Багата мяса ўпалявалі... І гадаваць не трэба... Колькі, каб выкарміць на сала ў хляве свойскага кабана, мукі, бульбы трэба, га? Колькі грошай патрацілі б на корм яму?

— Багата,— згадзіўся Лёнька.

— А мы дарэмна мяса ўзялі... Лес нам выкарміў, выгадаваў яго...

Трахім наліў яшчэ па шклянцы. Чокнуліся.

— Ні, плямяш! За ўдалае паляванне...

— І за вяртанне з таго свету! — падняў у руцэ шклянку пляменнік.

— Што праўда, браце, то праўда!

Грышка сядзеў у другой палове хаты і слухаў, што гаварылі старэйшыя. Патыкацца на вочы п'янаму бацьку ён баяўся — той заўсёды знойдзе прычыну, каб даць сыну падзатылак. І раптам — бацькаў голас:

— Грышка Распусцін, дзе ты там? Хадзі сюды!

Сын выйшаў з-за шырмы, падышоў да стала, уставіўся вачыма на бацьку.

— Капшук табе не выйшаў. Закапалі гэты свіны пульхір разам з кішкамі. Не было калі з ім важдацца... Пра паляванне нікому ні слова, зразумела?

— Немалы ўжо,— буркнуў Грышка і пачаў падлашчвацца да бацькі.— Татачка!

— Што?

— Я пабяру маладыя вавёркі, што ў дубе жывуць ля Казінага лесу.

— А чым дома карміць будзеш? Усё проса, чорт лазаты, вунь скарміў дзікім галубам... Дабяруся да цябе!..— пагразіў пальцам Трахім.

— Шышкамі і жалудамі... Проса чапаць больш не буду.

— Глядзі... Проса лепей курам... Карысць хоць якая... будзе — яйка лішняе знясуць.

— Дык браць вавёркі? — не зводзіў вачэй з бацькі Грыша.

— Бяры хоць усе. Гуляй з імі дома, толькі ў кампаніі ніякія не лезь, бо язык у цябе...

Грышка ўзрадаваўся і зноў пабег туды, адкуль з'явіўся.

Трахім з Лёнькам налілі яшчэ па шклянцы самагонкі. Гаспадар устаў з-за стала, памаўчаў, потым загаварыў:

— А цяпер, пляміш, памянём Жульбарса. Добры быў сабака... На качак, на зайцоў не знойдзеш нідзе такога... Кінуўся на іклы дзіка... Адчайны быў, смелы... Вось і загінуў... Загінуў, як герой... Вечная памяць яму!..— Трахім адным каўтком праглынуў гарэлку, сеў, зашморгаў носам і выцер рукавом слёзы.

— Кінуўся вопрамеццю на звера. Думаў, мабыць, што гэта свойская свіння,— сказаў Лёнька і дапіў сваю гарэлку.

## 7

У лясніцтве толькі і гаварылі пра дзіка. Леснікі дымілі на ганку, абмяркоўвалі няўдалую аблаву ў Воўчым балоце. Тут былі і Валодзя з Сяргеем.

— Цэлы дзень лазілі па балоце з сабакамі і хоць бы дзе след убачылі,— гаварыў Валодзеў бацька.— Табе, Трахім, здалося з пахмелля, што дзіка там бачыў.

— З якога пахмелля? — узлаваўся і плюнуў сабе пад ногі Смоўж.— Бачыў, як вас усіх зараз... Па гразі, кажу, поўз.

— Мо прысніўся ён табе?

— Ат, што з вамі гаварыць, калі не верыце,— махнуў Трахім рукою.— Цяпер я, выходзіць, вінаваты, што не маглі ўсім кагалам звера высачыць.

— Ніхто цябе не вінаваціць, але нешта не верыцца, каб дзік зайшоў у тое балота. Ад гадавальніка, які ён парыў, да балота, лічы, кіламетраў восем будзе. Няўжо звер дурны, каб ісці на лежку ў такую далеч? Ён звычайна блі-

жэй трымаецца да таго месца, дзе корміцца,— даводзіў дзядзька Міхась.

Наперабой загаварылі другія леснікі:

— Нідзе яго апошнім часам не відаць. Аблазілі ўвесь лес, абшукалі ўсе гушчары... Пятровіч ліцэнзію прывёз на адстрэл ды яшчэ і галоўнага лясьнічага — на паляванне, а дзік як скрозь зямлю праваліўся. Сораму набраліся толькі...

— Можа, падаўся ў абходы другога лясніцтва?

— Каб там аб'явіўся, ведалі б мы... Можа, хто ўходаў яго з нашай вёскі? Але ж стрэлаў не было чуваць... Ніхто не чуў...

— А мы чулі,— умяшаўся ў размову Валодзя.— Два разы стрэлілі ў Чорным хмызе. І дзіка там бачылі... З ваўкамі біўся...

Леснікі пераглянуліся.

— А чаму адразу мне не сказалі? — спытаў у яго сярдзітым голасам бацька.

— Баяўся... Крычаў бы, калі б уведаў, што без дазволу пайшлі дзіка высочваць.

— Эх вы, мужчыны,— уздыхнуў дзядзька Міхась.— Па свежых слядах мы б знайшлі браканьераў... А цяпер лаві вецер у полі... Цэлы тыдзень прайшоў...

Трахім спадцішка зіркнуў на малых косым поглядам, выплюнуў з рота недакурак, выняў з кішэні новую цыгарэту.

— А дзе ваш Жульбарс, дзядзька? — спыталі хлапчукі.— Кожны раз за вамі бегае, а сёння няма.

— Нашто ён вам? — буркнуў Смоўж.— Пра сваіх ганчакоў лепей думайце.

— Так пытаем.

— Нехта ў хлебе іголку даў. Здох Жульбарс. Можа, і вы, шалапуты, падсунулі яму атруту...

## 8

— Багата чарніц я нагледзеў на Партызанскім востраве!.. Чорная зямля! Аж вецце на зямлі ляжыць. Завяду вас сёння туды. Да абеду па поўным кошыку назбіраеце,— гаварыў хлапчукам дзядзька Міхась.

— А суніцы ёсць? — спытаў Сяргей.

— Ёсць. Ля старых зямлянак. Да аскомы будзеце есці...

Хлапчукі дапамаглі лесніку запрэгчы каня — прынеслі хамут і церассядзёлак з паветкі, дугу,— хутка селі на воз і выехалі з двара... На вуліцы конь без панукі пабег сам. Ззаду дробна перабіраў нагамі Трызор. Ого, сабака ніколі не прапусціць моманту, каб пабыць у лесе з гаспадаром. Хутка выехалі за вёску, і колы застукацелі па карэннях. Белакапыты ішоў, здавалася, па доўгім зялёным тунелі: дарогу цесна абступілі бярэзнік, крушына, арэшнік. Дрэвы густа спляліся над дарогай, ажно неба не было відаць.

— На тым востраве партызанскі лагер стаяў у час вайны,— расказваў і правіў канём дзядзька.— І я там жыў, калі быў такі, як вы...

Хлапчукі глядзелі на шырокую, як прасценак, спіну лесніка, і ім не верылася, што дзядзька быў калісь маленькім хлапчуком... Як яго помнілі, заўсёды быў такі здаравенны, шырокі мужчына...

— І партызанам памагаў...

— А колькі фашыстаў забілі?..

— Ні аднаго...

Хлопцы змоўклі — ім так хацелася, каб дзядзька быў сапраўдны герой, забіў багата гітлераўцаў, а тут....

Ляснік зразумеў, што сваімі словамі расчараваў хлопцаў, сказаў:

— Быў разведчыкам. Хадзіў на заданні ў вёскі, дзе стаялі фашысты, выведваў, колькі ў іх сіл, зброі... Мне насіць зброю не дазвалялі — калі зловяць з ёю, дык адразу расстрэл. Насіў я замест гранат і пісталета на баку пастушковую торбачку, заходзіў у хаты, дзе стаялі немцы, прасіў у іх хлеба...

— І давалі? — спытаў Сяргей.

— Як хто. Сярод іх таксама былі людзі... Адзін немец, памятаю, нават сала вялізны кавалак даў...— Дзядзька памаўчаў, патузаў за лейцы, каб конь ішоў спарней.— На гэтай вось дарозе, што едзем, аднаго немца мы ўзялі ў палон, разведчыка... Зрабілі засаду, а гітлераўцы, перад тым як наступаць на партызанскі лагер, пусцілі паперадзе дазор на конях... Партызаны адкрылі агонь. Аднаго фашыста забілі, а двое другіх павярнулі коней і кінуліся наўцёкі... Ды пярэдні, які гарачэй прышпорваў каня, далёка не ўцёк — зачапіла яго галіна пад горла і скінула з сядла... Расказаў усё, што ведаў. Камандзір пасля даў распараджэнне, і партызаны не трапілі ў блакаду. Як бачыце, у сваім лесе і родная хвоя памагла.

Дзядзька раптам змоўк, прыслухаўся. Навастрылі вушы і хлапчукі — нехта блізка, ля дарогі, плакаў... Галасна румзаў... Спынілі каня і — раптам дзіцячы голас:

— Ратуйце! Ой-ёй, мамачка родная! Ратуйце!

Голас быў такі адчайны і вісклівы, што і ляснік і хлапчукі саскочылі з драбін і пабеглі туды, адкуль прасілі помачы... Дзядзька нават стрэльбу прыхапіў. Забрахаў, пачуўшы трывогу, Трызор. Падбеглі да дуба, глянулі ўгару — на дрэве вісеў і нема крычаў Грышка Смоўж. Адна рука яго была ўсунута ў дупло, і Смоўж, каб вызваліць сябе з масткі, у якую трапіў, другою чапляўся за дрэва, але пальцы саслізгвалі з кары. Ногі хлапчука целяпаліся ў паветры. Ён шукаў імі апоры, але яе не было. Засіліўся...

— Ой, ой, не магу... Баліць! Ратуйце, ратуйце! — крычаў і крычаў ён на ўвесь лес.

Ляснік спрытна падбег да дуба. Лез па дрэве хутка, хапаючыся рукамі за тоўстыя галіны і парэпаныя шурпатыя скарынкі дубовай кары. Учапіўся за сук, падцягнуўся ўгару, стаў на яго і падставіў свае плечы пад ногі Грышу:

— Станавіся!

Хлапчук перастаў целяпаць у паветры нагамі, намацаў імі дзядзькавыя плечы, стаў на іх і выцягнуў з дупла руку.

— Ах ты, шыбенік! Захацеў вавёрак... За гэта цябе і пакарала.

Грыша ўжо не плакаў. Калі ляснік спусціў яго з дуба, доўга цёр закляклую руку, спуджана балабоніў:

— Стаў на гнілы сук, ён хруснуў пад нагамі, зламаўся, і я завіснуў. Хацеў толькі адну вавёрачку дастаць.

— Каб не мы, вісеў бы ты да скону,— сказаў дзядзька.— І ніхто твайго голасу тут не пачуў бы... Скажу бацьку, што ты завіснуў... Ён табе ўпячэ...

Твар у Грышкі змяніўся, пабялеў, і ён зноў зарумзаў, стаў прасіць:

— Дзядзечка, не гаварыце. Бацька моцна б'ецца...

— А больш не будзеш лазіць па гнёздах і дуплах?

— Ніколі не буду. Клянуся!..

— Ну, глядзі ў мяне... Другі раз як злаўлю, паходзіць па табе мая, а не бацькавая пуга.

— Каб я не сышоў з гэтага месца, не буду,— пакляўся Грышка і пабег дамоў...

Ляснік і хлопцы селі на воз. Дарога ўперадзе звузілася, павярнула, колы спачатку ехалі па цвёрдым, потым пад імі зашумела вада — уехалі ў лясную гнілую рачулку... Конь з натугаю выцягваў з гразі калёсы. Пацямнела — быў вакол густы арэшнік і ён засланяў сонца.

— Засіліўся добра. Доўга будзе руку чухаць.

— Да новых венікаў не забудзе. Роў на ўвесь лес.

— На тым тыдні разбурыў гняздо соек. Пабраў птушанят дамоў, каб ката карміць,— абураўся Валодзя.

— Чаго ж не сказалі мне? Даў бы яму плескача...

— Яго нічым не правучыш. Пабачыце, зноў будзе шкодзіць, як паганы кот...

— Не можа быць,— азваўся ляснік.— Даў жа слова... Ды і навука яму была сёння — па дрэвах лазіць.

Конь выцягнуў воз на груд, стаў ступаць па цвёрдым.

— Дзядзька Міхась, раскажыце пра разведку, га? — скуб лесніка за рукаў і прасіў Сяргей.— Хоць пра адзін выпадак...

— Пра тое, што каля рэчкі было,— удакладніў Валодзя, бо бацька расказваў яму пра свае партызанскія прыгоды і хлапчук усе іх ведаў.

— Калі так хораша просіш, раскажу.— Дзядзька перадаў лейцы ў рукі Валодзю, дастаў з кішэні цыгарэты, запалкі і закурыў. Тытунёвы дым запах едка і даўка.— Было гэта ў пачатку вайны. Летам. Фашысты яшчэ тады не палілі нашага Зарэчча, усё пёрліся па шляху цераз вёску на фронт. Як саранча якая. На машынах, танках, матацыклах гнала іх чортавая сіла на Усход. У той дзень спякота была, што аж дыхаць няможна. Мы з Толікам, сябруком, пайшлі на рэчку купацца. Падыходзім цераз кусты да Убарці, зірк — матацыкл падруліў да берага, а на ім тры гітлераўцы. У касках, з аўтаматамі. Адзін, праўда, з пісталетам на баку. Афіцэр. Заглушылі яны матор, весела загергеталі, распрануліся дагала, як маці нарадзіла, разагналіся з берага і — бултых у рэчку. Абліваюць адзін аднаго вадою, рагочуць. І давай плаваць навыперадкі. Калі яны адплылі далекавата ад таго месца, дзе распрануліся, мы ціха, як яшчаркі, папаўзлі да матацыкла. Звязалі іх вопратку, забралі зброю і, дай божа ногі, кінуліся ад берага ў кусты. Адбеглі, спыніліся, каб перадыхнуць, як ля рэчкі пачулі трэск матацыкла і лямант гітлераўцаў. Неўзабаве прыляцелі яны на тым матацыкле ў вёску. Свае ж немцы абкружылі іх, паднялі рогат, усе збегліся паглядзець на галякоў. Той, што афіцэрам быў, саромеўся з каляскі падняцца. Сядзіць увесь пабялелы, толькі паўтарае: «Партызанен, партызанен».

Калі ляснік скончыў расказваць, хлопцы ад рогату аж клаліся на возе:

— От папакруцілі голымі попамі!

Пасмяяліся, сталі выціраць ад смеху слёзы з вачэй, і Сяргей зноў спытаў:

— А зброю куды дзелі?

— Была спачатку ў нас. Потым, калі партызаны аб'явіліся, ім аддалі... Вопратку таксама. Афіцэрская форма доўга служыла ў атрадзе аднаму разведчыку. Хадзіў у ёй у нямецкія гарнізоны на заданні. Толькі каскі сабе мы аставілі. Адна і цяпер на двары ляжыць...

— Тая, у якую парасяці наліваюць?

— Ага.

— А я і не ведаў,— здзіўлена працягнуў Сяргей, потым аж падскочыў на возе.— Трэба яе ў школьны музей здаць...

Паглядзеў на лесніка і, зразумеўшы па яго твары, што сказаў нешта не тое, змоўк.

— Хто яе возьме,— пыхнуў цыгарэтай ляснік.— Фашысцкую каску ў музей... Ці падумаў ты, хлопча, што гаворыш?

— А што, ёсць такія музеі,— не здаваўся Сяргей.— У вялікіх гарадах. Чытаў пра іх... Там ляжыць напаказ трафейная зброя.

— То ў гарадах. А я фашысцкай касцы знайшоў места — свіней з яе кармлю... Можа, яе разам з парасём у музей здаць?

Хлапчукі зноў зарагаталі.

— Можна... Надзець на парсюка каску і адвезці яго ў музей... От было б дзіва! Усе збегліся б.

— Эх, мне б пісталет! Нікому не аддаў бы,— загарэліся вочы ў Сяргея.— Фашыстаў — пуф, пуф! — настраляў бы поўную кучу.

— Ваяка знайшоўся,— усміхнуўся Валодзя.— Штаны абрабіў бы, калі б хоць аднаго гітлераку ўбачыў.

— Бачыў я, які і ты геройскі,— пакрыўдзіўся Сяргей.— Добра драпаў, калі...

І змоўк, зірнуўшы на сябра: Валодзя прылажыў палец да губ, паказваючы яму, што гаварыць пра тое, як яны ўцякалі ад дзіка і ваўкоў, не трэба — бацька гэта так не прапусціць, дасць прачуханца...

Уперадзе пасвятлела — выехалі на востраў... Густа стаялі грабы, сплёўшы над зямлёй зялёныя лісці. Калі ў лесе заспее дождж, можна смела хавацца пад імі — нават нітку на вопратцы не прамочыш... Пад грабамі буяў, аж ляжаў пасмамі на зямлі, валасень — доўгая трава, слалася заечае шчаўе. На прагалку раслі чарніцы, паўз глыбокія ямы — былыя партызанскія зямлянкі — разбегся суніčнік... Хлапчукі аж паразяўлялі раты ад здзіўлення — такога прыгожага месца яны ніколі не бачылі. Наперабой спявалі ў грабняку птушкі, густыя лісці папратыкалі тонкія срабрыстыя прамені сонца, па ствалах дрэў плямамі распоўзся шэры мох.

— От і прыехалі,— сказаў ляснік і спыніў каня.— Збірайце... Заеду пасля і забяру вас.

І павёў іх на ўскрай зялёнага вострава.

Хлапчукі глянулі на зямлю і не паверылі сваім вачам: шырокія латкі чарнічніку ляжалі між камлёў дрэў і былі так густа абсыпаны цёмна-дымнымі ягадамі, што аж веццe гнулася да зямлі.

Пад густалістым грабам сябры ўбачылі высокі пакаты ўзгорак, падобны на стажок. Спачатку падумалі, што нехта пазграбаў пад дрэва граблямі леташняе лісце на падсцёл карове і скідаў віламі ў кучу, якая даставала верхам аж да ніжніх сукоў граба. Калі ж прыгледзеліся лепш, не-

раканаліся, што ўзгорак не з лісцяў, а з дробных галінак.

— Што гэта? — спыніліся і зірнулі яны ў вочы лесніку.— Няўжо мядзведзь хату сабе такую зрабіў?

Дзядзька толькі ўсміхнуўся:

— Самі здагадайцеся...

— Бярлога мядзведзя, што ж яшчэ,— упэўнена сказаў Сяргей.— На малюнку такую бачыў.

— Ну і даеш ты! — усклікнуў Валодзя.— Мядзведзі ў нашым лясніцтве не жывуць.

— А можа, прыйшоў які з запаведніка.

— Скажаш яшчэ, што з цырка ўцёк.

— То мо бабровая хатка?

— Рэчкі ж няма паблізу!

Калі падышлі бліжэй, моцна здзівіліся — то быў мурашнік! Такога вялікага яны ніколі не бачылі. І што на ім рабілася! Ігліца ўся кіпела ад рудых мурашак. Адны спорна цягнулі, аж спатыкаліся ад спеху, на гэтую гару сухія галінкі, другія — казюрак, вусеняў, трэція пераносілі на сонечны бок мурашніка белыя мяшэчкі-лічынкі, каб падсушыць. Асабліва цікава было глядзець, як мурашкі абкружылі вусатага жука-караеда, учапіліся за яго з усіх бакоў і цягнулі да сябе дамоў на наедак.

Жук быў яшчэ жывы, не хацеў ісці ў мурашынае паселішча, доўга ўпарціўся, упіраўся, чапляўся лапкамі за лісці і галлё, але дзе яму было саўладаць з рудымі разбойнікамі! Хутка да гэтых мурашак далучыліся, прыбеглі на помач новыя і як не панеслі караеда на сабе. Той перастаў ужо і дрыгацца, заціх — зразумеў, відаць, што жывы ад іх не выкруціцца.

— Вось гэта войска! Больш, чым людзей у горадзе! — выгукнуў Сяргей.— Цэлы стог іглiцы нацягалі ў адно месца!

— Не адзін жа год стагавалі сабе хату. Яшчэ да вайны, памятаю, жылі пад гэтым грабам яны. Хатка, праўда, была тады ў іх малая. Як кучка грэчневай мякіны,— сказаў ляснік.

Сяргей з недаверам паглядзеў на дзядзьку.

— Хіба мурашкі так доўга жывуць?

— Я не кажу, што доўга. Старыя паміраюць, а на іх месца з яечак маладыя выводзяцца. І так кожны год.— Ляснік паказаў пугаўём на мурашнік.— Вунь бачыце — белыя яечкі? З іх і вылупліваюцца новыя мурашкі.

— І застаюцца жыць са сваімі бацькамі? — спытаў Валодзя.

— Не ўсе. Калі цесна робіцца ў мурашніку, маладыя збіраюцца ў рой, як пчолы, і ідуць шукаць сабе новае месца. Знойдуць дзе гнілы пень і пачынаюць будаваць на ім сваё жытло. І хутка вырастае новы мурашнік.

Хлапчукі зірнулі сабе пад ногі. У траве, чарнічніку былі працярэблены, вытаптаны да голай зямлі мурашыныя сцежкі. Па іх ліліся і ліліся ў мурашнік і з мурашніку рудыя раўчукі. Часам некаторыя мурашкі спыняліся на сцежцы, вадзілі адна па адной вусікамі, бы віталіся.

— Што гэта яны робяць?

— Так размаўляюць з сабою. Знаёмыя, відаць.

І раптам Сяргей убачыў, што па сцежцы спяшалася мурашка і несла перад сабою сваю мёртвую сяброўку. Паказаў на яе дубчыкам:

— Бачыце?

— Нясе ў мурашнік. Там, відаць, у іх і могілкі ёсць,— сказаў Валодзя.— Будуць хаўтуры.

Ляснік засмяяўся:

— Гэтага не ведаю. А тое, што яны вельмі дружныя, бачыце самі. Мёртвых не пакідаюць. У мурашак, як і ў людзей, ёсць паляўнічыя, будаўнікі, вартаўнікі, нянькі, якія даглядаюць лічынак, выносяць іх з норак і прасушваюць пасля дажджу на сонцы.

— А чым яны кормяць сваіх лічынак?

— Малаком. Бяруць яго ў тлі. Гэта такія маленькія блошкі. Жывуць яны ў лісці. Вось іх і дояць яны, як людзі кароў, і пояць сваіх немаўлят малаком. Так што ў іх нават і даяркі ёсць.

Сяргей і Валодзя слухалі пра мурашак з вялікай цікавасцю і ўсё распытвалі і распытвалі ў лесніка:

— Далёка яны ходзяць на паляванне?

— Нават залазяць на самыя верхавіны дрэў і знішчаюць там вусеняў ці жукоў. Бачылі, як яны караеда пацягнулі? А колькі за дзень іх знішчаюць! Вялікую карысць прыносяць лесу. Каб не мурашкі і птушкі, шкодныя насякомыя ўвесь лес знішчылі б. Голыя дрэвы стаялі б, без ніводнага лісціка. Таму птушак і мурашак трэба ахоўваць у першую чаргу. На зямлі жыве больш чым шэсць тысяч відаў мурашак. А ў нашай краіне — дзвесце дваццаць пяць... Ведаеце, чаму такі вялікі мурашнік тут? Бо на гэтым лясным востраве ад самай вайны не было пажару. І мурашнік усё рос і рос з кожным годам угару. Агонь — самы злосны вораг мурашак. Калі па лесе пойдзе пажар, не толькі малады лес, але і ўсе мурашнікі выгараюць. Вось чаму трэба, каб не было пажараў у лесе.— Ляснік зірнуў

на неба, потым перавёў яшчэ раз позірк на мурашнік! — Здаецца, будзе дождж.

— Сонца ж свеціць. І на небе няма ніводнай хмаркі. Адкуль ён возьмецца?

— Па мурашках відаць. Бачыце, як заварушыліся? Хады сухімі палачкамі закрываюць. Так што хутчэй збірайце ягады.

І дзядзька Міхась пайшоў да воза.

Хлапчукі падвязалі да пояса гладышы і разышліся.

Лісці дубоў і грабаў так густа спляліся ўгары, што праменні сонца не працэджваліся праз іх на зямлю, і тут, ля камлёў дрэў, стаяў зялёны паўзмрок. Ягаднік, густа абсыпаны чарніцамі, аж клаўся на зямлю, і хлапчукі хутка пачалі яго абіраць, абдзьмухваць ягады ад лісця і сыпаць іх у гладышы. Хутка яны набралі па адным набірку, высыпалі ў кошыкі і навыперадкі пачалі набіраць па другім.

Сяргей разагнуўся, прыслухаўся: недзе далёка, падалося яму, загрымела.

— Хмара ідзе!

— Дзе ты яе бачыш? — азваўся Валодзя.— Дрэвы так спляліся — не відаць, а ён — хмара...

— Пагруквае.

— Самалёт рэактыўны пераляцеў гукавы бар'ер. Вось і грукнула.

— Пабачыш, заспее навальніца. Твой бацька казаў, што дождж будзе.

— Не размочыць — не грыбы ж мы.

І раптам увачавідкі на востраве пачало цямнець.

Трывожна закрычалі птушкі, хаваючыся ў дуплы, ага-

леў, апусцеў мурашнік — яго жыхары пазалазілі ў норкі. У лісці дрэў заварушыўся вецер, потым зашумеў і пачаў раскалыхваць верхавіны. Сонца ўжо не свяціла і на прагалак між дубоў — яно патанула ў хмары, што вырасла над лесам, расплылася па небе. Дыхнула ў твар халадком і вільгаццю.

Нечакана над лесам хмара разламалася — недзе блізка суха ляснуў пярун. І пакаціўся між дрэў грукат і доўга аддаваўся рэхам у бары, пакуль далёка недзе не заціх на вуркатлівым незадаволеным погаласе. І тут стала зусім ціха. Нават не варушыўся ніводзін лісток. Такая цішыня стаіць перад самай навальніцай. Хлапчукі прыслухаліся. І пачулі недалёка глухі густы пошум, які набліжаўся, хутка рос у вушах — на востраў каціўся дождж. Сябры кінуліся пад густы граб.

І пачалося! Кроплі спачатку залапацелі па лісці, потым лінула з неба, як з рэшата. І заткала шэраю пражай камлі дрэў, і паплыў перагонамі па лесе вадзяны пыл.

Мільганула, бліснула над лесам белая маланка, хлапчукі не паспелі спужацца і ўцягнуць ад страху галовы ў плечы — блізка ля іх коратка і моцна ляснула. Аж зазвінела ў вушах. Дождж лінуў яшчэ гусцей, і ў шэрым змроку патанулі камлі дрэў.

— Вось гэта дае! — усклікнуў Сяргей.

— А на нас, бач, ніводная кропля не ўпала. Сядзім пад грабам, як пад дахам. Вельмі ж густы. Бач, не прасвечваецца праз яго нават неба.

— Магло пад ім маланкай забіць,— сказаў Сяргей.

— Граб жа нізкі. Маланка б'е па высокіх дрэвах.

Хутка хмара спаўзла, ссунулася з неба, і з яе вынырр-

нула і засвяціла сонца. З лісцяў густа церусіліся на зямлю кроплі, мігцелі, бліскалі ў праменнях сонца.

Свежа, чыста і хораша было ў лесе пасля дажджу! Блішчалі на сонцы лісце, трава. Парыла зямля. Пара падымалася з зямлі, клубамі кацілася ў лагчыну і там збіралася ў туман. Засвісталі на ўсе галасы птушкі, і ў іх спевах чуваць былі радасць і ўрачыстасць.

Раптам хлапчукі пачулі — блізка затарахцелі колы, і між дрэў яны ўбачылі Белакапытага. Трызор кінуўся да хлапчукоў і пачаў лашчыцца — засумаваў. Дзядзька Міхась тпрукнуў на каня, з якога валіла пара, злез з воза:

— Ну, мужчыны, не страшна было ў навальніцу?

— Не.

— Хлусіце! Ведаю, што ад боязі месца сабе не знаходзілі. Вунь асіну маланкай пабіла. Добра, значыцца, ля вас стукнула.

І ляснік паказаў на распаласаванае дрэва, што стаяла на краі вострава. З верхавіны да самай зямлі з яго злупіла вялікую дзягу і адкінула ўбок.

Валодзя і Сяргей пераглянуліся — добра, што не хаваліся ад дажджу пад высокае дрэва.

## 9

На другі дзень Сяргей прыйшоў да сябра. Дома ў Валодзі нікога не было. Валодзя адчыніў шуфляду стала, выняў тоўсты сшытак у каленкоравым пераплёце, разгарнуў яго, паклікаў да сябе Сяргея, сказаў:

— Ты ўчора чуў, як бацька пра мурашак расказваў?

— Чуў. А што?

— А тое, што ён свае назіранні за насякомымі, звярамі, раслінамі сюды запісвае. Хочаш пачытаць?

— Гэта ж цікава! — узрадаваўся Сяргей.

Яны прымасціліся разам на адным табурэце і моўчкі пачалі чытаць.

## МОЙ ЗНАЁМЫ ПАВУК

Павуціну ў праёме фортки я не даў жонцы змесці. Хай вісіць — глядзіш, мух менш у хаце будзе. А самога гаспадара павуціны мы доўга не маглі ўбачыць — знайшоў недзе ў раме шчылінку і хаваўся ў ёй. Але неяк прыйшоў мой сусед з гітарай. Трынкнуў па струнах раз, трынкнуў другі, і раптам бачым — вылазіць наш павук і бежкі да цэнтра павуціны. Пакруціўся заклапочана там, памацаў путы і вярнуўся назад у сваю шчыліну. Зноў затрэнькала гітара, і зноў, як на пажар, выскачыў наш павук. Прабег, бы акрабат, па вяроўках сваёй павуціны, зноў памацаў нейкія там кончыкі і схаваўся. Цуд! Толькі дакранешся пальцамі да струн — адразу выскаквае, быццам яго палкаю гоняць. Потым здагадаліся — вібрацыя струн, відаць, вельмі падобная на тое, што чуе павук, калі ў яго цянёты трапляе муха. Празвалі мы нашага павука за крыж на спіне Папом. Я леснікам паказваў гэты нумар — крычу: «Поп! Поп!», а сам, быццам між іншым, трэнь-трэнь па струнах гітары. Павук выскаквае са свайго схованішча ў адзін момант, лапкамі перабірае, быццам спытаць хоча: «Не выклікалі?»

Аднойчы я злавіў на шыбе муху і асцярожненька працягнуў яе на кончыку іголкі Папу. Ён каршуном учапіўся

ў яе. Адразу абкруціў павуцінай, стала цакатуха падобна на мумію, якую туга спавілі бінтамі, перад тым як пакласці яе ў саркафаг. З тых пор я часта падкормліваў Папа мухамі. І яго, шэльму, узяла такая лянота, што ён адзін час перастаў рамантаваць павуціну. Выбежыць такім панам, здыме з іголкі муху ды яшчэ пачне марудзіць — зараз есці ці адкласці абед да вечара.

Самае забаўнае,— Поп даваў нам дакладны прагноз надвор'я. Калі дзень меўся быць сонечны, павук вылазіў са сховішча і рупіўся на сваёй гаспадарцы — развешваў цянёты, залатваў дзіркі, проста так быў пасярэдзіне павуціны, задумлівы, як філосаф. Але калі Поп упарта сядзеў у сваёй шчыліне, не вылазіў нават, пабачыўшы муху, трэба чакаць дажджу. Дрэннае надвор'е — дрэнны настрой у павука.

Неяк са спецыяльнага даведніка я дазнаўся, што мой Поп — павучыха. А карацей — Пападдзя. А павук...

Між іншым, аднойчы я ўбачыў і павука. І ён вельмі расчараваў мяне — ціхі малы заморак. Побач з Пападдзёй ён выглядаў дзіцём. І быў нейкі зладзейкаваты. Падабраўся да цянётаў маёй знаёмай і патузаў за павуціну. Пападдзя злосна выкацілася са сховішча, але, убачыўшы жаніха, павярнула назад. Павука гэта нікольні не здзівіла, і ён зноў прыняўся за сваё— турмысь-турмысь за кончык павуціны: маўляў, гэта я, звярніце, калі ласка, увагу.

Так працягвалася гадзіны дзве ці тры.

Часам Пападдзя, раззлаваная, кідалася на расправу, але павучок быў настойлівы і кожны раз спрытна паспяваў адскочыць убок. І наогул, ён быў падобны на хлопчыка-забіяку, які задумаў раззлаваць сабаку на ланцугу,— і

страшна, і цікава. Не ведаю, як там далей разгортваліся падзеі, але раніцай я застаў Пападдзю, калі яна даядала свайго нікчэмнага жаніха.

Аднак не ўсіх наведвальнікаў павучыных сетак чакаў такі лёс. Аднойчы трапіла ў цянёты блыха. Трэба было бачыць, з якою гідлівасцю падбіралася Пападдзя да палонніцы. Яе проста-такі нудзіла. Дзвюма лапкамі яна асцярожна адсекла ліпкія цянёты вакол блыхі і выкінула яе прэч.

Лёс Пападдзі вырашыўся хутка і нечакана. Неяк на галіну яблыні за акном села спрытная вастраносая птушка. Пападдзя нейкім сваім павучыным чуццём здагадалася аб небяспецы — забегала ў паніцы па сваёй сетцы, замітусілася. А потым — скок! — і панеслася па нітачцы ўніз, як парашутыст. Птушка зляцела з яблыні, крутнулася на крылах ля самага акна і... ўсё было скончана.

Толькі павуцінка ў фортцы пагойдвалася, лёгка трымцела, напамінаючы мне пра нядаўняе знаёмства з дзіўным стварэннем.

## НАЕЗНІК

Я шукаў караедаў для рыбалкі: разварочваў трухлявыя пні, здзіраў з іх тоўстыя стужкі кары. Пад імі заўсёды былі лічынкі. Белыя, мажныя, у глыбокіх перавязках. І вось на адным пні я ўбачыў наезніка. Калі б не доўгае чорнае шыла, якое выпіралася з жывоціка, яго можна было б прыняць за вялікага крылатага мураша. Хіба толькі мурашка больш непаваротлівая, а наезнік — рэзкі, хуткі, быццам у ім пульсуе тонкая гадзіннікавая спружынка.

Я асцярожна сеў ля пня і пачаў назіраць за ім. На маю бяду, блізка праходзіў вялікі мурашыны шлях — ён цененька шуршаў. Пахла кісла і едка. Дзесяткі мурашоў-ахоўнікаў адразу ўчапіліся ў мяне. Я цярпеў і не спускаў вачэй з наезніка — чакаў убачыць што-небудзь цікавае.

Наезнік бегаў па пні кругамі і быў падобны на ўстрывожанага ганчака, які натрапіў на мноства заечых слядоў і разгубіўся. У насякомага была, як і ў мяне, адна мэта — знайсці караеда. Я са здзіўленнем і зайздрасцю глядзеў, як доўгімі лёгкімі вусікамі насякомае абстуквала пень, прыслухоўваючыся да рэха ў адказ, нешта прыкідвала, прымярала. А недзе пад ім, у сярэдзіне пня, грызла дрэва, быццам гэта салодкі сухарык, тлустая белая лічынка. І не ведала, што яе засеклі лакатары ворага, запеленгавалі і хутка наступіць развязка.

Вось наезнік пачаў кружыць на адным месцы — нават мне падалося, што я чую выразнае пастукванне вусікаў-антэн. І тут я ўбачыў, што гэта зусім не шыла, а толькі футарал ад яго, у якім хаваецца маленечкі, тонкі і спружыністы свярдзёлак. Ён тануў у дрэве паступова, дрыжаў, усё бліжэй падбіраўся да мэты. І вось быццам бы канец — па свярдзёлку-яйцакладу пабегла лёгкая хваля: яечка наезніка знайшло свой дом і сваю ахвяру.

Я вырашыў паглядзець, ці дакладна выканаў наезнік работу,— пачаў здымаць кару з таго месца, на якім ён сядзеў. Яшчэ трохі — і я ўбачыў лічынку дрывасека. Яна падрыгвала ад болю, які працяў яе наскрозь, курчылася ад халоднага паветра, быццам з яе, голай, знялі вопратку. І, магчыма, яшчэ не ўяўляла, што хутка загіне. А з яе, як з кукалкі, выйдзе другі наезнік — малады, хуткі, нястом-

ны, з доўгаю чорнаю пікай, ад якой няма ратунку ў самай надзейнай крэпасці.

Я прыклаў кавалак кары, якую адарваў ад пня, на старое месца — няхай усё застаецца, як было. Як задумала прырода.

## ВОСЫ

На сухой аблезлай асіне я прыбіў шпакоўню. І доўга ніяк не мог зразумець, чаму гэтае спарахнелае дрэва так спадабалася восам. Амаль кожны дзень, калі праходзіў паўз яго, бачыў, як восы поўзалі па ім, нешта елі. І ляцелі прэч з мікраскапічным грузам. Яны жылі недалёка ад асіны — у густым лісці граба. Гняздо вос вісела паміж дзвюх разгалін.

Аднойчы я ўбачыў, як пад лісце густога граба заляцеў авадзень. І тут з ім здарылася бяда. Яго роўнае гудзенне змянілася раптам адчайным галашэннем, пранізлівым піскам. Крычаў, быццам парася, якое запіхвалі ў мяшок, каб несці на кірмаш.

Я наблізіўся да асінага гнязда. Авадзень адчайна адбіваўся ад асы. Ён насіў яе на сабе па кары дрэва, спрабаваў адбіцца ад разбойніцы, адштурхнуць лапкамі. Авадзень быў падобны на мядзведзя, у якога ўчапіўся сабака. І вось нарэшце авадню ўдалося вырвацца. Але аса ўпарта пачала ганяцца за ім, каршуном насілася ў паветры, пакуль зноў не ўчапілася ў авадня, не зграбла ўцекача ў свае лапкі. І цяпер моцна асядлала яго. Я ўбачыў, як раз за разам яна парола джала ў праціўніка. Над месцам паядынку павісла другая аса, потым трэцяя. Праз хвіліну з аваднём было ўсё скончана.

Калі я падышоў бліжэй да асінага гнязда, два вартаўнікі задзынкалі, гатовыя вось-вось кінуцца на мяне. З цёмнай адтуліны выпаўзала ім падмацаванне — вусаты, паласаты крылаты атрад.

Я доўга глядзеў на асінае гняздо і разгадаў раптам яго тайну — восы саскрэбвалі з трухлявай асіны парахню, змочвалі яе слінаю і перапрацоўвалі ў будаўнічы матэрыял для сваёй хаткі.

Неяк я вычытаў у газеце, што адна японская фірма на выстаўцы будаўнічых матэрыялаў у Маскве выбрала ў якасці эмблемы сілуэт асы. А гэта ж вельмі трапны сімвал — асіны дом просты, лёгкі, утульны.

## ПЕРШЫ ГРЫБ

Лёгкія дажджы зрываліся з неба амаль кожны дзень, і зямля прагна глытала цёплыя дажджынкі. Пусцілася ў рост трава на паплавах, жыта на палетках выцягнулася ў каласы.

А ў лесе адна дажджынка разбудзіла маленькі Грыбок. Ён моцна ўпёрся карэньчыкам у зямлю, напяўся і, што было сілы, пацягнуўся ўгару — да святла, да добрага сонца.

Было вельмі цяжка праштурхоўвацца праз спляценні каранёў, скрозь леташнія лісці, але Грыбок не адступаў. Ламаў, ірваў перашкоды, што сустракаліся яму, упарта лез угару.

І вось аднойчы раніцай убачыў Грыб адным краем вока сонца і яшчэ — стары Сук: ён ляжаў на галоўцы ў Грыба. Сук ціснуў яму на макаўку ды яшчэ кракаў зласліва:

— Не выбер-рашся, не выбер-рашся!

— Выберуся,— цвёрда сказаў Грыб.

— Паглядзім, паглядзім,— прарыпеў Сук і націснуў на галоўку Грыбка яшчэ мацней.

Ноччу, калі Сук задрамаў, ён рашыўся. Сабраў усю сваю сілу, натужыўся і націснуў. Спарахнелы Сук ад нечаканасці крактануў і... пераламаўся.

Раніцай маленькі Грыбок стаяў прама і, сарамліва чырванеючы галоўкаю, прымаў віншаванні з днём нараджэння ад ветру, сонца і гаманлівых асін, якія бачылі ўсё і спяшаліся расказаць навіну кожнаму, хто быў у гэты час у лесе.

## МУХАМОРЫ

Восень. Па ўсім лесе селяцца грыбы. Баравікі, чырвонагаловікі, абабкі і маслюкі. Хіба ўсіх пералічыш у дзённіку? Цэлае грыбное нашэсце ў лесе! І кожны грыб займае сваё месца.

Знакаміты род баравікоў. Яны бываюць рознай масці. У бярэзніках растуць з жоўтымі галоўкамі, а ў хвойніках сядзяць прысадзістыя рудагаловыя прыгажуны з тоўстымі, тугімі і белымі, як рэпа, каранямі. Ім пагражае ад людзей небяспека, вось і маскіруюцца, небаракі, пад колер апалага жоўтага лісця ці ігліцы.

Талакою абступяць пень апенькі, цісноцца да яго, як дзеці да роднага бацькі, быццам некага баяцца, хоць у іх ёсць надзейныя абаронцы — паганкі. Іншы недасведчаны гарадскі грыбнік прыйдзе ў лес і замест апенек набярэ цэлы кош паганак, бо яны вельмі падобныя.

Мухаморы хоць самыя атрутныя, але і самыя прыгожыя грыбы. Стаяць, быццам ганарлівыя дзяўчаткі, накінуўшы на свае галовы чырвоныя хусцінкі ў белыя кропачкі. І спаднічкі ў іх белыя. Збіраюцца яны на пагулянку ў маладыя хвойнікі. Стаяць, прыгожацца і ведаюць — ніхто да іх не будзе чапляцца. Кожны абыдзе, быццам пасаромеецца крануць.

## ВАВЁРКА

Кажуць — вавёркі пужлівыя. Хлусня! Сёння сам пераканаўся, што гэта не так. Іду па лесе і раптам чую наперадзе часты, заўзяты сабачы брэх. Падыходжу і бачу: на дрэва, стоячы на задніх лапах, ірвецца Трызор, аж падскаквае. А перад самым яго носам на камлі хвоі сядзіць уніз галавой і пацвельваецца з сабакі вавёрка. Падскаквае да Трызора, цокае і зноў адбягае ўгару — ведае, што той не дастане яе. Здзек з сабакі, дый годзе!

Убачыла мяне са стрэльбаю на плячы і агністаю маланкай сіганула ў самую верхавіну хвоі. Толькі кудлаты, як кудзеля, хвост мільгануў.

## ЛІСА Ў ТРУБЕ

Сёння ішоў я са стрэльбаю па лесе. І раптам сабака залівіста забрахаў, ірвануўся да доўгай жалезнай трубы, якую пакінулі ў лесе геолагі, усадзіў у яе галаву. І пачаў тузацца, пяцца, каб пралезці ў адтуліну. Спрабаваў адагнаць яго, але Трызор упарта рваўся ў трубу, аж захлёбваўся ад злоснага брэху. Адцягнуў яго за ашыйнік і сам

зазірнуў у трубу. Ліса! І маленькія лісяняты ля яе варушацца. Вось дзіва! Не трэба лісе і нару рыць, труба — гатовая хатка. Быццам атрымала рыжая гарадскую кватэру з усімі выгодамі.

## КАРШУН І ВАРОНА

Іду полем паўз лес і раптам чую над галавою надрыўнае карканне. Зірнуў угару — на раллю каменем ляціць варона, а на ёй сядзіць, як на кані, учапіўшыся кіпцюрамі, вялізны каршун. Хутка яны абое шлопнуліся на мяккае ворыва. І тут я ўбачыў тое, чаго і сам не чакаў. Варона вылузалася з кіпцюроў свайго ворага, перакулілася на спіну і пачала часта біць каршуна моцнаю дзюбай. З таго густа пасыпалася пер'е. Шэры разбойнік адскочыў, залапатаў крыламі, цяжка падняўся ў паветра і, накульгваючы на адно крыло, неяк касабока паляцеў у лес. А варона пастаяла на раллі, пакруціла дзюбаю, аддыхалася ад цяжкай бойкі, потым радасна каркнула і з шумлівым шлопаннем крылаў узнялася ў паветра.

## РЭМЕЗ

Самая маленькая і самая спрытная, вёрткая карычневая птушачка. Куртаты хвосцік тырчыць угару, як у пеўніка. Жыве ў зарасніках лясных рэчак. Увесь час мітусіцца ў галлі, дробна і тоненька трашчыць і дрыжыць ад нецярпення, быццам ёй нечага не хапае.

Але не так цікавая гэтая малеча, як яе гняздо. Пляце яго, вяжа, бы шкарпэтку, з цёплага сухога моху, які аб-

цягвае старыя пні. Ідзеш, бывала, паўз рэчку і бачыш: вісіць прычэпленае да галінкі доўгае гняздо, гайдаецца ў паветры, а ў ім дзве адтуліны — рэмезавыя дупельцы. Чаму дзве? Хапіла б і адной, як ва ўсіх птушак. Некалі, калі быў малы, спытаў пра гэта ў сваёй бабулі. Яна пачала казаць, што аднойчы рэмез пасварыўся са сваёй жонкай, рэмезіхай. Птушкі з таго часу перасталі жыць разам. І падзялілі хатку, перагарадзілі яе на дзве палавіны. І ў гняздзечку зрабілі двое дзвярэй, каб не сустракацца ў адных. Але сварацца яны і цяпер. З раніцы да вечара трашчаць адно на аднаго. Тады я паверыў бабулі. Цяпер ведаю, што два хады ў гняздо птушкі робяць вось чаму: калі вораг палезе ў адну адтуліну, рэмезы вылецяць, ратуючыся ад яго, праз другую.

## УДОД

Усе ведаюць, што ў кожнай птушкі не толькі свой голас, але і свой характар, паводзіны.

Возьмем, напрыклад, удода. Прыгожая, як пава, птушка з чубатаю галавой і доўгаю, бы шыла, дзюбай. Жыве ў дуплах паблізу палеткаў. І спявае дзіўна, быццам гугнява мармыча сама сабе пад нос. Дзетак багата выводзіць. Мае сваю хітрасць, каб абараніцца ад ворага. Скажам, падыдзеш да дрэва, у якім жыве дзікі голуб ці дзяцел, стукнеш па ім палкаю — з дупла адразу выскакваюць птушкі і кідаюцца з усіх крыл ад перапалоху наўцёкі. Не такі ўдод. Па яго дуплу доўбняй бухай — галавы не пакажа. Маўляў, я тут не жыву, а калі і жыву — мяне дома няма. І яшчэ ёсць адна асаблівасць у гэтай птушкі. Удод не прыбірае

ад бруду і нечыстот сваё дупло. Таксама хітрасць: хто палезе ў смярдзючае жытло? Абрудзіцца толькі.

Бываюць часам і неахайныя людзі. Зайдзі да такога ў хату — бруду і смецця самазвалам за адзін раз не вывезеш. Пра такога і кажуць людзі: «Смярдзючы, як удод!»

## ГАДЗЮЧЫН ГІПНОЗ

Такое бачыў першы раз у жыцці. Ішоў паўз балотца, што за Воўчым лесам, глянуў наперад сябе і атарапеў — ля купіны выцягнулася тоўстая і доўгая, як вяроўка, гадзюка. Спіна ў яе была пабітая на шэрыя шашачкі. Гадзюка неяк напялася, узняла галаву і пільна глядзела пад купіну. Паўзіраўся — да яе неахвотна пасоўвалася, паўзла, упіраючыся лапкамі ў зямлю, балотная жаба. І вось ахвяра ля самай галавы ў жываглота.

Раптам гадзюка рэзка рванулася наперад — квакаўка апынулся ў яе ў роце. Гадзюка доўга душылася ахвярай. Галава патаўсцела, раздзьмулася. І вось бедалага-жабка патанула ў яе ў пашчы. Усё!

## ГНЁЗДЫ

Кожная лясная птушка будуе гняздо на свой манер. І кладзе ў яго яйкі, адметныя ад яек іншых птушак.

Самае прыгожае, утульнае, акуратнае гняздо робіць сабе шэры дрозд. У разгаліны дрэва наносіць на падмурак сухіх дубчыкаў, накладзе на іх сухога моху і пачынае галоўную работу — вытынкоўвае з дробнай парахні круглую ямачку. Падсохне тынкоўка, зацвярдзее — вось і гняздзеч-

ка! І яйкі ў яго дрозд кладзе блакітныя, як неба, абсыпаныя рудым рабаціннем. Усіх пяць.

Чорны дрозд майструе сваё гняздо гэтак жа. Толькі робіць яго не на дрэвах, а ў кустах і на пнях, каля лясных рэчак. І вытынкоўвае не парахнёю, а глінаю або граззю. І яйкі не такія блакітныя, як у яго шэрага родзіча, а цямнейшыя і трохі большыя.

Вароне прасцей — наламае дзюбаю сухіх галінак, накладзе іх на верхавіне дрэва, высцеле сваё ламачча мохам, усім тым мяккім, што трапіць пад дзюбу на зямлі,— вось і гатова! Яйкі кладзе белыя. Не дурная, хоць і варона,— гняздо пабудуе ў такім гушчары і так высока на дрэве, што і чалавеку не захочацца лезці туды.

Каршун па асцярожнасці падобны на варону — таксама з сухога ламачча майструе гняздо, і гэтак жа высока. У верхавінах дубоў. А яек кладзе два-тры — шэрыя. І вялікія, як курыныя.

Белахвосты дзікі голуб-туркач мае свой почырк, калі будуецца,— накрыжуе палачак-дубчыкаў на галіне арэшыны або хвоі, пакладзе на іх два белыя яйкі. Калі глядзець на яго седала знізу, яйкі, як праз рэшата, прасвечваюцца.

Паўзунок, скрытная птушачка шэра-блакітнага колеру, якая поўзае па кары дрэў і шукае на ёй лічынак шкодных насякомых, прымудрыўся рабіць жытло па-свойму. Сам сабе ён не выдзеўбе дупло, як дзяцел, бо не хапае яму ні сілы, ні ўмельства. Селіцца паўзунок у дуплах, якія пакінулі летась птушкі. Калі дупло шырокае, вялікае для яго, затынкуе, залепіць граззю і пакіне маленькую адтуліну, каб толькі самому пралезці. Ёсць тут свая выгода і хіт-

расць: большая і мацнейшая птушка не залезе ў дупло і не выкіне, узяўшы за каршэнь, непажаданага насельніка, і драпежнік не працíснецца.

Лянуецца будаваць сабе гняздо толькі казадой. У іншых месцах называюць яго леляком. Гэтая птушка, падобная на зязюлю, носіцца ноччу ў паветры і ловіць у ім жукоў, матылёў. Удзень, прытаіўшыся на зямлі, спіць, як сава. Бяздомная, бесклапотная! Мае дом пад кожным кустом, пад кожным дрэвам. Сядзе на леташняе апалае лісце ці ігліцу, знясе два яйкі і грэе іх сабою, пакуль птушаняты не вылупяцца. Калі ідзеш, не заўважыш казадоя на зямлі — сваёй шэрай афарбоўкай пер'я зліваецца з ёю...

## ЗІМНІ ДУБ

Кожны, мабыць, вясною заўважаў, што адны дубы рана выпускаюць лісці, другія стаяць голыя ды мёртвыя аж да самага лета. І толькі тады, калі распусцяцца ўсе дрэвы, прачынаюцца і яны ад зімовага сну і пачынаюць зелянець. Гэта позпія, зімнія, дубы. Яны лісці скідаюць з сябе позняю восенню, у замаразкі, і апранаюцца ў іх позняй вясною. Трэба ведаць, што ў лесе шмат відаў дубоў. І жалуды ў іх розныя. У адных вялікія, доўгія, як пальцы, у другіх дробныя, бы гарох.

## ПТУШЫНЫ ІНТЭРНАТ

На тоўстай старой асіне высока чарнее шырокае дупло. Адным летам жыў у ім дзікі голуб, у другое пасялілася сіваваронка, у трэцяе — галка. Сапраўдны птушыны інтэрнат. А зрабіў яго для птушак чорны дзяцел — жаўна».

Чыталі б хлопцы і далей, але на двары паказаўся бацька, і яны загарнулі сшытак, а Валодзя сунуў яго назад у шуфляду — будзе гаспадар запісаў лаяць, калі даведаецца, што ўзялі сшытак без дазволу.

Вось папросяць сшытак — тады начытаюцца...

## 10

Даўно хлопцы не былі ў лесе — насунуліся нізкія хмары, і цэлы тыдзень ішлі не сціхаючы аблажныя дажджы... I ўдзень і ўначы на зямлю церусілася імжа. Дзяжурыць на пажарнай вышцы не трэба было — у такое сырое надвор'е не загарыцца ў лесе пажар,— і хлопцы сядзелі дома, чыталі кніжкі, глядзелі, як на вуліцы расплываюцца шырокія лужыны, цякуць брудныя ручаі...

Не баяліся дажджу толькі гусі і свойскія качкі, купаліся ў лужах, гергеталі.

Збіраліся звычайна хлапчукі на цэлы дзень у Валодзевай хаце, пазяхалі ад суму і чакалі, калі распагодзіцца.

— От мочыць дык мочыць. Баравікоў багата будзе,— падумаў уголас Сярожа.

— Ужо растуць на высокіх месцах. У хвойніках. Бацька ўчора паўкаша прынёс. I ўсе белыя, з рудымі шапкамі, як цацкі. Чыстыя — ніводнага чарвяка ў карэннях,— пахваліўся Валодзя.

— У такі дождж і чарвякоў заліло вадою. Усе пахлапіліся ў лужах.

Праз вокны быў відаць шырокі двор Смаўжа. I раптам хлапчукі ўбачылі, як адчыніліся дзверы Смаўжовай хаты

і, накрыўшы галаву дажджавікам, трымаючы перад сабою нешта ў шапцы, на двор выбег Грышка і патупаў пад паветку.

— Зноў птушанят набраў недзе ў лесе. Багата, нягоднік, гнёзд раскідаў,— уздыхнуў Сяргей.

— Цэлы заапарк развёў у сябе. І галубоў, і соек, і нават варон трымае ў клетках... Голадам іх морыць. Нават вавёрак пабраў.

— З таго дупла, у якім завіснуў?

— Ага.

— А як ён іх дастаў?

— На палку пачапіў драцяную пятлю і ёю павыцягваў...

— От жывадзёр!.. А абяцаў, кляўся яшчэ!

— Яму ўсё роўна: абяцаць ці не...

— Назбіраў за вясну цэлую калекцыю птушыных яек. І сарочых, і салаўіных, і драздовых... Сам хваліўся, паказваў на вуліцы. Колькі, лічы, птушак вывелася б з гэтых яек. Якая карысць была б лесу...

Хлапчукі выбеглі на ганак, гукнулі:

— Грыша, пакажы, што ў шапцы?

Смоўж падышоў да плота, бліжэй паднёс шапку. Хлопцы глянулі ў яе — там ляжалі нейкія голыя звяркі, падобныя на мышэй, але згорнутыя ў маленькія кулачкі. Скура на іх была сіняя, нібы паголеная брытваю. У звяркоў густа прарасталі, праклёўваліся чорныя валасінкі, як шчэць на барадзе.

— Хто гэта? — пераглянуліся Сяргей з Валодзем.

— Угадайце! — расплываўся ад усмешкі Грыша.— Ніколі не ўгадаеце.

— Лясныя мышы! — сказаў Сяргей.

— Сам ты мыш! — рагатнуў задаволены Смоўж.— Хіба мышы згортваюцца ў клубок?..

— Дык мо кацяняты тхароў? — спытаў Валодзя.

— Тхары нараджаюцца з поўсцю. Ведаць трэба... А яшчэ лесаводы. Натуралістамі лічыцеся. Такіх знатакоў трэба блізка не падпускаць да лесу...

— Гэта цябе, браканьера, трэба гнаць з лесу ў шыю! — не вытрываў Валодзя.

— Ну, адгадаеце ці не? — здзекаваўся Смоўж.

— Важаняты! — сказаў Сяргей.— Як гэта мы адразу не здагадаліся!

— А дзе ты іх знайшоў?

— У лесе... У гняздзе пад коранем былі... Восем штук...

Сяргею і Валодзю стала шкада важанят.

— Пусці іх, га? — пачаў прасіць Валодзя жаласлівым голасам.— Яны ж у цябе падохнуць...

— Не падохнуць. Чарвякамі карміць буду...

— Яны чарвякоў яшчэ не ядуць. Ім матчына малако трэба. Занясі іх на месца да вожыхі...

— Гэ, дурня знайшлі,— вышчарыўся Грыша.

Сяргей не вытрываў, выняў з-за пазухі бінокль, паказаў Грышу. Ён гатовы быў усё аддаць, каб выбавіць з бяды і важанят, і птушанят, і вавёрак, якія трапілі ў палон да Смаўжа.

— Няўжо сапраўдны бінокль? — загарэліся вочы ў Грышы.— Пакажы...

— Глядзі, каб назад аддаў.

Смоўж апусціў на зямлю шапку з важанятамі, прагна ўчапіўся дзвюма рукамі за бінокль, паднёс яго да вачэй, пачаў круціць галавою, аглядаць праз шкельца хаты, пла-

ты, дрэвы. І ўжо не мог ніяк адарваць бінокль ад вачэй.

— Хопіць. Яшчэ вочы забаляць! — працягнуў руку і ўзяў назад бінокль Сяргей.

Грыша ад зайздрасці аж закруціўся на месцы:

— Не трэба і на дрэва лазіць, каб у дупло зазірнуць, усё можна ўбачыць... Эх, мне б ён... Нічога не пашкадаваў бы...

— Усіх звяроў і птушак аддаў бы? — усхвалявана спытаў Сяргей.

— І нават калекцыю яек у прыдачу,— узрадаваўся Грыша. У яго варухнулася надзея займець бінокль... Але такое спадзяванне абарваў Валодзя:

— Дадзім бінокль — усіх птушак у лесе высачыш і вынішчыш. Дудкі!..— І піхнуў пад бок Сяргея.— Хочаш узброіць браканьера, так? — злосна паглядзеў на сябра і забраў з яго рук бінокль.

Калі вярнуліся ў хату, Валодзя яшчэ больш пачаў лаяць Сяргея:

— Ці падумаў ты сваёй галавою, што робіш? Падарунак ляснічага хацеў аддаць злыдню Смаўжу... Яму макавае зерне я пашкадаваў бы. А ён — бінокль...

— Птушак і звяроў шкада,— апраўдваўся ціхім голасам Сяргей.— Галодныя сядзяць у клетках...

— Іх мы і так выпусцім з няволі! — рашуча сказаў Валодзя.— Высачым, калі Смаўжа не будзе дома, падкрадзёмся пад паветку і павыпускаем з клетак...

— А сабака?

— Ён жа здох... Забыў?

— Праўду кажаш! — узрадаваўся Сяргей.— Як гэта раней нам не прыйшло ў галаву!

## 11

Раніцай Валодзя прачнуўся, зірнуў у акно і аж не паверыў сваім вачам — неба было чыстае, нібы вымытае, радасна свяціла сонца. На галінках бэзу, што ў гародчыку, маленькімі зоркамі гарэлі кроплі расы.

Адчыніліся дзверы, і на парог ступіў з кошыкам у руках Сяргей.

— Яшчэ спіш, лежабок! — выгукнуў ён.— Хутчэй пайшлі, грыбы ўсе пабяруць...

— Нашыя нам застануцца,— буркнуў пад нос Валодзя, устаў, падышоў да вядра, апаласнуў над цэбрам твар, рукі і пачаў хутка апранацца.

— Ведаеш, Сярожа, трэба правучыць Смаўжа, каб не лазіў па дуплах,— сказаў, зашнуроўваючы на нагах чаравікі.

— А як? Тады вунь засіліўся ў дупле, і не дапамагло...

— Хай цяпер загляне ў тое вялікае дупло, што ў гнілой асіне... Больш зазіраць не будзе.

— У якое праз бінокль мы глядзелі? — засмяяўся Сяргей.

— Ага!

— А як угаворыш яго, каб залез на асіну?

— Скажам, совы там жывуць. Дзяцей сваіх у дупле гадуюць. Паверыць. Ды і савы ніколі не трымаў ён у руках. Ох, як захоча займець яе!

Яны выйшлі на двор. Грыша якраз быў на дрывотні, майстраваў нешта сабе — стукаў малатком.

— Ці не клетку робіш? — спытаў Валодзя.

— Угадаў. Для ўдода. Учора з дупла выцягнуў. За-

таіўся, халера, думаў, што я не загляну ў яго хату. Папаўся. Цяпер б'е мне паклоны сваім чубам,— адказаў праз плот Смоўж.

— Хочаш мець саву?

— Пытаеш яшчэ! Толькі злавіць яе цяжка. На дзень яна хаваецца ў цёмных дуплах.

— Ведаем яе дупло. У асіне. Бачылі ў бінокль, як яна вылецела з яго. Сяргей не дасць збрахаць.

— Праўду ён кажа,— падтрымаў Сяргей свайго сябра.— Лупатая такая, вялізная, бы гладышка. Галава круглая, кудлатая, дзюба кручком.

— І шэрая?

— Ага.

— Значыцца, сава. Цяпер яе якраз можна з дупла выцягнуць. Пасля ночы спіць.— Грыша паклаў на калодку малаток, пабег у хату, кінуўшы хлопцам: — Пачакайце, іду...

Хутка ён выбег на вуліцу, размахваючы авоськаю:

— У сетку яе запіхну, каб кіпцюрамі не драпалася... Заб'ю, і будзе прыгожае ў мяне чучала.

Хлопцы зіркалі на Смаўжа, пераглядваліся між сабою і загадкава ўсміхаліся.

Дарога павіхляла між палеткаў і ўпаўзла ў густы хвойнік. Запахла смалою, прэлаю ігліцай, у твар дыхнула сырая, зябкая прахалода. З галіны на галіну пералятала ўслед за хлапчукамі чародка сініц. Яны цілікалі, круціліся ля дарогі, быццам дражніліся. Хрыпата закрычала сойка.

— Далёка тая асіна? — спытаў Грыша.— Нешта доўга ідзём...

— Вунь яна,— паказаў у бок ад дарогі Валодзя.

Сапраўды, каля арэшніку стаяла сухая разгалістая асіна, ніводнага лісціка не было на ёй. Кара пазлузвалася і вісела чорнымі лахманамі на голым ствале. Між разгалін, блізка ад зямлі, чарнела шырокае, круглае, як разяўлены рот, дупло, з якога тырчалі тоненькія сухія дубчыкі...

— Бач, галля нанасіла... Гняздо звіла. Як пашанцуе, дык і птушанят пабяром... Падзелім іх, праўда?

— Падзелім. Кожнаму па адным,— згадзіліся хлопцы.

Сяргей і Валодзя падсадзілі Грышу на асіну, ён учапіўся рукамі за дрэва, абшчаперыў яго нагамі і марудна пачаў пасоўвацца ўгару. Хутка ён сядзеў ужо, як у сядле, сярод разгалін. Заглянуў у дупло і пачаў выцягваць з яго хрусткае сухое галлё. І раптам падскочыў, заенчыў на ўвесь лес — з дупла вылецелі, густа закруціліся ў паветры і накінуліся з усіх бакоў на Смаўжа восы... Цэлым клубком завірылі каля яго — Грыша зваліўся з дрэва, усхапіўся на ногі і кінуўся ў арэшнік, галосячы ад болю і страху.

Хлопцы пападалі на зямлю, качаліся, хапаліся за жываты ад рогату.

— Так вам не пройдзе! — крычаў, гразіўся з арэшніку Грыша.— Бацьку раскажу... Ён вам скуру спусціць, гады падкалодныя.

— Гэта за птушак восы табе адпомсцілі. Будзеш ведаць, як лазіць сваімі паганымі рукамі ў дуплы! — азваўся Валодзя.

Хлапчукі ішлі і доўга рагаталі.

— Цікава паглядзець зараз на яго... Морда, мабыць, распухла, як вымя ў каровы. Адны вушы з яе тырчаць.

— І вочы заплылі... На кітайца цяпер ён падобны, ха-ха-ха!

Сонца падымалася над лесам. Промні папратыкаліся праз лісці, нацягнуліся між дрэў тонкімі меднымі струнамі цымбал. І здавалася, што ў лесе не птушкі спявалі, а нехта нябачны цілінькаў, іграў на гэтых сонечных струнах.

— О, глянь, баравікоў знайшоў. Аж два! — усклікнуў радасным голасам Валодзя, стаў пільней глядзець у верас, таптацца па ім.

Падбег Сяргей, зірнуў пад бярозавы куст — у леташнім сухім лісці стаялі чорнагаловыя прысадзістыя грыбы з пукатымі белымі каранямі. Валодзя зрэзаў іх нажом:

— Моцныя і пругкія. Як рэпа... Каб поўны кошык такіх!

— Давай, Валодзя, пойдзем у заклад, хто больш грыбоў назбірае,— прапанаваў Сяргей.

— Толькі на што будзем спрачацца?

— На дзяжурства. Скажам, калі ў мяне менш баравікоў у кошыку, лезу за цябе дзяжурыць на пажарную вышку. Сыраежкі, чырвонагаловікі розныя, казлякі не ідуць у лік...

— Згодзен. Сустрэнемся на дарозе.

Яны разышліся ў розныя бакі. Сярожа ўвайшоў у густы беластволы бярэзнік, пачаў пільна глядзець сабе пад ногі, віляць між ствалоў дрэў. Баравікоў нідзе не было відаць, трапляліся толькі зялёныя крохкія сыраежкі, танканогія абабкі, чырвоныя, з кароценькімі спаднічкамі на ножках мухаморы, абкропленыя белымі плямкамі... Да

аксаміту дробнага моху папрышываліся жоўтымі гузікамі чародкі лісічак.

А вось і першы баравік! Ды яшчэ які!

Вялізны, як рэшата, ён падпёр сваім жоўтым капелюшом бярозку і нібы сам прасіўся ў рукі. Сяргей зрэзаў яго і ад здзіўлення прысвіснуў — баравік заняў усё дно ў кошыку...

Як ні бегаў потым па лесе хлопчык, больш, бы на зло якое, баравікі яму не трапляліся на вочы. Ён пачаў злавацца на сябе. Падумаў, што Валодзя за гэты час, мабыць, цэлы кошык нарэзаў баравікоў. Звярнуў у дубовую граду, прайшоў трохі і раптам прысеў ад нечаканасці і здзіўлення — пад дубам, у пруткім сіўцу, сядзела цэлая кампанія чорнагаловікаў. І ўсе адзін у адзін — маладыя, ядраныя, прысадзістыя. Быццам сабраліся з усяго лесу на сход ці пагулянку якую.

Ля трухлявага пня Сяргей убачыў і іх атамана — таўстапузага мацака. Узяў яго рукою за слізкі капялюш, падрэзаў і паклаў у кошык... За ім пайшлі туды і яго меншыя браты.

— Сорак адзін, сорак два,— зразаў і лічыў баравікі Сяргей, і такі яго ўзяў азарт, што аж у грудзях прыемны казытлівы халадок захадзіў хвалямі.

— А-а-а! Валодзя-я! Неруш знайшо-оў! — на ўвесь лес закрычаў ён і прыслухаўся.

Сябар не адгукнуўся — не пачуў яго голасу. Хутка кошык быў з верхам напоўнены цвёрдымі смуглагаловымі баравікамі, а засталося іх яшчэ многа, стаялі, як салдаты, пад кустамі, ля іншых дубоў.

Сяргей скінуў з сябе кашулю, перавязаў яе папружкаю

ў каўняры і пачаў зразаць і складваць баравіковае войска туды. І ў кашулі іх стала, як завязаць.

Зноў стаў клікаць Валодзю.

— Іду-уу! — пачуў ён далёкі, глухі, як з-пад зямлі, голас.

Калі падышоў з пустым кошыкам Валодзя, Сяргей кінуўся, бы туземец, у скокі, прыгаварваючы:

— Ты прайграў, ты прайграў! Будзеш сядзець, бы сава, на вышцы.

Валодзя як не самлеў, калі глянуў на баравікі.

— Вось гэта накасіў!

— Усіх дзвесце грыбоў! — пахваліўся Сяргей.

— А я, думаеш, так сабе па лесе блудзіў. Без дай прычыны, думаеш? Слепет знайшоў. Слепет, разумееш, што гэта такое?

— Што? — падняў на яго вочы Сяргей.

— Дзікія пчолы ў дубе!

— Хіба жывуць пчолы ў дуплах?

— Ха-ха! Насмяшыў — раней, у старадаўнія часы, яны толькі і вяліся ў дуплах. Гэта чалавек іх пазней прыручыў, вуллі стаў ім рабіць.

— А як ты іх убачыў?

— Зусім проста... Біноклем... Стаў глядзець у дупло, што было высока ў дубе, а ля яго аж кіпіць паветра ад пчол. Снуюць туды-сюды. Хто з іх за ўзяткам ляціць у поле, а хто з мёдам вяртаецца дамоў, у свае соты. Блізка той дуб ля дарогі. Будзем дамоў ісці, пакажу.

— Можа, шэршні? — не даваў веры Сяргей.— Ці такія пчолы, што Смаўжа пакусалі...

І засмяяўся.

— Калі ўбачыш, не будзеш так гаварыць,— пакрыўдзіўся Валодзя.

Яны налажылі поўныя кашы баравікоў і рушылі на дарогу.

## 12

Апоўдні Сярожа дома не знаходзіў сабе месца, кружыў па хаце, выходзіў на двор, доўга стаяў і ўглядаўся ў вышку, бачыў на ёй далёкую дробную постаць Валодзі, думаў: «Галодны. Якраз абед, а падмяніць яго няма каму».

Заўсёды хлапчукі мяняліся на вышцы ў палове дня — адзін дзяжурыў да абеду, другі пасля, а сёння Валодзя будзе тырчаць на пажарцы цэлы дзень — прайграў учора спрэчку... Сяргею стала шкада сябра, ён вярнуўся ў хату, адрэзаў лусту хлеба, намазаў яе маслам, прыхапіў бутэльку малака і пайшоў на двор лясніцтва.

Валодзя здалёк убачыў яго, замахаў шапкаю.

— Лезь сюды, пагаварыць хочацца!

Хутка Сяргей, трымаючы ў руцэ палуднік, узлез па лесвіцы на памост вышкі.

— Ці не падмяніць задумаў? — спытаў Валодзя.

— Ага... Цэлы ж дзень хіба ты ўседзіш?

— Не, нічога не будзе... Нават не думай. Слова сваё заўсёды трэба трымаць. Прайграў — сядзі!

— Дык мо перакусіш хоць? Я во прынёс...

І Сяргей паказаў на малако і хлеб, завязаныя ў хусцінку.

— Падсілкавацца можна. А мяняцца — не! Калі іншым

разам ты прайграеш спрэчку, падмяняць не буду. Так і ведай.

— А можа, і не прайграю...

— Кожны раз не выйграюць.

— Не сумна табе тут?

— Не. Свежае паветра, сонца свеціць.

— А мне моташна аднаму. Без цябе...

— Хе, насмяшыў,— усміхнуўся Валодзя.— Рэвалюцыянеры па дзесяць гадоў сядзелі ў цемнаце ў камерах-адзіночках. І былі прыкутыя ланцугамі да сцяны. І вытрымалі... А тут такі прастор! — Ён зірнуў уніз і ўбачыў Трахіма Смаўжа, які паказаўся ў варотах, ішоў да ганка лясніцтва, трымаючы ў руках ласіныя рогі. Таўхануў пад бок Сяргея.— Няўжо лася забілі? Ідзі даведайся. Мне раскажаш.

Сяргей хутка спусціўся па лесвіцы на зямлю і пабег у лясніцтва.

У кабінеце ляснічага было багата мужчын. Яны абкружылі Трахіма, разглядвалі рогі, трывожна гаварылі. Алесь Пятровіч ад хвалявання часта пыхкаў цыгарэткаю, хадзіў па кабінеце ўзад-уперад, і ў яго пад нагамі паскрыпвала падлога...

— Браканьер завёўся! — трывожна гаварыў ляснічы.— Той раз дзіка з-пад носа ўзяў, а цяпер да ласёў дабраўся. Трэба абавязкова высачыць. І паведаміць у міліцыю.— Ляснічы сеў за стол, зірнуў на Трахіма.— Кажаце, знайшлі ў Гнілой рэчцы?

— Ага,— круціў у руках ласіныя рогі Смоўж, паказ-

ваў іх.— Іду я, значыцца, чую, сарокі трашчаць у гушчары... Сабралася іх там цэлая плойма. І вароны наляцелі. Я туды, да іх. Глядзь — рогі ляжаць... І кішкі белыя. У мяне сэрца ледзь з грудзей не выскачыла — няма лася! Забілі бандзюгі нейкія. Яшчэ на тым тыдні яго бачыў, хлеб з рукі даваў. Харошы быў лось, высокі. І свойскі такі... Як шкада! Каб злавіў таго, хто яго забіў, разарваў бы, здаецца, на часткі.

На вачах у Трахіма паказаліся слёзы. Ён адвярнуўся ад мужчын і пацягнуў рукавом па твары.

— Не гаруйце, Піліпавіч, знойдзем і пакараем злачынца.

— А як вы яго знойдзеце? Хіба ён такі дурны, каб папасціся...

— Сабак па слядах пусцім.

— Даўно ўжо дажджом змыла тыя сляды. Забілі ж лася ў непагадзь, калі нікога ў лесе не было.

Ляснічы падняўся з-за стала.

— Вы, Піліпавіч, сёння займіцеся следствам. Пакуль з раёна міліцыя не прыедзе.

— Добра. Буду старацца... Дзякую за давер,— пакланіўся Алесю Пятровічу Смоўж.

Леснікі разышліся. Засталіся ў кабінеце з ляснічым толькі Смоўж і дзядзька Міхась. Алесь Пятровіч убачыў Сяргея і паклікаў яго да стала.

— Расказвай, герой, як пчол знайшоў!

— Гэта не я, а Валодзя.

— Удвух яны выцікавалі,— усміхнуўся дзядзька Міхась.— Малайцы, хлопцы!.. Пасля вайны ніхто ў нас дзікіх пчол не знаходзіў. Лазіў я на гэты дуб. Вялікая іх сям'я

ў дупле. І старая, мабыць, бо цэлымі жменямі сыплюцца ў дупло. Каб выбраў адтуль мёд, было б два пуды. Што мы з імі будзем рабіць, Пятровіч?

— Дуб трэба ўзяць пад ахову. Абавязкова! Абгарадзіць. І прыдумаць нешта, каб ніхто не залез на яго. Дрэва стане запаведным. Хай людзі дзівяцца, што ў нашым лясніцтве жывуць дзікія пчолы.

— Я з Валодзем буду іх вартаваць, Алесь Пятровіч,— азваўся Сяргей.— Можна нам, га?..

— А я і хацеў вас прасіць,— усміхнуўся ляснічы.— Вы сапраўднымі лесаводамі сталі.

## 13

Калі добра сцямнела і заціхла, хлапчукі вынялі ў плоце калок і, аглядваючыся па баках, палезлі праз дзірку на двор Смаўжа. У вокнах гарэла святло, нехта хадзіў па хаце, некалькі разоў адсоўваў у бакі фіранку, выглядаў. Тады хлопцы клаліся на зямлю і нерухома ляжалі, затаіўшыся. Ціха, аж у вушах калола, толькі чуваць было, як дрогка стукала ў грудзях сэрца — убачыць, не дай бог, Смоўж, выскачыць са стрэльбай на двор. Тады ім нездабраваць... А можа, завёў сабе сабаку і прывязаў яе пад паветкаю? Не, здаецца, няма. Хлопцы адпаўзлі ад святла, што падала з акон, апынуліся пад паветкаю і трохі пасмялелі.

— Павартуй тут, я ў хляўчук залезу. Там птушкі і звяры. Бачыў, што Грышка туды нанач клеткі ставіць,— прашаптаў на самае вуха сябру Валодзя.

Ён намацаў зашчапку, заткнутую палкаю, выцягнуў яе з прабоя, ціха адчыніў варотцы і знік у хлеўчуку.

— Трымай! — пачуўся раптам адтуль яго голас.

Сяргей працягнуў у варотцы рукі, узяў клетку і пачаў намацваць у ёй дзверкі. Ад страху рукі дрыжалі, і ён доўга, калі знайшоў, адшпільваў іх. Потым перавярнуў клетку — у ёй залапатала крыламі і выкінулася на зямлю нейкая птушка...

Валодзя падаваў і падаваў яму клеткі, падспешваў ціхім голасам:

— Хутчэй!

І раптам сэрца абарвалася ў грудзях — у хляве, дзе стаяла карова, трывожна загергеталі гусі. Адчыніліся дзверы, і нехта выйшаў на ганак, пастаяў, прыслухаўся.

— Прыснілася гусям нешта! — пазналі яны Трахімаў голас.— Крычаць, быццам іх рэжуць.

І зноў бразнулі дзверы — Смоўж падаўся ў хату.

— Пранесла! — выдыхнуў Валодзя.— Бяры апошнюю клетку.

І вылез з хлеўчука.

— Павыпускалі на волю ўсіх яго вязняў. Паразбягаліся і цяпер радуюцца,— шэптам сказаў Сяргей.

— І дзякуй не сказалі.

— Скажуць, калі вусеняў будуць знішчаць...

Зноў прыслухаліся, прытаіліся, пачалі меркаваць, як праслізнуць праз святло, якое падала з акон пад самы плот.

— Сяргей! — ціха аклікнуў Валодзя.

— Што?

— Давай пад акно падкрадзёмся, пабачым, што Смаўжы робяць.

— Боязна!

— Цяпер не бойся... Мы ціхенька, як вужы.

І Валодзя пасунуўся ад дрывотні да акон. За ім услед папоўз і Сяргей. На прызбе яны затаіліся, зазірнулі праз шчыліну ў фіранцы ў хату — за сталом сядзелі Смоўж і Лёнька, махалі адзін перад адным рукамі і размаўлялі.

Хлапчукі прыслухаліся.

— Абвёў хвацка ўчора я ляснічага. Рогі ад лася прыпёр яму... Так і так, Пятровіч, кажу, зноў браканьеры ў лес унадзіліся. Лася ўгробілі. Майго любімага сахатага... Хлебам яго карміў. І заплакаў перад ім нават,— скрыпеў хрыпаты голас Трахіма.

— А што ляснічы казаў? — пачуўся другі голас.

— Пачаў суцешваць мяне. Даручыў высачыць браканьераў. А хіба сам сябе будзеш высочваць? Казаў яшчэ, што міліцыя прыедзе. З сабакам.

— Няўжо? Хана нам!

— Чаго закалаціўся, пляміш? Зрабілі так, што і сам міліцэйскі міністр нічога не даведаецца. Па-першае, на мяне, лесніка, ніхто не падумае, па-другое, мяса схавалі ў Сямёна Грышчука... Ён не выдасць, ды і іншая зусім вёска.

— А сабака?

— Мы ж цэлы пуд махоркі рассеялі па сваіх слядах. Добра начхаецца той сабака.

— Хаця б Сямён не выдаў...

— Тады і яму неба ў клетачку будзе. За групаўшчыну! Быў жа з намі... Так што, пляміш, справы нашы ідуць добра. Падцерлі ім усім нос. Той раз дзіка, цяпер лася апрыходавалі. Пара і баброў патрывожыць... Сёння я хадзіў ля іх хатак, нарабіў метак, дзе трэба капаць.

— Цяжка будзе павыганяць баброў з таго ламачча, што яны навалілі.

— Выкурым... Кажу табе, што ўдзень намеціў я, дзе хады... Раскапаем, запалім анучы, усунем іх у нару, каля выхаду ў рэчку петлі паставім. Рыхтуйся, заўтра ноччу пойдзем...

— Сабаку браць?

— Ты што, не ў сваім розуме? Пачне брахаць на ўвесь лес... Ціха трэба каб было...

— А стрэльбу?

— Як закон. Мала што можа здарыцца.

— Дык я, дзядзька, пайду.

— Пачакай! Забыў табе сказаць. Нашыя лясніцкія саплякі, Валодзя і Сяргей, дзікія пчолы знайшлі ў дубе. Учора ў лясніцтве гаварылі. На тым тыдні падбяром цёмную ноч і выдзерам мёд. Медавуху добрую зробім!

Сяргей і Валодзя пераглянуліся, ссунуліся з прызбы і нагінкам кінуліся да плота. Пралезлі праз дзірку і паставілі на месца калок.

## 14

Хлапчукі замаскіравалі сябе добра: леглі за вялікім вываратнем, з якога тырчалі, як ласіныя рогі, тоўстыя карэнні, заклалі сябе галлём, зацерусіліся лісцем. Было цёмна і дрыготка... І было б, напэўна, вельмі страшна ім у гэтым глухім балоце, каб паблізу, за камлямі дрэў, не ляжалі са стрэльбамі леснікі і міліцыянеры — тут, ля бабровай хаткі, яны зрабілі на браканьераў засаду.

Ціха, не чуваць ніводнага голасу, толькі шэпча недзе ў чароце ручай...

І раптам хлапчукі прыслухаліся — на рэчцы пачуліся плёскат вады, ціхая гаворка...

На завадзь, якая цьмяна падсвечвалася небам, выпаўзла з туману лодка. У ёй сядзела двое. Пярэдні трымаў у руках ружжо, а той, што на карме, асцярожна апускаў вясло ў ваду, ціха гроб да бабровай хаткі, якая, бы капа сена, вырысоўвалася ля берага... Зашуршаў чарот, і лодка ўткнулася ў пясок. Пярэдні, наставіўшы перад сабою ружжо, ступіў на бераг, стаў, пакруціў галавою і прыслухаўся. Грабец паклаў вясло, ускочыў з месца, захістаўся ў лодцы і шуснуў нагамі ў чарот, вылаяўся:

— Эх, чорт! У нейкую яму трапіў!..

Пад ім затрашчала ламачча, забулькала вада.

— Ціха ты там, мядзведзь! Акуляры трэба насіць, калі нічога пад нагамі не бачыш,— прашыпеў першы.

Хлапчукі па голасу пазналі Трахіма і замерлі за карчом.

— Тут і чорт ногі зломіць! — азваўся другі.

Гэта быў Лёнька, пляменнік Смаўжа. Ён доўга плюхаўся ў вадзе, крактаў, пакуль не вылез на бераг.

— Ну, пара! — варухнуўся Трахім і пачаў набліжацца да хаткі. У яго ў руках раптам бліснула — браканьер запаліў кішэнны ліхтарык, стаў вадзіць святлом па ламаччы бабровай хаткі. Потым паставіў, прысланіў да вольхі стрэльбу, нагнуўся і вырваў з зямлі калок.

— Капай тут! А я анучы запалю. Толькі цішэй, бо галлё трапічыць пад табою, як пад сланом.

— Тут і косці могуць затрашчаць.

— Баязлівы ж ты. Чуваць, як зубы адбіваюць чачотку.

— Гэта ад холаду. У ваду ўваліўся.

— Трэба глядзець, куды ступаеш!

— Глядзець, глядзець... Хіба ўгледзіш у гэтай цемені?

Лёнька плюнуў на рукі, узяў лапату, паставіў старчма на тое месца, дзе была метка-калок, і націснуў на яе нагою.

Трахім выняў з торбы анучы, склаў іх у кучу, забразгацеў запалкамі і прысеў на кукішкі, каб падпаліць.

— Стой! Ні з месца. Страляць буду! — крыкнуў і першы выскачыў з засады міліцыянер.

Трахім аж падскочыў ад страху, кінуўся да вольхі, дзе была стрэльба, але нос у нос сутыкнуўся з ляснічым, які трымаў у руках нацэленае на яго ружжо:

— Рукі ўгору!

Смоўж пабялеў увесь і марудна высунуў над галавою рукі.

Пляменнік, як толькі да дзядзькі кінуўся міліцыянер, пружыніста падскочыў, сігануў праз бабровую хатку і кінуўся ў кусты.

— Назад! Лаві яго!

Сяргей і Валодзя выскачылі са сваёй засады, але зноў пападалі за корч — на іх, растапырыўшы ў бакі рукі і ламаючы кусты, пёрся Лёнька. З разгону ён пераскочыў корч, за якім сядзелі хлапчукі, і бразнуўся вобзем — Валодзя падставіў яму нагу. Прыбеглі леснікі, наваліліся на браканьера, скруцілі яму назад рукі.

Лёнька спадылба коса глянуў на хлапчукоў, заскрыгацеў зубамі:

— Ы-ых, гады! Каб ведаў, перадушыў бы вас!

Міліцыянер таўхануў яго ў спіну:

— Пайшлі!.. На гэты раз не вы, а вас упалявалі!

Смаўжа і Лёньку вывелі на дарогу і пасадзілі ў міліцэйскую машыну.

## 15

Пасля ўрокаў Сяргей і Валодзя вырашылі пайсці ў лес. Ім карцела пахадзіць па лясных сцежках, па якіх бегалі ўсе летнія канікулы.

Быў канец кастрычніка. А здавалася, што лес цвіў. Лісці на клёнах былі чырвоныя, як лапкі ў гусей, і адсвечваліся на сонцы залатым колерам. А бярозы гарэлі жоўтым святлом. На дубах быццам звінелі ад ветру каляныя лісці. Яны ападалі на зямлю, ціхенька шапацелі, калі слаліся адзін на адзін пад дубам. І толькі познія жалуды гучна шпокаліся з вышыні, кlaліся ў мяккую пасцель, каб пераспаць зімку, а вясною збудзіцца і пусціць парасткі. Дыхне вецер — у паветры адразу закалышацца густы ліставей. І закружыцца, завіруе завіруха з кляновых, бярозавых, дубовых лістоў.

— Як хораша! — выдыхнуў Валодзя.

— Быццам вясною! — сказаў Сяргей.— Толькі замест белых пялёсткаў на зямлю сыплюцца жоўтыя. І птушкі не спяваюць.

І раптам рэзка крыкнула ў іх над галовамі сойка, недалёка абазваўся дзяцел.

— Чуеш?

— Зімаваць будуць.

— Ага. Зараз сойка запашвае на зіму жалуды, а дзяцел выбірае сабе лепшыя шышкі, каб было што есці ўзімку.

Падышлі да вялізнага дуба. У яго дупле Валодзя знайшоў неяк улетку дзікія пчолы. Дуб быў абгароджаны. Хлапчукі зірнулі ўгару — пчолы яшчэ не заснулі на зіму, вяла лёталі каля дупла, выпаўзалі з яго на кару дрэва, каб апошні раз пагрэцца на познім восеньскім сонцы.

— Прыязджаюць паглядзець на нашых пчол людзі з другіх вёсак. Для іх гэта дзіва. Бо дзікія пчолы рэдкія вельмі цяпер у лесе,— сказаў Валодзя.

Яны адышлі ад дуба і пайшлі далей у лес. Трэба было паглядзець на сеянцы хвоек, якія некалі пералычыў дзік. Перайшлі лясную сырую даліну і апынуліся каля жардзяной агароджы. Спыніліся, і радасць ахапіла хлапчукоў — хвойкі сярод шэрай ссохлай травы празрыста зелянелі, роўненькімі шнуркамі цягнуліся па дзялянцы далёка, аж да хваёвага бору,— быццам спяшаліся да сваіх бацькоў.

Хлапчукі моўчкі стаялі, глядзелі на маленькія, як немаўляты, хвойкі.

Валодзя не вытрымаў, уздыхнуў:

— Эх, хутчэй бы зноў лета! І мы пачалі б працаваць...

— У лясніцтве,— дадаў Сяргей.

# МІЦЬКА, ВАЛІК І Я

## Частка першая

### 1

Цэлы дзень я не выходзіў на вуліцу, сноўдаўся па хаце, ненадоўга выбягаў на двор, стаяў ля плота і чуйна прыслухоўваўся да таго, што рабілася вакол. Гергеталі, быццам патрывожаныя гусі, гітлераўцы, раўлі машыны, і калі-нікалі ў паветры лопаліся рэзкія кароткія стрэлы — як пугаю хто ляскаў. Да вушэй даносілася кудахканне, брэх і ёкат. Гэта, ведаў я, варожыя салдаты ганяліся за курамі, стралялі сабак.

У другім канцы вуліцы раптам адчайна і бездапаможна завішчаў вяпрук. Потым, знямогла рохкнуўшы, заціх — забілі. Глянуў у канец вуліцы і ўбачыў густы дым, які падымаўся над хатамі, валіў у неба чорнымі клубамі. Гэта, відаць, смалілі вепрука, дрыжлівы і роспачны голас якога яшчэ стаяў у маіх вушах. Шкада мне было яго. Каб хаця хто іншы забіў, а то — фашысты.

— Лёнька, дзе ты? Хадзі, сынок, у хату!

Зноў кліча з парога, адчыніўшы насцеж дзверы, мяне ў хату маці, бо баіцца, каб я не збег туды, дзе страляюць, і не нарваўся на варожую кулю. І вось цэлы тыдзень, з таго дня, калі ў вёску панаехала гітлераўцаў, не пускае мяне на вуліцу гуляць, вартуе, як нейкага арыштанта. Ка-

нечне, я даўно мог бы збегчы, але не хацеў трывожыць, крыўдзіць маці. Будзе, ведаў, бегаць за мною, галасіць, баючыся за адзінага свайго сынка. За мяне, значыцца. Неахвотна я пайшоў у хату.

Калі пераступіў парог і зачыніў за сабою дзверы, маці выцягнула з-пад лавы кош, у якім ляжалі струкі леташняй фасолі.

— Павылузвай, сынок, фасолю.

Змарнела, аціхла ў апошнія дні яна, гаварыла са мною мала. Усё маўчала і цяжка ўздыхала з таго дня, як прыйшлі ў мястэчка немцы. А зусім нядаўна была весялухай: і пажартуе, і казку раскажа старую, якую не вышукаеш нідзе ў кніжцы, і песню нашую палескую так хораша завядзе, што аж на душы лагодна рабілася.

Я разаслаў на падлозе матчын фартух, сеў і пачаў абіраць з бадылля струкі. Былі яны тугія, спелыя. І звінелі маленькімі званочкамі, калі тармуснеш іх. А возьмешся за адзін — трэсь! Нейкая нябачная спружына, здавалася, распрамлялася ў струку — струк уздрыгваў у далоні і выстрэльваў з сябе бліскучыя фасоліны. Яны, падскакваючы, разбягаліся па падлозе, закочваліся пад лаву, стол, ложак. Я поўзаў наўколенцах, збіраў фасоліны, клаў на фартух, у адно месца, сядзеў над імі і не мог адарваць вачэй. Белыя і рабенькія, пабітыя на жоўтыя і чорныя лапінкі, рудыя і чырвоныя, яны здаваліся мне маленькім статкам кароў, які пасу на поплаве. А тыя фасоліны, што выскаквалі са струкоў, разбягаліся па падлозе, лічыў за каровак, што пабеглі ў шкоду, і іх трэба завярнуць і далучыць да статка. Так і рабіў.

Самае цікавае было вось што: ніколі не ведаеш, якога

колеру, масці будуць фасоліны ў струку, калі бярэш яго ў рукі. Падумаеш — белыя, а трэсне стручок — фасолевая абоймачка стрэліць рудым семянам, прадаўгаватым і бліскучым, падобным на сапраўдныя кулі, сыпане чаргою па падлозе.

Маці сядзела на лаве і абірала бульбу на вячэру. Я чуў, як блёўкалі ў ваду ў чыгуне аблупленыя бульбіны, як шаргацеў аб шалупінне ножык у матчыных руках.

— Мама!

— Што, сынок? — абазвалася яна.

— От добра было б, каб замест гэтых фасолін — ды кулі.

— Нашто яны табе? — паглядзела на мяне.

— Як — нашто? Фашыстаў страляць.

Нож у руках маці застыў, перастаў лупіць бульбіну, з якой звісала доўгая шалупайка.

— Малы яшчэ,— пахітала яна галавою.— На печы табе толькі сядзець.

— Бацьку аддаў бы,— кажу.— Ён сыпануў бы з аўтамата па іх. Тр-р-р, тр-р-р, тр-р-р! От бы давалі драпака з вёскі.

— Дзе ты таго бацьку знойдзеш? — уздыхнула маці.— Можа, ужо галаву дзе паклаў...

— У лесе... Ён жа ў партызаны пайшоў.

Яна ўсхвалявалася не на жарт, калі пачула ад мяне такое, і голас маці задрыжаў:

— Ты хоць, сынок, на вуліцы нікому не кажы, што бацька ў лесе... Калі дачуюцца немцы ці паліцаі, застрэляць нас.

— Не бойся, мама,— пачаў супакойваць яе,— нікому

не скажу, каб з гэтага месца не ўстаў. Ды і на вуліцу я не хаджу... Не пускаеш мяне...

— Пушчу, калі вылюдкі з'едуць з мястэчка. Нагнала іх сюды, як сабак. Бегаюць па дварах... Учора, калі ты спаў, усіх нашых курэй палавілі.— Маці паднялася з лавы і пачала паласкаць у вадзе бульбу.— Учора Тэклінага Толіка забілі. Падышоў быў да іхняй машыны, каб паглядзець на яе, памацаць... Вядома, дзіця... А яны, крывасмокі, па ім з аўтамата... А такі прыгожы хлопчык быў, паслухмяны, разумны. Вось і не пускаю цябе з хаты... Баюся, каб не забілі.

Маці памыла бульбу, падпаліла ў печы.

Агонь доўга кволіўся пад паленцамі, потым учапіўся за дровы, заскакаў па іх, затрашчаў, абхапіў, абняў з усіх бакоў чыгунок, і неўзабаве ў ім паднялася і завіхурылася пена.

Раніцай я прачнуўся ад чужога мужчынскага голасу. Нехта хрыпата, сярдзіта гаварыў з маці... Вызірнуў з-пад коўдры — сярод хаты стаяў даўганосы, са сплюснутым з бакоў тварам, падобным на сякеру, што ляжала ў нас на дрывотні, паліцэйскі Цімох Рымша. Яго хістала на цыбатых нагах-хадулях, вадзіла ў бакі, вочы блішчалі, як у воўка, язык заплятаўся ў роце — няпрошаны госць недзе добра налізаўся гарэлкі, і вось цяпер прынесла яго да нас.

— Выбірайся з хаты! — злосна прагугнявіў у нос Рымша.— Тут будзе жыць сам гаспадзін камендант.

Маці заплакала ўзахліп, пачала выціраць фартухом вочы. Мне вельмі шкада стала яе, злосць распірала грудзі, я,

здаецца, выскачыў бы з-пад коўдры, кінуўся на паліцая і ўчапіўся б зубамі, каб не было ў яго руках доўгай, як кій, вінтоўкі, на якой таямніча і страшна пабліскваў затвор. Эх, мне б дастаць дзе такую штуковіну! Падвартаваў бы гада ў цёмным месцы і ўклаў бы яго.

Рымша пайшоў за дзверы і хутка вярнуўся назад з трыма гітлераўцамі. Я нерухома ляжаў пад коўдрай, баяўся паварушыцца, каб думалі, што сплю, чуў блізка ля сябе цяжкія крокі фашыстаў, іх незразумелае гергетанне, рогат, і халодныя дрыжыкі бегалі па ўсім маім целе.

Раптам нечая рука рванула, пацягнула да сябе коўдру, і я аж падскочыў ад страху на ложку, няўцямна паглядзеў на гітлераўцаў.

— Партызан! — тыцкалі яны пальцам у мой бок і аж клаліся ад смеху.

Так блізка немцаў бачыў я першы раз. Былі яны ў зялёных пілотках, такой жа вопратцы, у бліскучых ботах з шырокімі халявамі, з аўтаматамі за плячыма... Гладкія, чырвоныя іх твары аж блішчалі ад тлушчу. І калі гітлераўцы шчэрыліся ад рогату, пухлыя іх шчокі раз'язджаліся ў бакі, твары яшчэ больш шырэлі і рабіліся круглымі, як спелыя дыні.

Адзін гітлеравец трохі ўмеў гаварыць па-руску, і яго можна было зразумець, калі добра прыслухаешся да таго, што ён гаварыў...

— Я дзяншчык камендант,— тыцнуў ён сабе ў грудзі.— Буду здзесь на кварцір.— Павярнуўся да сваіх таварышаў, нешта сказаў ім па-свойму. Тыя кінуліся ў другую палову хаты, прыбраную і чыстую, пачалі ламаць і

выносіць на двор вазоны, вяртацца назад з чамаданамі і нейкімі металёвымі скрынкамі.

Раптам адчыніліся дзверы і паказалася рудая пыса вялізнага сабакі. Я ўвесь пахаладзеў — гэта была аўчарка. Яна люта павяла вачыма па хаце, высалапіўшы чырвоны доўгі язык, потым увайшла, за ёй, трымаючы ў руках скураную шворку, у дзверы ступіў здаравенны і круглы, як бочка, немец, грудзі якога былі абчэплены нейкімі бліскучымі значкамі і металёвымі арламі. «Камендант!» — здагадаўся я. Так яно і было. Пузаты немец агледзеў хату, згодна паківаў галавою дзяншчыку, які хутка падбег і нешта прабалбатаў яму, і сеў на табурэт. Пільна паглядзеў на маці, перавёў позірк на мяне, і вочы яго спыніліся.

Нешта падумаў, палез рукою ў кішэню свайго фрэнча, выняў з яе жменю цукерак і паківаў мне пальцам:

— Ком, ком!

Ногі мае нібы прыраслі да падлогі, я не мог імі паварушыць ад збянтэжанасці і страху і, калі камендант паклікаў мяне другі раз, ледзь зрушыўся з месца, але, каб не ўводзіць у злосць фашыста, падышоў і падставіў пад яго руку прыпол. Цукеркі мякка пасыпаліся ў сарочку.

— Гут, гут! Карошы мальшык! — абазваўся немец і працягнуў руку, каб пагладзіць мяне па галаве, але я адхіснуўся ад яго далоні, пабег да маці, што стаяла з клункам у парозе, прыціснуўся да яе.

— Малый больтшавік! — пракартавіў камендант і памахаў на мяне пальцам.— Плёхо, очень плёхо!

Калі я выйшаў з мамай з хаты і трохі апрытомнеў, схапіў у жменю цукеркі, якія насыпаў мне камендант, і шпурнуў іх за плот у густую крапіву.

У сваю маленькую пакрыўленую хатку нас прыняла цётка Грыпіна. Дах на хатцы быў дзіравы, з'язджаў на маленькія акенцы і амаль засланяў сонца, як ссунуты на вочы брыль. У двары меўся збіты з аполкаў хляўчук, у якім некалі цётка гадавала вепрука. Цяпер у ім жыў я... Склаў з дошак сабе палок, наклаў на яго старой, выцвілай саломы, заслаў яе латунамі — вось ложак і гатовы. Цяпер радзей буду тырчаць у маці на вачах. Не стане яна кожны раз дудзець на вуха: не хадзі па вуліцы, рабі гэта, рабі тое.

2

Дзіўны мне прысніўся сон. Быццам сяджу за партай, а перада мною ляжыць не кніга, не сшытак, а разасланы матчын фартух. І не такі, як цяпер, вылінялы, з плямамі, а новенькі, у чырвоныя кветкі. У парце поўна розных ласункаў: абаранкі, пернікі і нават цукеркі. Я выцягваю ўсё гэта, кладу на фартух і не толькі сам ем удосталь, але і частую таварышаў, што стоўпіліся каля мяне. Усе ўсміхаюцца. Ніяк не магу пазнаць, хто стаіць ля мяне, іх не відаць, але чамусьці ведаю — таварышы мне ўсміхаюцца. Настрой такі радасны, што ад яго ўсё навокал здаецца блакітным. Не неба блакітнае, не мора, не сінькай пабеленыя сцены — шчасце! Памятаю, я і раней думаў, што яно абавязкова павінна быць блакітнае.

Блакітнае шчасце сплыло, калі закрычала сава. Гэта ў сне падалося, што сава. На самай справе паліцэйскі адкрыў варотцы і крычаў у іх, каб хутчэй выходзілі на вуліцу. Я скінуў з сябе падраную коўдру і ў адных трусах выскачыў з хлеўчука.

Займалася на дзень. Пасля дажджу, які шапацеў, сіціўся цэлы тыдзень, парыла зямля. Туман нізка стаяў на вуліцы тонкай паскай, бы хто накурыў, мякка цёрся аб платы, траву, лісці вішняку. Кусты бульбы на агародзе густа абрасіла. Маці ўжо сабралася і стаяла на ганку з міскай у руках. Гэта мне. Яна заўсёды выносіла ежу сюды, каб не будзіць раней часу старую гаспадыню. Я спрасоння пазяхнуў, прысеў на ганак, хутка пасёрбаў цёплы ўчарашні боршч, нацягнуў на сябе штаны, сарочку і быў гатовы.

Ад нядаўняга сну ўсё яшчэ заставалася ўражанне нечага празрыста-блакітнага, бясконцага, няўлоўнага.

— Пара ісці,— сказала маці.

Калі давалі нарады на работу, паліцэйскія крычалі з самай раніцы. Усе ведалі, што трэба выходзіць з хат роўна ў сем гадзін, але ні адны дзверы не адчыняліся, пакуль старшы паліцай не праходзіў па вуліцы са свістком. Свісток служыў сігналам не для тых, хто ішоў на работу, а хутчэй для саміх паліцаяў, якія, пачуўшы свіст, разбягаліся па дварах, каб падагнаць людзей. Яны крычалі і пагражалі адвесці ў камендатуру жанчын, што не вельмі хутка збіраліся.

Я сёння праводжу маці да самай плошчы.

Маці трымае ў адной руцэ маленькі шэры вузельчык, другою вядзе мяне за руку, і мне дзіўна, што рука ў яе такая худая, вялая. Пальцы ў яе дрыжаць, і ўся яна пры кожным крыку ўздрыгвае і пачынае драбней перастаўляць ногі. У вузельчыку заўсёды адно і тое ж: бутэлька з вадою і акраец хлеба, у які замешана макуха. Хлеб пякуць увечары, а да раніцы ён засыхае і робіцца цвёрды, як гліна. На кансервавым заводзе, дзе працуюць жанчыны, дамоў

па абед не пускаюць, бо далёка, а раз у дзень даюць есці там. Ежа — поліўка з буракоў або бульбы. Хлеба не даюць.

Маці цягне мяне за руку, каб ішоў хутчэй, але я стараюся ісці памалу. Тыя, што працуюць на заводзе, гавораць: ісці трэба заўсёды памалу, дыбаць маленькімі крокамі, часта аглядвацца, быццам чакаеш суседа, рабіць выгляд, што спяшаешся, а на самай справе — наадварот, лепш затрымлівацца, дзе толькі можна. Гэта ўсе так робяць, каб прыйсці на завод пазней. Там сартуюць, перабіраюць, упакоўваюць у скрынкі гародніну, яблыкі і грушы для адпраўкі ў Германію. Усе заняты справай, а работа ідзе вельмі марудна — гародніна і садавіна гніюць.

Мая маці прыходзіць на плошчу ледзь не першая. Я ведаю — баіцца. Баіцца фашыстаў, паліцаяў, старасты, бо бацька ў партызанах. Ды і хто ў мястэчку немцаў не баіцца? Але мне ў апошні час пачало здавацца, што яна і суседзяў, і людзей, якіх ведала раней, пазбягае і ў мяне быццам просіць прабачэння, што няма чаго есці. Раней мне часта перападала ад яе за розныя штукарствы, а цяпер маці не заўсёды сварылася, хоць я амаль кожны дзень рабіў якую-небудзь шкоду.

Праводзіўшы маці, я зайшоў за штыкетнік і сеў на траву — схаваўся за шырокі куст бэзу. Калі разводзяць на работу, здараецца ўсякае, і трэба пачакаць, як маці пойдзе з усімі. Супраць мяне на плошчы выстраіліся людзі — адзін ля аднаго, у два рады. Ва ўсіх аднолькавыя вузельчыкі ў руках, а жанчыны — з завязанымі па самыя вочы галовамі: тырчаць толькі з-пад хустак насы ды губы,— не адрозніш, дзе маладыя, дзе старыя. Мая маці стаіць злева,

у другім радзе. Яна ведае, што я блізка, але ў мой бок не глядзіць, і я здагадваюся чаму. Каб старшы паліцай Рымша не злавіў яе погляду і не ўбачыў лішні раз мяне. Але Рымша з'яўляецца на плошчы не заўсёды, толькі ў асабліва важных выпадках. У астатні час паліцаі спраўляюцца без яго.

Усе стаяць у страі, бы застылі. Салдат лічыць: «Адзін, два, тры...» Толькі па-свойму, па-нямецку. На кансервавы не хочацца ісці нікому, бо кормяць там дрэнна, лепш працаваць у полі або ў садзе. Там работу заканчваюць раней і на абед адпускаюць дамоў. Але ніколі ніхто, акрамя паліцаяў, немцаў і старасты, не ведае, колькі чалавек трэба на завод, а колькі — у поле.

Лічаць жанчын асобна, мужчын асобна. А мужчын усяго толькі восем: трое хлопцаў, дзядзька Спірыдон, саўгасны рахункавод Апанас, два дзяды, якія ледзь трымаюцца на нагах ад старасці і голаду, ды электрык з кансервавага Цімох Бусел. Я заўсёды з трывогай чакаю, пакуль пералічаць. Напрыклад, на кансервавы патрабуецца столькі чалавек, а на другія работы — столькі. На гэта даецца нарад старасце, а ён ужо гаворыць паліцаям. Але яны, п'яныя, часам выганяюць на плошчу ўсіх без разбору, а часам і не тых, хто ім на работу патрэбен. Гэта заўсёды злуе немца, ён выклікае старшага і пры ім, тыцкаючы пальцам, выбірае са строю:

— Diese, diese und diese! [1]

Яшчэ горш, калі людзей не хапае.

Як зараз, напрыклад. Што не хапае аднаго, зразумела:

---

[1] Гэты, гэты і гэты! *(ням.)*

салдат паказаў палец. Не чакаючы, пакуль паклічуць Рымшу, паліцай пабег па яго, астатнія ў бліжнія дамы — адшукаць хоць каго-небудзь — і праз хвіліну прыгналі на плошчу Лену, пляменніцу старога настаўніка матэматыкі. На твары ў яе свежая драпіна — ударылі.

Калі Рымша падышоў, Лена стаяла насупраць людзей, што пастроіліся ў рад. Нават дзіўна: старшы паліцай да вайны быў звычайным пастухом. Яго лічылі добрым дзядзькам. Але вось прыйшлі немцы... Рымшу не толькі мая маці баіцца. Усе дрыжаць, калі пачуюць яго прозвішча. Злосны зрабіўся, горшы за сабаку. Наогул, я заўважыў, што, калі занялі мястэчка фашысты, багата хто змяніўся, а іншага чалавека нават не зразумееш, якім ён стаў: кепскім ці добрым.

Рымша, хістаючыся — з самай раніцы ён быў ужо п'яны,— размахнуўся і ўдарыў з усяе сілы Лену. Яна так і ўпала, скурчылася на зямлі. Жанчыны кінуліся былі да яе, каб падняць, але Рымша зноў замахнуўся з-за пляча.

— Назад! Таксама захацелі?!

Жанчыны адхіснуліся і зашапталіся між сабою. У мястэчку гаварылі, што старшы можа збіць чалавека да смерці. Ён ударыў бы Лену яшчэ і ўжо на ўвесь мах падняў палку, але здарылася нечаканае — правая рука яго завісла ў паветры, а левай Рымша схапіўся за штаны. Яны з'ехалі з ног на зямлю.

Наступіла цішыня.

Усе глядзелі на Рымшу. Я таксама, не зразумеўшы, у чым справа, падсунуўся бліжэй да агароджы.

І раптам пачуўся рогат. Смяялася Нінка, па-вулічнаму — Сінька. Сінькай клікалі яе праз маці, якая раней

гандлявала на кірмашы фарбай і на ўсё горла звала пакупнікоў: «Каму сінька?! Сінька блакітная, чырвоная, зялёная!» Канечне, Нінцы стаяць бы ды маўчаць, але Сінька ў маці ўдалася — крыклівая, гарластая. Вось і цяпер, давячыся смехам, крыкнула:

— Скажы, герой сярод баб, сваёй жонцы, каб гузікі мацней прышывала!

Я ледзь не выскачыў ад задавальнення з-за свайго куста. Паліцаі таксама заўсміхаліся. Рымша, пачырванелы ад злосці, вырачыўся на Нінку-Сіньку, вылаяўся. Пагразіў палкаю, але біць не стаў. Сінька махнула Ленцы рукою. Маўляў, станавіся ў строй, пакуль не позна... Малайчына Сінька! Вось табе і дачка гандляркі. Я ж казаў, што людзі быццам цяпер не тыя. Сіньку ў мястэчку не любілі, а глядзі — не пабаялася.

Нарэшце ўсе пайшлі доўгім ланцугом. Па баках два паліцаі, наперадзе нямецкі салдат з аўтаматам. Рымша застаўся на плошчы збіраць свае гузікі.

Калі вяртаўся назад, мне ўжо не трэба было прытварацца, што спяшаюся, і я ішоў, як хацеў, калі бежкі, калі марудна. Бег паўз наш дом, у якім жыў камендант, імчаўся цераз чужыя агароды або шырокай местачковай вуліцай, скрозь зарослай травой — па ёй цяпер амаль ніхто не ездзіў.

Толькі звярнуў у вулку, каб ісці дамоў, да цёткі Грыпіны, убачыў, як паперадзе мяне, у самым канцы вуліцы, верхам на кійку, падганяючы свайго «каня» дубчыкам, скача Міцька. Міцьку дражнілі дзеці Лежабокам за тое,

што ён заўсёды ў ложку чытаў кніжкі. Чаго ён скача па вуліцы так рана? І яшчэ верхам на палцы? Не маленькі ж: цяпер у пятым класе вучыўся б, калі б не немцы... Ад нечага рабіць ці што? Я на яго месцы пасаромеўся б.

Міця мяне не заўважыў, і я яго не паклікаў, пераскочыў цераз плот у агародчык і вызірнуў з-за высокага штыкетніка. Убачыў, што Міцька галопам прамчаўся на сваім драўляным «кані» цераз вуліцу, азірнуўся, кінуў дубец і раптам падскочыў да плота, на якім заўсёды вывешвалі загады. Яны і цяпер там віселі — адзін з чырвонай палоскай, другі з блакітнай. Міцька ў адзін момант садраў іх з плота адзін за адным і памчаўся на сваім «кані» далей. Шаснуў у зарасці вішняку і знік з маіх вачэй. Я трохі пачакаў і падышоў да таго месца, дзе схаваўся Міцька. Тут раслі густыя кусты маладога вішняку, апавітыя калючым дротам. Праз такую агароджу быццам бы і не пралезеш. Хоць не, ля самай зямлі дрот разарваны, рассунуты ў бакі, ёсць ход, але яго так проста не ўбачыш. Не затрымліваючыся доўга ля агароджы, я абабег некалькі хат і прайшоў паўз плот, на якім віселі загады. Ад іх засталіся на пафарбаваных дошках толькі дзве белыя плямы.

Разбоўтваючы босымі нагамі лужы, я пайшоў дамоў. Зразумела, чаму Міцьку ўдалося так лёгка садраць аб'явы з плота. Цэлы тыдзень ішоў дождж, клей размыла, і папера адліпла. У гарачыню яе не ададраў бы. І нездарма хлопец выбраў такі час, калі людзей на вуліцы амаль няма, а паліцаі і немцы заняты сваімі справамі. Старшы толькі ў дванаццаць гадзін цяпер прыйдзе правяраць: на месцы лістоўкі ці не. Вось раззлуецца!

Што было ў загадах, я ведаў на памяць. На першым вялікімі літарамі:

«Зварот германскага галоўнакамандуючага Мазырскай акругі.

Партызаны, мужчыны і жанчыны, і людзі, схопленыя са зброяй у руках, будуць расстраляны! Жыхары, якія хаваюць і дапамагаюць ім, будуць расстраляны і павешаны!»

Пра другую паперку я няправільна сказаў — загад. Гэта быў лісток. Такія лісткі з блакітнымі палоскамі стараста і Рымша павінны былі раздаваць па хатах або чытаць уголас. У той паперцы, якую садраў Міцька, гаварылася, што Чырвоная Армія разбіта. Супраць вялікай нямецкай арміі засталася жменька ўзброеных партызан. Нямецкая армія разаб'е іх, і тады ў Беларусі ўсталюецца парадак, дзе кожнаму будзе адведзена сваё месца.

### 3

Назаўтра мястэчка абляцела навіна: будуць забіраць людзей у Германію. І не толькі дзяўчат, але і жанчын. Да сарака гадоў. Маці атрымала позву і доўга раілася з гаспадыняй: як быць? Гаспадыня параіла маліцца.

Набліжаўся дзень, калі трэба было ісці на камісію, і гаспадыня сказала, што ёсць цётка, якая дапаможа — дасць лекарства. Вып'еш — адразу кіне ў гарачку, і хварэць будзеш толькі тры дні, а потым хвароба пройдзе.

Маці доўга корпалася ў сваіх клунках, выбрала шаўковую хустку, новыя панчохі і ўсё гэта аднесла з гаспадыняй да тае цёткі. Вярнулася ад яе з бутэлечкай з-пад

адэкалону, напоўненай нейкай жоўтай вадкасцю. Пэўна, гідота. Але маці яе выпіла.

На камісіі маці адразу прызналі хворай. Спыталі, што баліць. Яна схлусіла: сухоты яшчэ з дзяцінства, ад дрэннай ежы пагоршала. Адкуль было не пагоршаць! Два дні перад камісіяй кідалася на ложку ў гарачцы, стагнала, нічога не брала ў рот, моцны, хрыпатлівы кашаль ірваў ёй грудзі... Я вельмі тады перапалохаўся... Ледзьве дайшла да ўправы, дзе адбіралі людзей у Германію.

А іншых адправілі. У мястэчку стаялі плач, галашэнне. Тыя, што праводзілі, беглі за падводамі аж да самага лесу. Потым іх паліцэйскія плёткамі паразганялі.

На цётку, якая маці зеллем да хваробы давяла, я не крыўдзіўся. Калі б не яна — я сваёй маці больш не ўбачыў бы. Загнаў бы яе нямецкі камендант у праклятую Германію. Ездзіць па мястэчку чараваты, за ўсім сочыць, з машыны не выходзіць — пасылае перакладчыка. Калі хто з мяшком ідзе, абавязкова перакладчык спытае і паглядзіць, што ў ім. А калі палонных вядуць праз вёску, камендант выскачыць з машыны, вытрашчыць вочы і смяецца, быццам сам іх у палон узяў. І як жанчын нашых гналі ў Нямеччыну, падкаціў да ўправы, вылез з машыны, забалбатаў па сваім нямецкім. Перакладчык услед: «Гаспадзін камендант гаворыць: вы едзеце працаваць у вялікую Германію і павінны адчуваць сябе шчаслівымі». А людзі не слухаюць яго, плачуць. Я таксама быў ля ўправы, і, калі камендант паехаў на сваёй машыне ў наш былы дом, такая лютая нянавісць да яго схапіла мяне за сэрца, што аж не мог дыхнуць. І ў галаву раптам прыйшла адчайная думка...

Мне ўжо даўно не давалі спакою каменьчыкі, якія ляжалі на двары. Кожны раз, калі бачыў іх, аж рукі свярбелі, бо каменьчыкі так і прасіліся, каб іх назбіралі поўныя кішэні і прыхавалі да зручнага выпадку. Я прысеў каля плота, згарнуў разам са смеццем усе каменьчыкі ў кучку і пачаў іх адбіраць. Гэта толькі на першы погляд здаецца, быццам яны аднолькавыя, шэрыя. Каменьчыкі проста замурзаны пылам. Я ўзяў у руку адзін, папляваў на яго і пашараваў пальцам. Каменьчык зрабіўся ружовы, з чорнымі крапінкамі. Другі быў зялёны, а ў трэцім бліснулі на сонцы срэбраныя іскрынкі. Без справы пакідаць іх было проста нельга. Я выцягнуў з-пад ганка схаваны сцізорык і драўляную рагульку і ўзяўся за работу. Хутка трымаў у руках цудоўную рагатку. Паспрабаваў нацягнуць паскі гумы. Калі іх адпусціў, раменьчык, куды кладуць каменьчыкі, выскачыў з маіх пальцаў, пырхнуў, быццам птушка трапятнула крыльцамі.

Рагатку — за пазуху, каменьчыкі — у кішэні. Спрытна пераскочыў плот, які адгароджваў двор ад саду. Вялікая мэта павяла, пацягнула мяне да куратніка, што быў ля нашага дома, хаваўся ў густых зарасцях вішняку. У ім я знайшоў знаёмую адтуліну і з цяжкасцю прасадзіў праз яе галаву, абдрапаўшы вушы аб шурпатыя дошкі. Потым павярнуўся бокам, выцягнуў рукі і, адпіхваючыся нагамі аб зямлю, пачаў засоўваць сябе ў доўгі і нізкі куратнік. У нос ударыў знаёмы пах курынага гною і вільгаці. Праменні сонца не прабіваліся сюды, у паўзмроку бялела пер'е. Было тут адно патайное месца, у якім я хаваў загорнуты ў цырату, анучку і паперу мой піянерскі гальштук. Я засунуў яго глыбока ў шчыліну між бярвенняў.

Зараз знайшоў тую шчыліну, учапіўся пальцамі ў згорнуты тугі пакунак і выцягнуў яго. Разгарнуў — гальштук цэлы. Зноў загарнуў яго, схаваў у шчыліну і вылез з куратніка. Прыгнуўшыся, пракраўся праз сад і заціх за шырокім кустом маліннiку. Мяне за ім з вуліцы ніхто не ўбачыць, затое мне ўсё добра відаць адсюль. Я глядзеў на вялікі, з крытай верандай дом, які стаіць насупраць мяне, за плотам. Нядаўна гэта быў наш дом. Бацька сам яго будаваў. Цяпер дом усе называюць «камендацкім», а пра тое, што ён быў наш, чамусьці ніхто і не ўспомніць.

Доўга я сядзеў за кустом, баючыся павярушыцца, і вывучаў, што робіцца ў нашым доме. І дом і двор здаваліся пустыя. Акно, з якога заўсёды высоўваўся руды твар фашыста, што іграў на губным гармоніку, зараз было зачынена.

Я дастаў з-за пазухі рагатку. Прыжмурыўшы адно вока і нацягнуўшы гуму, трохі папрыцэліўся пустою рагаткай, павадзіў ёю зверху ўніз, знізу ўверх. Усадзіў руку ў кішэню і выцягнуў нарэшце каменьчык, прыладзіў яго, прымераўся... і — бац! Зазвінела разбітая шыба. У доме нехта крыкнуў. Рука мая сама апусцілася ў кішэню, дастала другі каменьчык. Я пусціў яго ў другое акно і, нядоўга думаючы, даў цягу да куратніка. Хутка засунуў там у шчыліну рагатку.

Дзіўныя выпадкі бываюць на свеце! Назад я прамчаўся разы ў тры або ў чатыры хутчэй, хоць на маёй дарозе сталі пякучая крапіва, два высокія платы. У сябе на двары я абтрос пер'і, што прыліплі да каленяў, і, ціха скрыпнуўшы дзвярыма, зайшоў у хату, ціха сеў на лаўку і прыслу-

хаўся. Стараўся злавіць кожны гук, які мог данесціся з вуліцы. Мабыць, там, каля каменданцкага дома, ужо ўшчаўся перапалох. Выглянуў у акно. Маленькія акенцы былі ўстаўлены наглуха, ніколі не адчыняліся, ні зімою, ні летам, брудныя шыбы здаваліся не шыбамі, а цьмянымі кавалкамі слюды, і нават удзень праз іх цадзілася ў хату жоўтае маркотлівае святло. Ды яшчэ з вуліцы святло засланяў густы куст бэзу.

Раптам на вуліцы пачуўся вокрык, недзе стукнулі веснiцы. Цётка Грыпіна хутка выйшла на ганак і тут жа вярнулася, зноў села за стол.

— Паліцаі па дварах бегаюць,— сказала яна маці.— Шукаюць нешта, а можа, зноў у Нямеччыну людзей забіраюць.

Маці трывожна глянула на дзверы, і яны абедзве моўчкі застылі.

Чакаць давялося доўга. Я баяўся паліцаяў, але яшчэ горш было іх чакаць. Хутчэй бы ўжо прыйшлі, і ўсё скончылася б. Мабыць, маці з гаспадыняй думалі тое самае, бо чуйна прыслухоўваліся і паглядалі ў акно. У мяне абарвалася нутро, калі тыя ўвайшлі ў хату. Двое паліцэйскіх і немец. Як яны зараз даведаюцца, хто страляў каменнямі ў каменданцкі дом, дрэнна мне будзе. Я падабраў пад сябе ногі і ўвесь сціснуўся, каб зрабіцца незаўважаным.

Паліцаі заглянулі ў печ, немец патыкаў вінтоўкай пад ложак. Я схапіў з падаконніка кнігу, уткнуўся ў яе, быццам чытаю. Радкі расплываліся перад вачыма, і я, каб заглушыць страх, пачаў чытаць уголас. Паліцаі адразу павярнуліся ў мой бок. Адзін падышоў, зазірнуў у кнігу і

ўважліва паглядзеў на мяне. Потым злосна вылаяўся і выйшаў. Другі паліцай і немец — за ім.

Калі яны пайшлі, маці паднялася са свайго месца, пагладзіла мяне па галаве і з палёгкай уздыхнула.

## 4

На другі дзень маці прышывала да маіх штаноў новыя латкі і гузікі. Акрамя таго, у мяне на нагах, руках і нават за вушамі было шмат стрэмак. Прыйшлося выцерпець цэлую аперацыю. Мне стала сорамна, што хворай маме сваімі слабымі рукамі трэба ўсё гэта рабіць, і я ўвесь дзень не адыходзіў ад яе, прынёс вады, наламаў з ламачча дроў, запаліў у жалезнай печцы. Гаспадыня сказала:

— Хопіць яму бегаць цэлымі днямі з рознымі шалапутамі. Я, Арына, іду да Панцакоў. Табе таксама трэба за здароўе памаліцца. Хай і Лёнька з намі ідзе, Панцакоў сын — самы надзейны яму будзе таварыш.

Шалапут — гэта мой былы школьны сябар Міцька. Усіх хлапчукоў, бацькі якіх не вераць у бога, гаспадыня так кліча. Яна падумала, што ўчора я з Міцькам бегаў па вуліцах і падраў штаны. Валік Панцак па вуліцах так проста не лётае. І наогул, усякі раз, калі я рваў вопратку і прыходзіў дамоў у сіняках, павінен быў выслухваць доўгую пахвальбу Валіку. Спачатку, са слоў маці, ён быў добрым хлапчуком: бярог сваю вопратку і не гуляў у футбол. Потым у размову ўмешвалася гаспадыня і дадавала, што Валік не б'ецца з хлапчукамі, слухаецца старэйшых. Маці ў сваю чаргу старалася перагаварыць гаспадыню ў пахвальбах, і ў рэшце рэшт выходзіла, што Валік зусім не ча-

лавек, а нейкі святы, які ўсё робіць па правілах і нават ні кроку не ступіць без таго, каб не спытаць у бацькі ці маці. Нешта я не заўважаў гэтага, калі мы з ім вучыліся ў школе. Я ведаў яшчэ, што ў Панцакоў — малітоўны дом, куды па два, а то і па тры разы на тыдзень ходзіць гаспадыня, и ў апошні час і мая маці. Да гэтых пор яна мяне туды не брала. Відаць, таму, што я не вельмі спяшаўся трапіць на малітвы і, калі дарослыя збіраліся ісці туды, хаваўся ў здзічэлых садах суседзяў, якія пакінулі мястэчка.

І на гэты раз я хацеў схавацца, але маці здагадалася:

— Ідзі памыйся! І не ўздумай збегчы куды!

— Мама, я ж піянер!

— Ціха! Хіба можна цяпер так гаварыць?

«Трэба было з раніцы схавацца,— падумаў я.— Так і быць, пайду, хай маці не злуецца. Каб яна не была хворая, дудкі,— пайшоў бы».

Мы кіраваліся ў другі канец мястэчка, у малітоўны дом. Валік вельмі ўзрадаваўся, калі ўбачыў мяне. Я агледзеўся: памяшканне было без перагародак, доўгае, як стадола. Ля дзвярэй стаяў жалезны пагнуты ложак, а ў глыбіні дома — маленькі высокі столік, падобны на пянёк. Столік быў засланы белай настольніцай, на якой ляжала таўшчэзная кніга ў скураным пераплёце. Пасярэдзіне — доўгія лавы. Сцены даўно не беленыя, на іх развешаны пажоўклыя, пакропленыя мухамі лісткі, спісаныя друкаванымі літарамі. Каб паказаць Валіку, які хадзіў за мною і ледзь не наступаў на пяты, што мне гэта трохі цікава, я заклаў рукі ў кішэні і прысвіснуў, але ціха, каб свіст мог пачуць толькі Валік. Ён адразу ж мяне і папярэдзіў, што тут свістаць не трэба. Пераходзячы ад сцяны да сцяны, я пачаў раз-

глядваць лісткі, адзін нават прачытаў, але нічога з яго не зразумеў. Толькі ўцяміў адно: усё гэта божае.

Я зноў зірнуў на столік і на кнігу. На скураным пераплёце быў адціснуты крыж. Адгарнуў тоўстую вокладку, трохі пагартаў пажоўклыя старонкі і ўсё зразумеў — біблія.

— Што за столік? — ціха спытаў я ў Валіка.

— Кафедрай завецца. Адсюль пропаведзі гавораць,— ціха адказаў ён.

— Слухай, Валік, даўно твае родзічы вераць у бога?

— Даўно.

— Мая маці верыць пачала, калі бацька на вайну пайшоў і немцы мястэчка занялі. Яе наша гаспадыня навучыла. А да вайны маці не верыла, нават маліцца не ўмела.

— Мае заўсёды верылі. Толькі пра нас не ўсе ведалі: таіліся мы. Нас пяцідзесятнікамі клікалі. А цяпер мы абшчына хрысціян евангельскай веры.

— І ты? Ты таксама верыш?

— Маё жыццё аддадзена богу,— сумна адказаў Валік.

Калі б ён сказаў такое ў школе, уяўляю, як бы ўсе зарагаталі! Яму потым вучні праходу не давалі б. У мяне таксама прапала цікавасць да Валіка і да ўсяго таго, што нядаўна тут убачыў. Захацелася дамоў. Я азірнуўся — маці размаўляла з бацькамі Валіка, іншыя — некалькі жанчын у чорных хустках на галовах — з самага пачатку не звярталі на мяне ніякай увагі. Я ўжо рушыў да дзвярэй, каб выскачыць незаўважна за парог, але наша гаспадыня была хітрая, усё бачыла і перагарадзіла мне дарогу.

Валікаў бацька — крываrукі дзядзька Павел — паставіў на столік свечкі, паправіў біблію. Валік параіў залезці

на печ, узяў з ложка дзве падушкі — для мяне і для сябе, дапамог мне ўзабрацца на чарано і сам прымасціўся побач. Людзі сядалі на лавы. Прыходзілі новыя. Адна жанчына не пайшла да лавы і не села, як усе, а, пераступіўшы парог, спынілася ў дзвярах.

— Бог з намі! — крыкнула яна.

Усе кінуліся да яе, пачалі цалаваць.

— Дайшла-такі, сястра Галіна!

Яна моўчкі прайшла ў першы рад, села на лаву і толькі тады адказала:

— Два разы немцы спынялі. Ледзь не забілі.

Адчыніліся дзверы, і ўвайшоў саўгасны рахункавод, худы і белы ў твары, у новым адпрасаваным касцюме. Усе ўздыхнулі ні то ад спуду, ні то ад палёгкі.

— Мір вам, дарагія браты і сёстры! — звярнуўся ён да ўсіх.

— З мірам прымаем! — адказалі яму.

А сястра Галіна выгукнула:

— Бог з намі і мы з ім! А цябе, прэсвітэр і прапаведнік брат Афанасій, я даўненька не бачыла!

«Прэсвітэр і прапаведнік?» — здзівіўся я. Вось табе і рахункавод, вось табе і Апанас Антонавіч! Колькі разоў я яго бачыў, ён заўсёды сядзеў у канторы, ляскаў лічыльнікамі. І цяпер яго разам з іншымі гоняць на кансервавы завод. Прэсвітэр, прапаведнік? Здаецца, важная асоба. Бач, прыціхлі ўсе, як толькі ён зайшоў.

Я пачаў прыглядацца і да іншых. А што, калі і ўсе яны не простыя местачковыя людзі? Можа, я калі-небудзь прыйду сюды яшчэ раз і Валікаў бацька сустрэне мяне ў шаўковай вопратцы, аздобленай золатам і серабром, з шаш-

кай на баку. Пра такое адзенне я чытаў у кнізе «Тры мушкецёры».

— Валік, а старыя Каржаковы... вунь яны сядзяць з маёй маці ў апошнім радзе, таксама прэсвітэры?

— Ты што? Яны проста веруючыя. Ты лепш прачытай малітву перад служэннем. Тады староннія думкі не будуць лезці ў галаву.

Валік угадаў, што такія думкі займалі мяне больш за ўсё. Сам ён склаў перад сабою далоні і прашаптаў нешта так хутка, што я нічога не зразумеў. Тое ж зрабілі ўсе, хто знаходзіўся тут. Я малітвы ні адной толкам не ведаў, хоць маці з нашай гаспадыняй прымушалі мяне паўтараць за імі словы. Каб не адстаць ад усіх, я таксама зашаптаў сабе пад нос. Валік кіўнуў мне галавою — пахваліў. А староннія думкі пачалі лезці і лезці ў галаву. Тады я адсунуўся ад Валіка і стаў разглядаць з-за фіранкі прапаведніка, які неяк дзіўна нагадваў мне галоднага сабаку. Нават здалося, што ён вынюхвае нешта ў паветры. Вось падышоў да кафедры, нейкі час памаўчаў і потым:

— Міране! Ухвалім госпада і памолімся за нашы душы! — Затым ён разгарнуў і пачаў чытаць кнігу з крыжам на пераплёце.

З чытання я нічога не зразумеў і ніяк не мог прымусіць сябе слухаць. Мне ўжо не сядзелася на печы. Дзверы ўвесь час былі зачынены, і ў памяшканні стаяла невыносная гарачыня. Здалося, што нават пацямнела: мабыць, ужо надышоў вечар. Я падсунуўся яшчэ бліжэй да краю чарана, спусціў ногі, каб, як толькі ўсё скончыцца, хутчэй кінуцца ў дзверы.

— Зараз будзе пра канец свету,— шапнуў Валік і

ўставіўся вачыма ў прэсвітэра так, быццам той вось-вось пачне паказваць кіно. Усе неяк разам падаліся ў бок прапаведніка. Ён адарваўся ад кнігі, падняў угару вялікі палец:

— Браты і сёстры мае ва Хрысце! Азірніцеся вакол. Усюды агонь і смерць. Вогненны абруч вакол нас сціскаецца. Падумайце, што можам зрабіць супраць гэтага мы, слабыя і нямоглыя?

— Госпадзі! — уздыхнула ўслых мая маці.

Калі прапаведнік не чытаў, гаварыў, можна нешта зразумець. Незаўважна для сябе я пачаў слухаць гэтак жа ўважліва, як Валік і ўсе астатнія. А хутка і незнаёмыя словы сталі зразумелымі. Між іншым, у размове прапаведнік іх амаль не ўжываў. І я нават пашкадаваў, што не слухаў кнігу. Прэсвітэр гаварыў пра блакітнае шчасце, якое чакае ўсіх веруючых на небе.

Дзіўны ўсё ж гэты прапаведнік! Як чалавек можа жыць на небе? Але дарослыя, затаіўшы дыханне, слухалі яго. Сам прэсвітэр усё менш быў падобны на таго ціхага Апанаса Антонавіча, які сядзеў, згорбіўшыся, за сталом у сваёй канторы. Голас яго гучаў усё мацней, і ўвага, сур'ёзнасць, з якой усе слухалі, прымусілі мяне падумаць: чаму ж не верыць, можа, ён і праўду гаворыць, што ёсць другое, блакітнае жыццё?

А прапаведнік пачаў ужо пра другое:

— Маліцеся! Мацеры, да вас звяртаюся: спяшайцеся прывесці сваіх дзяцей да Хрыста. Не дапускайце, каб яны ведаліся з рознымі бязбожнікамі. Хіба вы не заўважаеце, як ад гэтага дзіцячыя іх душы точаць сумненні...

Я ўбачыў — маці ўздрыгнула, быццам была ў нечым

вінаватая, спуджана зірнула на прапаведніка і ўтаропілася долу. На яе ўшчувальна паглядзелі веруючыя, а адна бабуля нават пахітала галавою. Прэсвітэр таксама паглядзеў на маю маці. Можа, ён намякае на мяне? Я ўжо не быў упэўнены, што ён не даведаўся нейкім цудам, як я шпурляў з рагаткі каменьчыкі ў шыбы нашага дома, дзе цяпер жыве камендант, і на ўсялякі выпадак адсунуўся за комін печы і шчыльна прыціснуўся да яго. Мне нічога адтуль не было відаць, толькі чуліся адны галасы. Усе спявалі, вялі нудотлівую доўгую песню. Такіх горасных песень я ніколі не чуў, і на мае вочы нагарнуліся слёзы. У песні спявалася пра нейкіх бадзяг, якія ўвесь час недзе блукалі па свеце і ніяк не маглі трапіць дамоў. Можа, пяюць пра бяздомных людзей, пра бежанцаў, іх я бачыў у пачатку вайны, ці пра палонных, расстраляных за мястэчкам? Мне прыгадалася, як два гады назад я апошні раз сустрэўся з бацькам.

Праз мястэчка ішоў атрад. У ім быў і мой бацька. Байцы крочылі не ў страі, а натоўпам. Нават пілоткі былі не ва ўсіх. Бацька таксама без пілоткі, галава абкручана брудным бінтам, за спінаю вінтоўка. А мы з маці, ледзь пераводзячы дых, беглі за атрадам.

— Застанемся ў лесе. Станем партызанамі. Будзем біць фашыстаў у патыліцу,— казаў і змучана ўсміхаўся бацька.

Маці спынілася, а я ўсё бег: хацеў спытаць, калі ж разаб'юць гітлераўцаў, але ніяк не мог дагнаць бацьку. Перад маімі вачыма мільгалі ўчарнелыя твары, выцвілыя на сонцы гімнасцёркі ды шэрыя ад пылу боты. Байцы ішлі ўсё далей і далей, туды, дзе я ніколі не быў і дзе шэры

шлях сплываўся з шырокім небам. І калі я зразумеў, што яны пайшлі ад мяне назаўсёды, упаў на траву і горка заплакаў.

Ці не пра іх пяюць?..

Я думаў, што пасля песні ўсё закончыцца і можна будзе саскочыць на падлогу. Але ўсе ўсталі з лавак, апусціліся на калені і зноў заспявалі, утаропіўшы вочы ў столь. Я таксама зірнуў угару, але нічога там не ўбачыў, акрамя плямы, падобнай на паклычаную львіную галаву,— у гэтым месцы, відаць, працякаў дах. Раптам жанчына, якую ўсе называлі сястрой Галінай, дзіўна падвярнула пад лоб вочы, закінула назад галаву, пачала біць кулакамі ў грудзі:

— Госпадзі, спасі!

Нехта загаласіў, і людзі адзін за адным пачалі плакаць. Некаторыя проста мармыталі сабе пад нос, другія, уткнуўшыся ў калені, плакалі наўзрыд, па ўсяму відаць было — нешта здарылася. Можа, ім не хацелася на неба? Валік закрыў твар рукамі і сядзеў нерухома. Не памятаю, што здарылася са мною, але я таксама зароў ці, здаецца, завыў, як воўк. Калі прыйшоў у сябе, убачыў, што Валік ужо злез з печы і тармосіць мяне за нагу:

— Злазь!

Я саскочыў і выбег на двор услед за Валікам. На нас ніхто не звярнуў увагі, акрамя прапаведніка. Ён здзіўлена паглядзеў на мяне: адкуль я тут узяўся?

На вуліцы ўсё яшчэ стаяў светлы дзень з блакітным небам і па-летняму гарачым сонцам. Маці я не дачакаўся. Валік правадзіў мяне да самай хаты.

— Спадабалася? — спытаў ён.— Прыходзь яшчэ!

У мяне сяброў зусім няма. А мы з табою разам у школе вучыліся.

Я яму нічога не адказаў, бо вельмі забалела галава.

З тых пор Валік пачаў прыходзіць да мяне ледзь не кожны дзень.

## 5

У дрымотнай гарачыні між полем і ўзгоркамі, на якіх растуць лазовыя кусты, застыў у млявасці поплаў. Валікаў бацька, дзядзька Павел, ідзе касіць траву, за ім — прэсвітэр і яго далёкі родзіч Спірыдон. А мы бяжым уперадзе, і з-пад нашых ног рассыпаюцца ва ўсе бакі, сеюцца, як зерне, конікі.

Даўно я тут не быў! Калі немцы прыйшлі, маці не вельмі пускае за мястэчка, хоць хадзіць сюды не забаронена. Усё баіцца: ці мала што ўзбрыдзе ў галаву нямецкаму салдату!

Цяпер людзі выходзяць з дамоў рэдка. Нават не сядзяць, як некалі ўвечары, на лаўках. Ды і саміх лавак не засталося нідзе — паламалі на дровы. І траву на поплаве касіць нельга — трэба браць дазвол у камендатуры. Да вайны мы часта хадзілі сюды. Імчышся, бывала, па траве на баявым кані, якога выстругаў бацька з арэхавага кійка, а ворагі — вялізныя калючкі — абступілі цябе з усіх бакоў і хочуць узяць у палон, але ты не здаешся і сячэш варожыя галовы самаробнай драўлянай шабляй. Сюды, на поплаў, выходзіла шмат хлапчукоў, каб паганяць палкамі кола. Мы збіралі тут кветкі для школьнага гербарыя. Гэтай дарогай я вяртаўся дамоў, калі праводзіў бацьку.

У дзядзькі Паўла на плячы каса. Адкляпанае і вышараванае бруском яе палатно зіхатліва блішчыць на сонцы. Я спытаў у Валіка, каму будуць касіць траву, бо ні казы, ні каровы, ні трусоў у іх няма.

— Для абшчыны,— адказаў ён.— Хутка свята ў веруючых, «пераламленне хлеба». Грошы патрэбны. Сена прадаваць будуць.

Параіўшыся між сабою, дарослыя спыніліся ў невялікай даліне. Дзядзька Павел апусціў з пляча касу і пачаў касіць. Касу ён трымаў адной правай рукою, левай толькі прытрымліваў: яна ў яго была нейкая кароценькая, тонкая. Нават дзіўна, што ў такога здаравеннага чалавека такая маленькая рука з пакручанымі дзіцячымі пальчыкамі. Так у яго, гавораць, з нараджэння. Але, нягледзячы на гэта, і адной рукою Валікаў бацька мог перакладваць печы, секчы дровы, рабіць рамы і скрынкі. Часта ён выходзіў на работу на завод замест прапаведніка. Апрануты заўсёды ў адно і тое ж: латаны-пералатаны пінжак і рудыя нагавіцы. Калі падысці да дзядзькі бліжэй, дык у нос тхне змешаны пах поту, тырсы і клею. Раней я неяк не прыглядваўся да дзядзькі Паўла. За гэтыя некалькі дзён, калі пачаў бываць у іх доме, зразумеў, што ён такі самы, як мой бацька: калі пачне што рабіць, яго цяжка адарваць ад работы.

Шырока расставіўшы ногі, ён махае і махае касою. Каса жыкае ў траве, змятае яе ў тоўстыя, як кудзелі, валкі. Наперамену з ім касіў і Спірыдон, тоўсты, шырокі ў плячах. Усе ведалі, што ён пайшоў у армію, а вось як апынуўся ў мястэчку праз год — ніхто не знае.

Прапаведнік застаўся сядзець у даліне, прыкрыўшы га-

лаву шырокім лістом дзядоўніку, каб сонца не напякло лысіну.

Мы з Валікам растрасалі скошаную траву — трэба ёй хутчэй высыхаць на сонцы. Потым дзядзька Павел і Спірыдон пайшлі да прэсвітэра і приселі ля яго адпачыць. Валікаў бацька ціха заспяваў. Не песню — малітву. Прапаведнік пачаў падцягваць. Спірыдон — таксама за імі.

Мы адышлі ад дарослых і ўпалі на мяккую траву. Я лёг на спіну, прысланіў да вачэй далонь і паглядзеў у неба. Зусім нізка над намі кружыўся вялікі, як арол, каршун.

— Выглядвае нешта,— сказаў Валік.

Каршун доўга кружыўся над намі, потым паляцеў далей. Я глядзеў яму ўслед.

З зямлі плыло ў неба марыва, і ад яго быццам дрыжалі ўдалечыні трава, зялёныя ўзгоркі. Далёка адсюль, калі ісці ўвесь час па вялікім полі, стаіць — упіраецца ў неба старая капліца. Яна таксама дрыжыць у гарачым паветры. Ніхто не памятае, калі гэтая капліца будавалася, але ў мястэчку пра яе ходзяць паганыя чуткі. Пастухі нават жывёлу не падганяюць пад яе, калі пасвяць на полі. І стаіць капліца, закінутая ўсімі, сярод балотца, на маленькім астраўку, да якога пакладзены цераз рэчку кладкі. А яшчэ далей ляжыць гнілая дрыгва, сярод яе ўзвышаецца вялікая гара. На самай яе вяршыні — руіны старога, даўняга палаца. Кажуць, некалі ў ім жыў вельмі багаты пан. Калі ж прыйшла рэвалюцыя, ён уцёк за мяжу, а свой палац падпаліў, каб не дастаўся сялянам, яго прыгонным. З тых пор так і стаяць на гары сцены з выпаленымі вокнамі і дзвярмі. І ніхто да вайны не спрабаваў палац аднавіць. Гавораць,

што пад палацам ёсць падземныя хады, каменныя пячоры, у якіх пахаваны панскія продкі і нейкія святыя. Прайсці да палаца нельга — правалішся ў дрыгву...

Над намі зноў закружыў каршун, але ўжо другі, і ляцеў ён так нізка, што я нават спужаўся, убачыўшы яго загнутую, як крук, дзюбу. Прыгадаў, як аднойчы бацька падстрэліў у нашым двары каршуна-куралова і ён, раскінуўшы крылы, доўга біў імі аб зямлю, каб падняцца ў неба. Але не змог. Вось бы мне такія крылы! Калі б давялося ляцець, я ўзяў бы з сабою шашку дзеда. Яна да вайны вісела ў нас на сцяне, а потым бацька, як пачалася вайна, закапаў яе ў садзе. Мне гэтую шашку ніколі не дазваляў чапаць. На ёй дарункавы надпіс ад самога Будзённага. Я расказаў Валіку пра шашку дзеда.

— Нельга яе з сабою браць,— сказаў ён.— Бо мы самі не паляцім — анёлы панясуць. Па два анёлы на аднаго чалавека.

— А калі на каго не хопіць?

— Яшчэ раз прыляцяць.

— Настаўніца ж у школе казала, што анёлаў не бывае.

— Бываюць. Толькі яны не заўсёды лётаюць.

— Валік, а калі яны... сустрэнуцца ў небе з нямецкімі самалётамі, што тады?

— Не ведаю!

— А дзе ратавацца тым, хто не верыць у бога? Мне, напрыклад, або Міцьку?

— Не ведаю...— Ён сеў, вырваў травіну, пачаў яе жаваць. Потым сказаў: — Ты лепш вер. Прапаведнік кажа, што той не чалавек, які не верыць. Мне самому страшна, калі б я згубіў веру. У мяне ўжо было так.— Ён падсунуў-

ся бліжэй, азірнуўся на дарослых.— Аднойчы, даўно, дзеці пачалі дражніць мяне: «унук дэзерціра». Гэта таму, што мой дзед у грамадзянскую вайну з арміі ўцёк. Ад сораму я тады хацеў збегчы з хаты. Пайсці ўпрочкі. Нават маліцца не стаў.

— Ну і ўцёк бы.

— Як уцёк? Бацьку і маці грэх не слухаць. А дзед мой — не дэзерцір. Веруючы ён быў. А веруючым ваяваць нельга.— Ён памаўчаў, потым спытаў у мяне: — У палацы ты быў?

— Хіба туды праз дрыгву дабярэшся?

— А то і не! Хочаш, пойдзем туды галак лавіць. На сценах там багата іхніх гнёздаў. Праз дрыгву па слупках прайсці можна. Дзе вялікі валун ляжыць, там па правую руку слупкі з зямлі тырчаць. Па гэтых слупках ідзі смела: зямля цвёрдая. Пра гэта дзед мне казаў. Я туды бегаў. Тую сцежку мала хто ведае.

Мы змоўклі. Чуваць было, як сакаталі ў траве конікі, і хораша пахла скошаная трава.

## Частка другая

### 1

Па траве ісці было колка, а на шляху босыя ногі падымалі сухі пыл. Ён лез у рот, нос, вочы, хрумсцеў на зубах. Да мястэчка яшчэ далёка, а нам трэба даклыпаць дамоў завідна, бо пасля каменданцкай гадзіны могуць затрымаць гітлераўцы. Валік быў большы і здаравейшы, ён ішоў спорна. Я ж марудна цягнуўся ззаду. Хацелася есці і піць.

Уперадзе выплылі з небасхілу ўзгоркі. За імі — наша мястэчка. Мы селі на траву каля дарогі, каб адпачыць. Увесь наш паход заняў два дні. Гаспадыня і маці паслалі нас у вёску вымяняць мыла на хлеб. Свята «пераламлення хлеба» ўжо настала: гэта, калі ламаюць хлеб на маленькія кавалачкі і даюць веруючым. Тыдзень назад у вёску хадзіла сама гаспадыня, але вярнулася адтуль ні з чым — паліцаі адабралі па дарозе мыла. На гэты раз вырашылі паслаць мяне і Валіка, бо дзецям заўсёды лягчэй праскочыць нямецкія пасты без пропуска, за які стараста браў хабар. Мы і сапраўды памянялі ў вёсцы мыла на чатыры боханы хлеба.

— Хаця б немцы нас не перастрэлі,— сказаў Валік.— А то, не дай божа, хлеб адбяруць.

— Можа, вечара пачакаем?

— Не, давай лепш разыдземся. Я пайду па дарозе, а ты — полем. Калі адбяруць хлеб у аднаго, дык у другога застанецца.

У кожнага з нас было па два боханы. Я завязаў свой хлеб у хустку, у якой нёс у вёску мыла.

— Нідзе не затрымлівайся,— сказаў на развітанне Валік.— Калі каго ўбачыш, хлеб схавай у траву. І месца запомні. Потым мы з табою вернемся і забяром.

Я пайшоў полем. Каб не пакалоць ногі, увесь час трэба было глядзець на зямлю. На вочы трапляліся лісцікі шчаўя, я з прагнасцю іх ірваў і запіхваў у рот. У дарогу нам далі дзесяць печаных бульбін. Усе мы іх з'елі, як толькі выйшлі за мястэчка. З таго часу ў нас у роце не было нават макавага зерня. Калі ішлі ў вёску, нам строга загадалі не есці ў дарозе хлеба, увесь прынесці дамоў — яго трэба

было падзяліць у абшчыне. Я так стаміўся і такі быў галодны, што хлеб у хустцы здаваўся мне цяжкою ношкай. Ледзь не пры кожным кроку калола пад грудзьмі.

Вельмі хацелася засунуць руку ў хустку, каб адламаць акраец ад бохана. Але было сорамна есці чужы хлеб, і я даў сабе слова яго не чапаць.

У рэшце рэшт пачаў збіраць на полі шчаўе і хутка наеўся ім так, што аж пачало ад аскомы зводзіць сківіцы. Але шчаўе не наталіла голаду. Я доўга блукаў па полі і не заўважыў, як падышоў да капліцы.

І раптам ад нечаканасці ўздрыгнуў — пачуў ціхі свіст. Азірнуўся — паблізу нікога не было. Свіст паўтарыўся. Падалося, што ён даносіцца з капліцы. Я адбег назад і прысеў за вялікім валуном. Потым асцярожна вызірнуў з-за свайго сховішча. Дзверы ў капліцу былі забіты дошкамі, і я ўбачыў, што за імі стаіць чалавек. Ад нерухомасці заклякли ногі — сядзеў на кукішках,— але я баяўся паварушыцца. І раптам з-за дошак паказаўся немец. Я ўбачыў шэра-зялёны пінжак і такога ж колеру пілотку на галаве. На немцавых грудзях вісеў аўтамат з кароткім жалезным прыкладам. Я ўскочыў на ногі.

— У мяне нічога няма... Ні хлеба, ні шпэк,— замармытаў я і, хаваючы за спінаю хустку з хлебам, марудна, крок за крокам, пачаў адступаць назад.

Ён не спускаў з мяне сваіх вачэй, якія, здавалася, вышуквалі за маёй спінаю хлеб. Мне падалося, што я бачыў ужо недзе гэтыя вочы і гэты твар. Можа, у мястэчку, але хіба запомніш усіх немцаў? Твар быў у яго белы, як папера, з цёмнымі ямкамі вакол вачэй. І зарос шчэццю. Заўважыў яшчэ ў першыя хвіліны, што адна нага ў яго абвязана

бруднай анучай, на якой запяклася і пачарнела кроў. Такою ж анучай абкручана і рука, рукаў пінжака адарваны да самага пляча.

— Хлопец, я не немец. Ідзі сюды, не бойся,— нечакана сказаў ён.

Голас мне падаўся не менш знаёмы, чым твар, але я не паверыў сам сабе. Вельмі асцярожна ступіў у капліцу. У сярэдзіне яе была каменная лесвіца, якая вяла на гарышча. Чалавек у нямецкім апусціўся на яе ніжнюю прыступку, выцягнуў нагу, завязаную ў анучу.

— Ты чый? — спытаў ён.

— Войцікаў, з мястэчка.

— А-а, Цімохаў сын,— ён узрадаваўся.— Дзе бацька?

Тут і я адразу пазнаў яго. Гэта дзядзька Мікола, сын Каржаковых. З нашага мястэчка. Толькі нямецкая форма, худоба і шчэць на твары зрабілі яго такім, што пазнаць было цяжка. Я расказаў, як адступаў цераз мястэчка бацька і як маці выратавалася атрутай ад Германіі, а цяпер хварэе. Сказаў, што яго бацьку і маці бачыў, толькі пасаромеўся сказаць дзе.

— Пра мяне нікому ні слова! Зразумеў?

— Я не выдам! — Чамусьці я ледзь не задыхнуўся, калі гаварыў гэтыя словы.— У мяне самога піянерскі гальштук схаваны. Калі знойдуць, дык...

Каржакоў усміхнуўся:

— Вось бачыш, хлопчык, адзін у нас з табою лёс. Нічога, не падай духам.

— А я і не падаю. Я ў доме, дзе жыве камендант, шыбы павыбіваў з рагаткі.

— Бач, які ты малайчына! — Каржакоў раптам змор-

шчыўся ад болю, сагнуўся, памаўчаў і ціха сказаў: — Паесці мне можаш прынесці?

Я не раздумваючы працягнуў яму хустку з хлебам.

— Бярыце. Гэта мне цётка на дзень нараджэння дала.— Не гаварыць жа мне, што я для веруючых мыла на хлеб мяняю! — Вы ешце, дзядзька Мікола, мяне цётка накарміла.

Ён развязаў хустку.

Скрозь цішыню пачулася бумканне рэйкі: у мястэчку наступіла каменданцкая гадзіна. Я ўздрыгнуў.

— Дзядзечка, вы лепей уцякайце адсюль. Немцаў у мястэчку мала, але яны злосныя, як сабакі.

— Нага ў мяне баліць, вось якая гісторыя,— сказаў Каржакоў.— Ды і ўвесь я размаляваны — нікуды не пакажашся.

Пакуль Каржакоў еў хлеб, я глядзеў у вузкую дзірку ў дзвярах. Неба ўсё цямнела і цямнела.

— Слухай, у цябе няма на прыкмеце надзейнага чалавека, дарослага? — раптам спытаў ён.

Такога чалавека ў мяне не было, і я сказаў яму пра гэта. Ён паклаў мне руку на плячо:

— Так і быць, ідзі. Толькі глядзі, не ўліпні.

— За мяне не хвалюйцеся, дзядзечка.

Спяшацца цяпер, калі наступіла каменданцкая гадзіна, мне ўжо не трэба было, і я прапанаваў:

— Дзядзечка, вазьміце маю кашулю замест бінтоў. Яна чыстая, маці яе толькі пазаўчора памыла.

Ён адмовіўся быў браць, але я скінуў яе з сябе, дапамог яму зняць з ран брудныя анучы і, разадраўшы кашулю на палоскі, занава іх перавязаць. Раны былі яшчэ

на плячы і на другой руцэ, але перавязаць іх не было ўжо чым.

— Дзе гэта вас?

— У разведку ішоў. І на засаду нарваўся. Ледзь выкруціўся. У іхняй форме быў, але яны патрабавалі дакументы... Вось і прыйшлося брацца за аўтамат.

— Вы ў партызанах?

— Ага. Далёка адсюль наш атрад. Аж за сто кіламетраў. Не ведаюць там, што такое са мною здарылася. Думаюць, відаць, што я загінуў.

І ён застагнаў ад болю. Я зразумеў,— партызану цяжка і лепш цяпер ні пра што з ім не гаварыць, але не ўцярпеў, спытаў:

— А немцаў хутка прагоняць?

Ён нічога не адказаў, толькі кіўнуў галавою.

На развітанне я сказаў:

— Дзядзечка, я вас не пакіну. Заўтра вам прынясу вады і што-небудзь паесці.

Я прыйшоў дамоў ноччу. Чакаючы мяне, маці не спала, сядзела на парозе. Убачыла, пляснула рукамі:

— Божа, ты ж без кашулі?!

— Я? У мяне паліцаі ўсё адабралі. І кашулю знялі. У хлеў загналі. Ледзь уцёк.

Мы зайшлі ў хату. Вокны былі занавешаны посцілкамі. Цьмяна гарэла на покуце лямпа.

— Божа, твая воля! Ужо і дзецям няма спакою,— завохкала гаспадыня.— Дзе ж гэта цябе яны перастрэлі?

Я хацеў быў сказаць: «Каля капліцы», але, памятаючы пра сваю тайну, прамармытаў:

— Ды там, на дарозе.

Мабыць, мая стомленасць і свежыя драпіны на нагах, адсутнасць кашулі поўнасцю пераканалі іх, што я на самай справе трапіў у рукі да паліцаяў.

## 2

Раніцай мяне збудзілі старыя ходзікі. Кожны дзень я чуў іх знаёмы хрыплы голас, які даносіўся з хаты нават сюды, у хляўчук. Спачатку я не мог зразумець, дзе знаходжуся. Учарашняя сустрэча з разведчыкам здалася мне сном.

Першае, пра што падумаў,— трэба здабыць недзе ежы і занесці яму. І потым: што рабіць далей? Немцы і паліцаі могуць разнюхаць пра партызана. Неабходна знайсці надзейнага чалавека, расказаць яму ўсё і прыдумаць нешта... Дарослыя мужчыны ўсе ў арміі ці ў партызанах. Перабраў у галаве ўсіх старэйшых хлопцаў, якіх ведаў па школе. Многія падаліся з бежанцамі, а тыя, што засталіся, даверу ў мяне не выклікалі. Толькі Міцька! Ён на клас старэйшы за мяне. Раптам перапалохаецца, калі раскажу пра параненага?

Я стаў прыгадваць пра Міцьку ўсё, што ведаў. Бацька памёр даўно, а маці, фельчарка, пайшла на фронт. Міцьку ўзяла да сябе цётка, якая жыла ў канцы мястэчка. Ён перазімаваў у яе, але як толькі пацяплела, вярнуўся да сябе дамоў і цяпер хадзіў да цёткі толькі абедаць. Спаў ён у хляве на вышках — у іхнюю хату трапіў нямецкі снарад,— ляжаў заўсёды ў сене і запоем чытаў кніжкі.

Мне не было калі — у капліцы чакаў паранены,— і я выскачыў з хлеўчука і пабег на вуліцу. Перад дваром Міцькі стаялі два клёны. Пад імі — сухія грудкі зямлі. Я пачаў хапаць іх рукою і шпурляць на дашчаны дах хлява. Камякі зямлі гучна шпокалі па дошках, білі, як у бубен, рассыпаліся, распырскваліся і скочваліся на зямлю. Хоць грудкі моцна тарахцелі па даху, Міцька з хлява не паказваўся. І раптам адсунулася ўбок дошка і з дзіркі высунулася яго галава. Потым і сам ён вылез, няўцямна пазіраючы на мяне.

— Ты кідаў? — злосна спытаў ён.

— Я. Хацеў цябе разбудзіць. Справа ёсць.— Я хутка пералез праз плот і па лесвіцы ўзлез на вышкі. Галоўнае, я быў упэўнен: Міцька — свой хлопец. Некалі ён здзіраў з варот нямецкія лістоўкі. На свае вочы бачыў гэта.— Міцька, разумееш, справа ёсць. Таемная! — выдыхнуў я.

Яго вочы загарэліся ад дапытлівасці. Міцька засоп у нос:

— Якая?

— Зараз раскажу.

Мы селі ў самым цёмным кутку, на сена. Для пачатку я сказаў:

— Зараз такі час. Разумееш сам... Ёсць такія, што перапалохаліся... Забылі, што былі піянерамі. Ты як?

— Яшчэ пытаеш! Я не забыў. Нават нямецкую мову вучу.— Ён падаў мне падручнік нямецкай мовы для восьмага класа.

— Нямецкую мову? Чаму?

— Каб ведаць, пра што немцы гавораць. А яшчэ нядаўна Гайдара прачытаў. «Школа» — называецца. Цяпер

яшчэ адну кнігу чытаю. Цяжкую. У ёй хоць і не ўсё зразумела, але ўсё-такі... Даць табе Гайдара?

— Я так і думаў, што на цябе можна спадзявацца.

— Факт!

— Міцька, гавораць, што ты нямецкія лістоўкі з платоў і варот пазрываў.

— Хто гаворыць?

— Бачылі. Але тыя, хто бачыў,— людзі надзейныя, не выдадуць. Ты толькі скажы, Міцька, нашто ты гэта рабіў?

— Нашто? Я вось адну кнігу памятаю — «Спартак». Там яшчэ не так змагаліся.

— Міцька, у капліцы адзін чалавек хаваецца.

Я расказаў яму пра ўчарашнюю сустрэчу. Міцька аж падскочыў.

— Хочаш, я клятву дам, што нікому не скажу!

— Я і так табе веру. Заўсёды ведаў, што ты мне лепшы сябар.

Але потым і я пачаў хіліцца да таго, каб даць клятву. Аднак Міцька сказаў:

— Клятву мы адзін аднаму дадзім, факт. Толькі спачатку трэба даведацца, ці сапраўдны ён партызан. Можа, не.

— Ды што ты, Міцька! Гэта ж Каржакоў, я пазнаў яго.

— Яшчэ не доказ.

З двара пачуўся голас:

— Міцька! Міця!

— Гэта цётка,— незадаволена прашаптаў ён.— Кліча есці.

Мы залезлі з галовамі ў сена, і гэта было якраз дарэчы — лесвіца заскрыпела, і паказалася цётчына галава. Не заўважыўшы нас, цётка яшчэ раз паклікала Міцьку і спусцілася на дол. Калі яна выйшла з варот хлява і накіравалася дамоў, Міцька сказаў:

— Можа, ты абазнаўся. Ды і нямецкая форма на ім. Трэба праверыць. Бяжы да Валіка Панцака, распытай пра старых Каржаковых. Потым сустрэнемся.

Валік узрадаваўся, калі ўбачыў мяне. Пра хлеб, які мы падзялілі, каб больш надзейна данесці да мястэчка, ён не пытаў. Відаць, ведаў ужо ўсё ад маёй маці.

Я сказаў быццам між іншым:

— Той раз у малітоўным доме старыя Каржаковы былі. Яны што, даўно вераць у бога?

— Нядаўна. Гэта прэсвітэр іх у абшчыну зацягнуў. Пасля таго як прапаў іх адзіны сын. Вельмі па ім яны гаруюць.

— Як прапаў?

— Прыйшлі немцы, і ён невядома куды падзеўся. Ноччу яго не стала. Ніхто не ведае. Доўга шукалі яго старыя. Па вёсках хадзілі і пыталі. Сам дзед магілу за мястэчкам раскопваў, дзе расстралялі фашысты палонных, думаў, што там яго сын. У армію не ўзялі яго па нейкай хваробе... Пасля гэтага стары пачаў слепнуць, бельмамі пачало зацягваць вочы яму.

Хутка я выйшаў на вуліцу.

Міцька сядзеў пад плотам і падкідваў у руцэ камянчыкі. Я расказаў яму ўсё, што ўдалося выведаць у Валіка.

## 3

Мы з Міцькам увайшлі ў капліцу, трохі асвойталіся ў поцемках. Я асцярожна, вобмацкам падняўся па каменнай лесвіцы і ціханька стукнуў па дошках гарышча. Там быў лаз.

— Дзядзька! Гэта я. Памятаеце мяне?

Драўлянае вечка лаза адчынілася. Учапіўшыся за бэльку, я залез на гарышча і падаў руку Міцьку.

— Хто з табою?

— Надзейны чалавек. Мой таварыш,— адказаў я, дапамагаючы Міцьку ўзлезці.

У сценах між каменнямі былі дзіркі, праз іх свяціла сюды сонца, але на гарышчы стаяў паўзмрок. Каржакоў сядзеў ля лаза. Мы паклалі перад ім вузельчык, у якім былі яшчэ цёплая печаная бульба, луста хлеба, агуркі і бутэлька з вадою. Міцька падаў партызану загорнутыя ў анучку «бінты» — сцягнуў у цёткі белае прасцірадла і разадраў яго.

Потым Міцька засоп у нос. Ён заўсёды, перш чым пачаць важную размову, гучна пачынае сапці. Я сказаў:

— Гэта Міцька! Вы яго не бойцеся. Ён смелы: здзірае з платоў нямецкія загады.

Зразумела, што сказаў я нешта не тое, бо Міцька таўхануў мяне ў бок. Ён падсунуўся бліжэй да параненага.

— Дзядзечка,— ціха загаварыў ён,— вам заставацца тут небяспечна. Ды і нас могуць высачыць. Вы б маглі дайсці да мястэчка? Там у нас ёсць адно патаемнае месца.

— Пачакай, пачакай! Вы мне спачатку скажыце, хлопцы, фельчарка, што працавала ў бальніцы, у мястэчку? Нікуды яна не паехала?

— Гэта ж мая маці,— адказаў Міцька.— Яна на фронце.

— Вось яно што! А ніякіх бінтоў, лекаў, скажам, у вашым доме не захавалася?

— Снарад трапіў у дом. Сам у хляве жыву.

— Тады іншая справа.— Каржакоў памаўчаў, нешта падумаў і нарэшце вымавіў: — Да мястэчка мне не дайсці.

— У мястэчку жыве стары доктар Сцяпан Антонавіч. Часта бачу яго. Ваду бярэ ў нашым калодзежы,— раптам успомніў і ўзрадаваўся я.

— Ваўчок?

— Ага.

— Як гэта мы забылі пра яго! — загарэліся ад надзеі вочы ў дзядзькі Міколы.— Прывядзіце яго да мяне. Хай лякарствы прыхопіць.

— Абавязкова прывяду! — адказаў я.

Я ўважліва глядзеў яму ў твар, на якім паблісквалі чорныя вочы. Прыгадалася, як аднойчы, калі быў яшчэ зусім малы і не хадзіў у школу, уплёўся за старэйшымі хлопцамі ў кусты, што раслі за поплавам на ўзгорках. І хлопцы забылі мяне там. Змяркалася. Мне стала страшна, і я моцна заплакаў, пачаў гукаць маці. Выратаваў мяне тады не хто іншы, а гэты дзядзька Мікола. Ён пачуў мой плач, знайшоў мяне ў кустах, пасадзіў на спіну і, ледзь жывога ад страху, прынёс дамоў. Вось з таго выпадку і засталіся ў маёй памяці яго чорныя добрыя вочы. Цяпер ён партызан. А Міцька не верыць... Дзівак!

Не ведаю, ці здагадаўся дзядзька, пра што я падумаў, але яго рука ўдзячна лягла на маё плячо. Ён марудна, ціха спытаў:

— Як мае бацькі жывуць?

— Хварэюць. Вельмі за вас перажываюць,— адказаў я.— Думаюць, што загінуў.

— Не кажыце, што я тут. Каб бяды якой не было ім. Ну, ладна, ідзіце. Заўтра не прыходзьце. Паслязаўтра. Свісніце, і я адкажу. Добра? — Відаць, гаварыць яму было цяжка, бо дзядзька часта кашляў, хрыпла дыхаў.— Пачакайце. Ты ў той раз, Лёнька, пытаў, ці прагоняць немцаў. Гоняць ужо. Хутка ты са сваім бацькам убачышся.

— А дзе ён?

Сэрца ў мяне моцна закалацілася.

— Разам былі мы ў адным атрадзе. Потым атрад падзялілі на два. І твой бацька трапіў у другі. Імя Будзённага. Цяпер гэты атрад далёка адсюль, у Налібоцкай пушчы. У рэйд пайшоў. Павінен хутка і тут з'явіцца.

Дамоў я бег, не чуючы пад сабою ног ад радасці.

У наступны дзень, калі не трэба было ісці ў капліцу, мы сустрэліся ў Міцькі на вышках.

Міцька сказаў:

— Створым атрад. Прыдумаем назву. І дадзім клятву.

— З каго атрад?

— Я, ты.

— Як яго назавём?

Міцька пачаў расказваць змест кнігі «Спартак» і прапанаваў назваць атрад спартакаўскім.

— Няхай будзе ён адразу называцца і падпольным атрадам.

— Няхай.

— І піянерскім.

Так быў створаны намі падпольны піянерскі атрад «Спартак». Члены яго — я і Міцька — далі клятву ратаваць параненага савецкага партызана.

## 4

На другі дзень пад вечар я выцягнуў з куфэрка шэрую мацерыну хустку і паклаў у яе ўсё, што нам з Міцькам удалося дастаць з ежы, завязаў у вузел і запіхнуў туды яшчэ бутэльку з вадой.

Незаўважна выйшаў з двара, забег у агароды і доўга там ляжаў, хаваўся ў разоры. Міцька сказаў, што так трэба. Добра агледзеўся вакол і, нічога не ўбачыўшы падазронага, устаў і подбегам пачаў красціся да капліцы. Калі ўскочыў у канаву, прысеў і свіснуў, як некалі дамовіліся. Свісту ў адказ не было. Я пачакаў і яшчэ раз свіснуў. Зноў ніхто не адказаў. Цішыня. І нікога вакол, нават птушак не бачна. Асмеліўся — было не было,— кінуўся з усіх ног да капліцы і праслізнуў у шчыліну варот.

Пасля яркага сонца нічога не відаць. Трэба падымацца ўгару. Я пачаў марудна лезці на вышкі. Чаму ўсё-такі ён не адказаў на свіст, як дамовіліся? Не пачуў мяне? Ці, можа, пакінуў капліцу? Як ён пайшоў з параненай нагой? Можа, заснуў? А раптам там, наверсе, мяне чакае засада? Усё гэта пранеслася ў галаве за нейкае імгненне.

На верхняй пparticle перакладзіне лесвіцы я спыніўся. Вочы мае ўжо прывыклі да цемені. Я ўбачыў дзядзьку Міколу. Ён ляжаў пад самым дахам.

— Дзядзечка, гэта я, Лёня. Вам паесці прынёс.

Замест адказу пачуў глухі стогн. Я дакрануўся да пляча партызана:

— Дзядзечка, я — Лёня!

Каржакоў памалу расплюшчыў вочы і паглядзеў на мяне.

— Вады,— прамовіў ён так ціха, што я больш здагадаўся, чым пачуў,— вады...

— Вось вада.

Выцягнуўшы з хусткі бутэльку, прыпадняў яму галаву і напаіў. Яго трэсла ліхаманка, я адчуваў, як ён дрыжыць.

— Канец, хлопчык... Паміраю,— ціха сказаў ён.

Я ўсё яшчэ трымаў у руках бутэльку з вадою. І тут рукі мае аслабелі, я ўпусціў ваду, схапіў параненага за плечы, пачаў тармасіць:

— Не трэба! Не трэба... дзядзечка...

Слёзы пабеглі з маіх вачэй, і, забыўшы пра ўсякую асцярожнасць, я кінуўся да лесвіцы і хутка збег з яе на дол. Плачучы і размурзваючы па твары слёзы, пабег па полі, не разбіраў дарогі, спатыкаўся і падаў.

Не памятаю, як апынуўся на вышках, дзе чакаў мяне Міцька.

Ён адразу ўсё зразумеў. І сказаў:

— Ляці да таго дзядка. Ён жа свой, доктар. Да немцаў не пабяжыць.

Калі я дамчаўся да маленькай хаткі, пачало цямнець. Убег у весніцы, падняўся на ганак і пастукаў у дзверы.

Доўга ніхто не адклікаўся. Я пастукаў яшчэ, мяне спыталі, не адчыняючы:

— Хто там?

— Дзядуля, памажыце,— замест тлумачэння прагаварыў я. Ізноў за дзвярыма наступіла цішыня.

Я хацеў пайсці ўжо, але ў гэты час дзверы адчыніліся, і на парозе паказаўся стары. Я ўмольна зірнуў яму ў вочы, ціха сказаў:

— Там чалавек памірае.

Стары пахітаў галавою:

— Я цяпер не лячу нікога.

— Доктар, памажыце,— прашаптаў я ў адчаі і яшчэ больш разгубіўся.

Ён нагнуўся, уважліва паглядзеў мне ў твар, пусціў у хату і спытаў:

— Раскажы толкам, што здарылася?

Доктар пільна слухаў мяне. Твар яго рабіўся ўсё больш сур'ёзны. Калі я змоўк, ён доўга сядзеў, прыкрыўшы далонню вочы. Мне падалося, што забыў пра мяне, і я дакрануўся да яго рукава.

— Так, так,— абазваўся ён.— Я думаю... Становішча вельмі складанае. Ты гаворыш, раны... Калі гэта гангрэна... Тады ў мяне нічога няма з інструментаў. Вельмі мала лякарстваў...

Ён падняўся з-за стала, нервова пачаў хадзіць па хаце, у якой толькі цяпер я разгледзеў занавешаныя вокны, стол пасярэдзіне. Сам дзядок быў маленькі, згорблены, хадзіў уразвалку, нешта мармычучы сабе пад нос і размахваючы рукамі. Потым ён спыніўся насупраць мяне, спытаў:

— Чаму ты не прыйшоў да мяне раней? Адразу...

Потым са стала высунуў ніжнюю шуфляду, высыпаў з яе на стол нейкія інструменты, пачаў іх адбіраць і складваць у маленькую бліскучую скрынку. Ён тут жа загадаў мне распаліць прымус. Потым паставіў кіпяціць гэтую жалезную скрыначку. Стары ўсё рабіў, як мне здалося, вельмі марудна. Рукі дрэнна слухаліся яго. А я месца сабе не знаходзіў, бо ў гэты час мог памерці партызан. Пакуль кіпяцілася скрыначка, стары доктар засоўваў у кішэні пакункі рознай велічыні. Потым мы з ім разадралі на тонкія палосы прасціну. Нарэшце ўсё было гатова.

— Слухай мяне ўважліва,— сказаў ён.— Пойдзем па аднаму. А потым мне патрэбна будзе твая дапамога.

Мы выйшлі. Я ціха адчыніў весніцы і агледзеў цёмную вуліцу: на ёй нікога не было. Сцяпан Антонавіч сказаў, што пойдзе першы. Я падтрымаў яго за локаць, калі ён пераступаў весніцы, і толькі і ўбачыў, як яго сагнутая постаць патанула ў цемені. Я трохі пачакаў і пайшоў за ім услед.

Як і дамовіліся, Сцяпан Антонавіч чакаў мяне за мястэчкам.

Мы пайшлі палеткам. У чорнай, як дзёгаць, цемені ісці даводзілася вобмацкам. Я падрымліваў доктара пад руку — Сцяпан Антонавіч часта спатыкаўся ў разорах.

Каля гумна на нас нарваўся Міцька. Доктар пачаў адступаць назад, але я сказаў яму:

— Свае. Не бойцеся.

— Дрэнна яму,— ціха шапнуў Міцька і пачаў падспешваць.— Хутчэй, хутчэй!

Падтрымліваючы старога з двух бакоў, мы амаль усцягнулі яго па лесвіцы да параненага. Пакінуўшы доктара і Міцьку каля партызана, я спусціўся ўніз іх вартаваць. Раптам на апошняй прыступцы, калі адна мая нага ўжо стаяла на зямлі, нехта схапіў мяне за руку:

— Лёнька! Гэта я, Валік.

— Ты чаго тут? — спужаўся я.

— Разумееш... Я яшчэ пазаўчора цябе з Міцькам бачыў тут. Як вы заходзілі ў капліцу. І сёння бачыў.

— Шпіёніш?!

Нядоўга думаючы, накінуўся на Валіка, стукнуў яго кулаком і зваліў з ног. Падаючы, ён даў мне падножку, мы паваліліся на ток і пачалі малаціць адзін аднаго кулакамі. Я не заўважыў, калі сышоў з лесвіцы Міцька. Не ведаючы, у чым справа, ён сеў на нас зверху і пачаў лупіць абодвух. Калі ж нарэшце зразумеў, загарадзіў сабою дзірку ў варотах і сказаў:

— Зараз мы яго звяжам і да раніцы будзем вартаваць. Наогул, са здраднікамі так робяць: камень на шыю — і ў ваду.

— Чаго вы прысталі? Я не здраднік. Я з вамі заадно,— перайшоў на шэпт Валік.

— У чым заадно?

— Каб немцы не схапілі таго, хто на саломе ляжыць...

— Хто на саломе ляжыць? Хто? Хіба ты ведаеш? Там нікога няма.

І раптам у маёй галаве з'явілася думка. Я плюнуў, каб паказаць Валіку сваю абыякавасць, і сказаў:

— А!.. Той стары... Міцька, ён мае на ўвазе таго старога!.. Больш там нікога няма.

— Хлусіце! — адказаў са злосцю Валік.— Я сёння раніцай сам быў на вышках... Там чалавек... Я спачатку падумаў, што мёртвы, а ён раптам гаворыць...

— Што ён сказаў?

— Піць прасіў.

— Ну а ты?

— Бегаў дамоў па ваду.

Міцька памаўчаў, падумаў, потым сказаў:

— Гэта яшчэ горш табе, калі ўсё ведаеш... Можа, сказаў ужо каму?

— Нікому! Ні аднаму чалавеку.

— Дык яшчэ разнясеш па мястэчку. Акрамя таго, ты верыш у бога. Хіба ты можаш даць піянерскую клятву, што нікому нічога не скажаш?

— Можаш? — спытаў і я.

— Не.

— Вось бачыш! Калі не можаш паклясціся, значыцца, з табою трэба паступіць, як са здраднікам.

— Чэснае слова, я нікому нічога не гаварыў! Хоць ты, Лёня, павер мне. Ты ж мяне ведаеш...

Але тут Міцька падскочыў да яго:

— Звязвай яго, Лёнька!

Я не ведаў, чым можна было звязаць Валіка. Ён памкнуўся быў выслізнуць у дзірку, але мы навaліліся на яго, і Міцька сказаў, каб я зняў з Валіка папругу і звязаў яму рукі. Папружкі ў яго, як і ў нас, не было, штаны трымаліся на аборцы, і я з вялікай цяжкасцю развязаў яе, пакуль Міцька соп у цемені, стараючыся прыціснуць Валіка да зямлі. Звязваць было яшчэ цяжэй, ён адпіхваў мяне рукамі, нагамі, потым злаўчыўся і агрэў насцом пад дых.

Зверху пачулася раптам ціхае:

— Сюды!

Міцька палез наверх. А Валік сказаў:

— Я сябраваць з вамі па-добраму хацеў... А вы!..

— Ладна! — прымірэнча адказаў я.— Толькі сядзі ціха.

Вярнуўся Міцька. Змрочны. Сказаў, што доктар загадаў спыніць валтузню і быць асцярожнымі.

— Ты заставайся,— сказаў Міцька мне.— А я падымуся. І не спускай з вачэй Валіка. Зваліўся, чорт, на нашу галаву!

Валік, не звяртаючы ўвагі на размову, ціха і хутка шаптаў нешта сам сабе пад нос.

— Ты што... молішся?

— Ага. Прашу бога, каб вызваліў мяне ад вас.

— Не паможа ён... Павядзём цябе тапіць,— прыстрашыў я яго.

— Камень не знойдзеце. Цёмна...

— Жалезнае кола ад малатарні на шыю надзенем, вунь яно ляжыць пад сцяною.

Валік не вытрымаў, заплакаў. Потым заціх.

Міцька хутка злез з вышак, моўчкі сеў каля мяне.

— Ну што? — спытаў я.

— Ты не ведаеш, дзе можна дастаць коўдру?

— Коўдру? — Я не зусім зразумеў, пра што ён пытае.— Навошта коўдра?

— Доктар сказаў, што трэба.

— У хлеўчуку ёсць. Толькі старая, парваная. Збегаць па яе?

— Пачакай, я спытаю.

Міцька доўга не злазіў да нас з лесвіцы. Час цягнуўся. Здавалася, што ноч ніколі не скончыцца. Каб не заснуць, я часта падымаўся на ногі, хадзіў узад і ўперад, зноў садзіўся. Валік змарыўся і заснуў. Стараючыся трохі сагрэцца, я лёг побач, прыціснуўся да яго спіны і, прыгрэўшыся, так-сама задрамаў. Прачнуўся толькі раніцай і ўбачыў каля лесвіцы доктара і Міцьку. Доктар падышоў да нас і цяжка ўздыхнуў:

— Ну што, галубкі!.. Канец.

— Чаму канец?

— Ён памёр,— сказаў Міцька і адвярнуўся.

Я не асмеліўся задаць хоць адно пытанне, апусціў галаву. Валіка забылі развязаць, і ён так і стаяў са звязанымі рукамі. Калі аслабанілі яго ад аборкі, Міцька сказаў:

— Разбягайцеся, хлопцы. Мы застанемся... Выходзьце з капліцы па аднаму, асцярожна. І ты, Валік, каб не гаварыў ніводнаму чалавеку. Чуеш?

Ён злёгку падштурхнуў хлопца, і я толькі ўбачыў, як той мільгануў у густых зарасцях палыну і знік. Міцька сціснуў маю руку і шапнуў:

— Да самай ночы ад Валіка не адыходзь ні на крок. Не дай яму прагаварыцца. Гэта вельмі важна. Калі сцямнее — сюды. Знайдзі коўдру, запалкі, свечку.

Я глянуў на Сцяпана Антонавіча, і ён пацвердзіў Міцькавы словы, кіўнуў галавою:

— Так трэба!

Міцька замахаў рукою, каб я хутчэй ішоў. Я выскачыў з капліцы, ірвануў напрасткі цераз поле, дагнаў Валіка, і мы разам пайшлі ў мястэчка.

— Лёня,— раптам спытаў ён,— а таго, хто ноччу памёр, хаваць на могілках будуць? Можна будзе паглядзець?

— Вось сказаў! Глядзець! Нашто? Пахавалі ўжо. Мы з табою пайшлі, а Міцька пахаваў.

— Ведаеш, чаму ён памёр? Таму, што зброю ў рукі ўзяў. Вялікі грэх ваяваць.

Злосць разабрала на Валіка, і я не вытрымаў:

— А з фашыстамі таксама нельга ваяваць? Мой бацька недзе з імі змагаецца.

Валік падумаў і вырашыў:

— Ён жа не сам ваюе — прымушаюць. А фашыстаў бог пакарае, паглядзіш! Яны ў рай не трапяць.

Шкада, што сварыцца з Валікам нельга было, і я толькі сказаў:

— Ты гэта па праўдзе гаворыш?

— Па якой праўдзе?

— Пра канец свету ды пра рай.

— Канечне.

— Глупства гэта.

## 5

Толькі позна вечарам я адпусціў ад сябе Валіка. Усё, што прасіў Міцька, паспеў знайсці. Запалкі ў мяне былі, свечку ўдалося сцягнуць з кладоўкі. Над парванай коўдрай, якою засцілаў я свой ложак у хлеўчуку, доўга не думаў — забраў...

Мяне сустрэў Міцька:

— Што, прынёс? Давай сюды! Валік нікому нічога не сказаў?

Я адказаў, што пры мне ніводзін чалавек не трапіўся Валіку на вочы — не выпускаў хлопца нават на вуліцу.

Міцька раптам вінавата паглядзеў мне ў вочы:

— Чуеш, Лёнька?.. Толькі ты не крыўдуй на мяне. Ён зусім не памёр.

— Хто? Партызан?

— Цішэй!

— Чаму ж ты тады сказаў? І доктар таксама?

— Каб Валіка абхітрыць. Паверыў ён?

— Паверыў. А цяпер што рабіць будзем?

— Панясём яго.

— Куды?

— У леснічоўку, што за Чортавым балотам.

— Ды ты што, Міцька! Дрыгву не пяройдзем. Засмокча яна нас.

— Цішэй! Так доктар сказаў. А я буду туды паказваць дарогу. Па старых кладках.

Мы залезлі на вышкі і пачалі памалу спускаць параненага па лесвіцы ўніз. Я моцна схапіў яго за ногі, Міцька і доктар трымалі спіну і галаву. Доўга і марудна мы пасоўвалі дзядзьку Міколу ўніз, стараліся не зачапіць яго раны. Потым адпачывалі: анямелі рукі. Сцяпан Антонавіч стаяў, прыслухоўваючыся.

Мы разаслалі коўдру і паклалі на яе партызана. І вынеслі яго з капліцы.

Ноч была цёмная. Падаліся ў густы лазняк. Ішлі, як сляпыя. Праз кожныя пяцьдзесят, а то і дваццаць крокаў спыняліся, апускалі Каржакова на зямлю. Думалася, што не хопіць сілы падняць яго зноў і цягнуць далей. Я трымаў два канцы коўдры ля ног, Міцька — ля галавы. Рукі

мае вельмі хутка слабелі, я адчуваў, што коўдра вось-вось выслізне з пальцаў, і даводзілася зноў спыняцца. Акрамя гэтага, мы яшчэ і спатыкаліся на кожным кроку. Стары доктар нёс у руцэ аўтамат і часта хацеў дапамагчы нам, але толькі замінаў.

Да чаго ж цяжкі чалавек бывае, нават калі худы! Мы спрабавалі несці яго без коўдры. Міцька ўзяў дзядзьку Міколу сабе на спіну, а я прытрымліваў ззаду. Далёка так не пранеслі, зноў паклалі на коўдру і пацягнулі па зямлі. Партызан ціха стагнаў. Адзін раз ён папрасіў, каб яго паднялі на ногі, ступіў некалькі крокаў, абапіраючыся на мае і Міцькавы плечы, але тут жа знясілеў і апусціўся на зямлю. Нарэшце мы спыніліся каля балота. Сцежка праз яго пачыналася, як сказаў Міцька, там, дзе стаяў абгарэлы дубовы пень.

Я прайшоў уперад і памацаў зямлю нагою — цвёрда. Мы рушылі далей. Доўга ішлі, пакуль сцежка не вывела нас на ўзгорак, на якім чарнела доўгая будыніна лесніччоўкі.

— Ну вось і зрабілі галоўнае,— сказаў Сцяпан Антонавіч, калі селі перадыхнуць на парозе маўклівай цёмнай хаціны.— Дачакаемся тут світання.

Доўга абмяркоўвалі, як будзем цяпер дзейнічаць. Мне сказалі, каб зараз жа ішоў дамоў.

— Чаму мне?

— Цябе маці шукаць будзе,— сказаў Міцька.— Я — іншая справа. Магу прападаць колькі ўлезе.

— Я таксама змагу пабыць тут не вельмі доўга,— абазваўся доктар,— у мястэчку кожны дарослы чалавек на ўліку.

Вырашылі так: Міцька застанецца з партызанам. Па Сцяпана Антонавіча я прыйду праз два дні. Звязвацца будзем запіскамі, якія я стану хаваць у выгаралым пні, што стаіць у пачатку сцежкі праз дрыгву. Туды я буду насіць і ежу. У першы дзень трэба прынесці паперу і аловак. Яшчэ быў у мяне абавязак — сачыць за хаткаю доктара: можа, хто зацікавіцца адсутнасцю Сцяпана Антонавіча.

— Ты ўсё зразумеў? — Міцька моцна пацiснуў маю руку.

А стары доктар прыхіліў мяне да сябе і пацалаваў у лоб.

6

Ці то прыснілася, ці то было на самай справе, але ноччу я чуў у двары нечыя крокі, глухі і басавіты мужчынскі голас, падобны на бацькаў. І, здаецца, да маіх вушэй даносіўся шэпт маці.

Я прачнуўся і доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма, прыгадваючы начныя гукі. Калі б прыходзіў бацька, падумаў я, абавязкова зайшоў бы ў хляўчук, збудзіў мяне. Эх, каб гэта было! Мне так нясцерпна захацелася ўбачыць бацьку, прыцiснуцца і абхапіць рукамі яго за шыю, што аж зашчымела ў грудзях і на вочы навярнуліся слёзы. Дзе ён? Можа, загінуў, а можа, недзе моцна б'е фашыстаў...

Сонца, відаць, высока паднялося ў неба — праменні распратыкаліся жоўтымі саломінкамі праз шчыліны ў рассохлых дошках хлеўчука, тарчма стаялі ў паўзмроку, які панаваў тут. У іх, калі прыгледзецца, клубіўся, варочаўся

густы пыл. Так з дна сажалкі падымаецца на чыстую ваду каламуць, калі ўзбоўтаеш яе нагамі.

Я падняўся са свайго лежыва, адчыніў варотцы, выйшаў на двор і ўбачыў маці. Яна ставіла на цагліну чыгунок з бульбаю, мерылася варыць яе на снеданне. Убачыла мяне, весела сказала:

— Назбірай, сынок, трэсак на агонь.

Пад плотам я набраў іх поўны бярэмак, прынёс і высыпаў ля чыгунка, сам сеў на зямлю і пачаў цікаўна ўглядацца ў матчын твар. Заўважыў у ім нейкую дзіўную перамену. Заўсёды маўклівая, змучаная, маці раптам пагаднела, вочы ў яе свяціліся непадробнай радасцю і нейкім спакоем.

Яна паклала пад чыгунок і запаліла трэскі. Спачатку зацадзіўся жоўты дымок, потым ён пабялеў, парадзеў — з-пад трэсак выткнуліся, папрасаджваліся чырвоныя стужкі полымя і абвіліся вакол чыгунка.

— Хто гэта да нас ноччу прыходзіў? — не ўцерпеў я і зірнуў на маці.— Чуў нейкія галасы на двары.

Маці разагнулася, падняла на мяне вочы:

— Хіба ты не спаў?

— Спаў. А што? Чуў праз сон.

— Гэта табе снілася. Ніхто не прыходзіў.

Заўважыў, што яна ўсміхнулася аднымі толькі губамі, і здагадаўся — маці нешта недагаворвае. Хацеў спытаць пра мужчынскі голас, які чуў ноччу, але мама апярэдзіла мяне і, каб адвесці гаворку, сказала:

— Кажуць, у лесе грыбы пачалі расці.

— У такую сухмень? — здзівіўся я.— Адкуль яны будуць? Дажджу ж не было.

Маці ўсміхнулася:

— У Воўчай градзе ішоў дождж... Там на тым тыдні стаяла хмара, грымела.

— Праўда?

— Учора дзеці неслі з лесу грыбы. Хай бы і ты, сынок, збегаў. Насмажылі б сыраежак... Смаката якая будзе!

Маці ведала, што гаварыла,— быў я заўзяты грыбнік і заўсёды, калі растуць грыбы, прападаў у лесе, прыносіў кожны раз дамоў іх поўны кошык. І даняла мяне зараз да жывога, бо ўскочыў на ногі, захваляваўся:

— І багата неслі грыбоў?

— Па поўным кошыку.

— Дык пабягу!

— Пачакай, бульбы з'ясі,— сказала яна.— І найперш, сынок, пашукай іх пад дуплаватым дубам ля Гнілога балотца. Там заўсёды зялёныя сыраежкі растуць.

— У якім совы жылі?

— Ага. Добра там патапчыся. Не спяшайся адыходзіць ад таго грыбнога месца. Там і баравікоў возьмеш. Яны заўсёды там сядзяць. Не забудзеш? — дапытліва паглядзела на мяне.

— Не, мамачка.

Бульба зварылася. Маці адцадзіла з чыгунка, накрыўшы яго ручніком, ваду пад плот, паставіла бульбу на траву, блізка ля мяне... Я хапаў у пальцы гарачыя, з ружовымі прыгаркамі бульбіны, перакідаў з рукі ў руку, каб астылі, потым браў іх у рот. Бульба перасядала, душыла ў горле, пякла пад грудзямі, але я хапаў і хапаў яе, пакуль не наталіў голад. Ведаў, што гэтым нішчымным снеданнем прагнаў голад ненадоўга. Хутка ён зноў вернецца, прый-

дзе, будзе даймаць, мучыць мяне, не даваць спакою, але есці больш не было чаго — усё забралі фашысты.

Я знайшоў пад паветкаю запылены кошык, дастаў з-пад дошак, што ляжалі пад плотам, сцізорык, натачыў яго на бруску.

— Толькі нікога з сабою не вядзі,— таемна сказала маці, калі я выходзіў з двара,— не паказвай таго месца, дзе растуць грыбы.

— Добра.

Слухаў маці і не верыў сваім вушам — нядаўна яна не адпускала мяне ні на крок з двара, каб не нарваўся на якую бяду, плакала, шукала, калі з Міцькам прападаў каля параненага, нават біла трапчаком, а сёння, бач, нават пускае ў лес. Аднаго. Дзіва, дый годзе!

Даўно я не быў у лесе. З таго дня, як фашысты занялі мястэчка. І цяпер прагна ўглядаўся ў роўныя хвоі, што натоўпам падступалі да самай дарогі, чуў ціхае дрымотнае гудзенне іх верхавін. Настоенае на жывіцы, мядовым водары ружовых верасоў паветра было тугое і густое, і, калі дыхаў ім, казытала ў грудзях. Я сышоў з дарогі, якую густа перапляялі карані, што выпіраліся, як рэбры, і былі аблузаныя коламі, пачаў віляць між хвой. Пад імі некалі браў моцныя і пруткія, бы капыты, баравікі. Пільна глядзеў сабе пад ногі, але на вочы не траплялася ніводнага грыба. Нават казлякоў не было бачна.

А вось і дуплаваты дуб. Стаяў ён на прагалку, воддаль ад сваіх таварышаў, і быў стары, як дзед. Кара на ім патрэскалася, пааблузвалася, палопалася і вісела тоўстымі

скібамі на камлі; з карчаватага, падобнага на вывіхнутыя рукі, галля звісаў, як прадзіва, мох; макаўка дуба высахла, на ёй сядзела сіваваронка. Пад тоўстаю і шырокаю губой у дубе зеўрала чорнае дупло. Калі схапіцца за сук, падцягнуцца, можна ўсадзіць у яго руку.

У дупло я не палез — ведаў, што яно было глыбокае, да самых каранёў, і дна ў ім не дастанеш.

Абышоў дуб, патаптаўся ў верасе, але не ўбачыў ні аднаго грыба. Нават сыраежак не было.

Раптам ззаду сябе я пачуў шамаценне леташняга лісця, нечыя крокі, уздрыгнуў і абярнуўся — да мяне ішоў, сменючыся, высокі чалавек, падпяразаны шырокай папругай, на якой віселі, целяпаліся гранаты. На ім былі кірзавыя боты, чырвонаармейская пілотка і даматканая шэрая світка. Чалавек падышоў бліжэй, і я ўбачыў, што ў яго з-за пляча тырчала ўгару дула вінтоўкі.

— Сынок! — абазваўся чалавек і стаў.— Лёнька!

— Тата! — пазнаў я бацьку, крыкнуў ад радасці, кінуўся да яго і, калі падбег, схапіўся за бацькавую руку, прыціснуўся да яе тварам і заплакаў. Не мог вымавіць ні слова, плакаў доўга і наўзрыд; і ад радасці, што ўбачыў яго, і ад таго, што захварэла маці, і ад злосці на фашыстаў, якія выгналі нас з хаты, і ад роспачы. Ён таксама маўчаў, разумеў усё і гладзіў мяне па галаве.

— Ну хопіць,— уздыхнуў бацька.— Наплакаўся?

— Ага,— усміхнуўся я, выціраючы кулакамі з воч слёзы.— Гэта я ад таго, што засумаваў па табе.

— І я ледзь не заплакаў, калі цябе ўбачыў,— азваўся бацька.

— Праўда? Ты ж вялікі, каб плакаць.

Ён схапіў мяне за рукі вышэй локцяў, страсянуў ад моцнай радасці:

— Вунь які ўжо вырас!

Мы адышлі ад дуба ўбок, селі на трухлявую і мяккую, як канапа, калоду. Бацька зняў з пляча вінтоўку, паставіў яе між каленяў. Я з цікаўнасцю пазіркваў на яго, яшчэ не верачы, што бачу бацьку, і не ведаў, што казаць. Успомніў, як чуў пад раніцу на двары мужчынскі голас. Цяпер зразумеў усё і спытаў:

— Гэта ты да нас ноччу прыходзіў?

— Я.

— А чаму ж мяне не збудзіў?

— Не хацеў перабіваць табе сон. Ды і не было калі мне — світала. Трэба было хутчэй у лес вяртацца.

— Я здагадаўся, што ты быў...

Бацька ўсміхнуўся:

— А маці нічога не казала табе пра мяне?

— Не казала.

— Хацела, відаць, здзівіць... Гэта я яе папрасіў, каб адправіла цябе да гэтага дуба па грыбы.

— Іх жа няма...

— А я хіба не баравік? — зарагатаў бацька.

Цяпер я асвойтаўся з татам, якога на першым часе трохі саромеўся, баяўся глядзець яму ў вочы — адвык. Працягнуў руку да яго вінтоўкі, нясмела датыкнуўся пальцамі да затвора.

— Бяры вінтоўку сабе на калені. Толькі не націскай на курок,— дазволіў ён.

Вінтоўка была цяжкая, з жоўтым бліскучым прыкладам. Я памкнуўся прыкласці яе да пляча, прыцэліўся ў

дуб, але не ўтрымаў на выцягнутых руках і апусціў на калені.

— Сілы не хапае? — усміхнуўся бацька.

— Ага.

— Будзе сіла, калі падрасцеш...

— Тады вайна скончыцца, і я не заб'ю ні аднаго фашыста.

Бацька зноў зарагатаў:

— Эх, ваяка! Табе хіба толькі з рагаткі страляць.

— А я і страляў,— пахваліўся бацьку.— Вокны ў камендатуры павыбіваў. Вось забегалі паліцаі! Думалі, што снайпер з бязгучнай вінтоўкі хацеў каменданта забіць...

Бацька перастаў смяяцца, паклаў мне руку на плячо:

— Часта камендант адлучаецца з вёскі?

— Кожны дзень ездзіць у Рудню на легкавіку. Там маслабойка...

— Раніцай?

— Не, пад вечар. І ніхто не падпільнуе яго,— пачала мяне браць злосць на фашыста.— Гэта ж ён выгнаў нас з хаты. Каб у мяне была вінтоўка, пекануў бы ў крывасмока!

— Хутка не будзе яго.

Я ад радасці аж падскочыў:

— Застрэліце ці ў палон возьмеце?

— Як выйдзе.

— Мы з Міцькам стварылі падпольны атрад! — пахваліўся я зноў перад бацькам.

— І колькі вас у атрадзе? — пацікавіўся ён.

— Толькі ўдвух. Хацелі Валіка прыняць, але ён верыць у бога.

— І што вы робіце ў сваім атрадзе?

— Параненага партызана хаваем. Есці яму носім. Лечым яго. Нам доктар памагае. Сцяпан Антонавіч.

Бацька цікаўна зірнуў мне ў вочы. Мабыць, не паверыў спачатку ў тое, што я сказаў.

— Праўда? — тармуснуў мяне за плячо.— А дзе ён?

— У лесічоўку занеслі. Спачатку хавалі ў капліцы, але там яму заставацца было небяспечна, паліцаі ці немцы яшчэ вынюхаюць. Вось мы і перанеслі. І доктар з намі.

— Ай ды малайцы! — здзівіўся тата.— Кажаш, у лесічоўцы? Заўтра забяром яго ў атрад. І Сцяпана Антонавіча возьмем.

Калі мы развітваліся, бацька абняў мяне, пацалаваў і наказаў:

— Беражы, сынок, маму. Слухай яе.

Я доўга глядзеў услед тату. Ля самага прагалу ён азірнуўся, махнуў на развітанне рукою і знік у хвойніку.

Зноў я застаўся адзін.

## 7

Я не спаў амаль дзве ночы запар і, як толькі зацемна прыйшоў да сябе ў хляўчук, упаў на сваё лежыва і адразу ж заснуў.

Прачнуўся ад моцных штуршкоў. Нада мною нахіліліся маці і гаспадыня. У першы момант мне захацелася нацягнуць на сябе коўдру, закрыцца з галавою і прытварыцца, што сплю. Але коўдры ж не было! Са сну не адразу ўспомніў, што занёс яе ў капліцу. Я сеў на ложку, моўчкі

ўнурыў вочы ў зямлю. Прапажа была сур'ёзная. «Ну, цяпер перападзе мне!» — падумаў са страхам.

— Божа, што гэта робіцца! — сказала маці.

— Прапала такая коўдра! — усклікнула гаспадыня.

Яны забылі, што коўдра была парваная, нікому не патрэбная, таму яе і аддалі мне ў хлеў. Я маўчаў, не ведаў, што і казаць.

На самай справе, маці і гаспадыня нічога не маглі зразумець. Учора ўвесь дзень я быў з Валікам, якому яны давяралі, як сабе, увечары пайшоў спаць у хляўчук. Калі ж прапала коўдра? Нарэшце маці і гаспадыня вырашылі, што ў хлеў залезлі зладзеі. Увечары ведала ўжо амаль усё мястэчка, што яны ўкралі ў нас падушкі, новую коўдру, а мяне замкнулі ў хлеўчуку.

Раніцай жанчыны з нашай вуліцы сабраліся ісці ў поле па шчаўе. Я таксама пайшоў з імі. Напісаў запіску, схаваў яе ў чаравік, каб не знайшлі паліцэйскія ці немцы, якія могуць пераняць нас у дарозе, загарнуў у хустку кавалак хлеба і бутэльку вады. Ісці разам з жанчынамі было нават лепш. Гэта не выклікала падазрэння.

На полі мы разышліся. Нагінкам я падышоў да пня, што стаяў недалёка ад дрыгвы, засунуў у яго руку і выцягнуў парожні патрон ад вінтоўкі. У ім была Міцькава запіска: «Усё ў парадку. Партызан будзе жыць. Міцька».

Я так пастараўся, калі збіраў потым шчаўе, што прынёс дамоў яго поўную хустку. Маці ўзрадавалася, паклікала з двара гаспадыню.

— Глядзіце, які малайчына!

— Я ўжо даўно кажу, Арына, каб ты часцей яго ва-

дзіла на малітвы. Раз пабыў, і то лепшы стаў. Паглядзі, які сын у Панцакоў,— адна радасць. І твой такі стане. Спадзявайся.

У Панцакоў мая маці ўвесь час хваліла Валіка, і, мабыць, таму ён павадзіўся штодня прыходзіць да мяне дамоў. Я хаваўся ад яго. Маці кожны раз непакоілася, калі Валік не заставаў мяне дома, але не лаялася: штодзень я прыносіў з поля поўную хустку шчаўя, з якога мы варылі боршч.

Валік усё-такі злавіў мяне, калі я варыў кіяхі. Варыў іх у нямецкай касцы, якую знайшоў у кустах. Павесіў яе над агнём на папярэчцы. Кіяхі збіраўся аднесці потым параненаму. Іх было шмат у касцы, і я пачаставаў адным Валіка.

— Вельмі смачна,— аблізваючыся, пахваліў ён.— Дзе ўзяў?

— Наламаў. На агародзе ў старасты.

Валік нават жаваць перастаў:

— Хіба можна? Грэх гэта!

— Ну, калі нельга, не еш. А хіба не грэх старасту прымушаць людзей працаваць на сябе бясплатна?

Валік быў не дурань, каб адмовіцца ад кіяхоў.

— Лёнька, а дзе Міцька? Даўно нешта яго не бачыў.

— Да цёткі жыць перайшоў.

— А ён праўда пахаваў тады партызана?

— Адкуль ты ведаеш, што партызана?

— Ведаю. Пра ўсё здагадаўся, хоць вы і хацелі тады мяне абдурыць. Міцька яго пахаваў?

— Ага.

— Дзе?

Гэты Валік, відаць, вырашыў даканаць мяне. Мала таго, што ад яго нікуды не схаваешся, дык яшчэ даймае сваімі пытаннямі.

— Дзе ён яго пахаваў?

— Нашто гэта табе?

— Трэба.

— Не ведаю.

— Давай збегаем да Міцькі, спытаем у яго.

— Міцьку цётка ў вёску паслала. Я сам табе як-небудзь пакажу,— паабяцаў я, бо баяўся, што Валік пачне шукаць Міцьку.

На наступны дзень я пайшоў у поле раней і паклаў перадачу ў пень. Знайшоў там маленькую паперку, згорнутую ў трубку, прачытаў: «Прыходзь ноччу па ўрача». Значыцца, Сцяпан Антонавіч хоча вярнуцца ў мястэчка. Каля капліцы я затрымаўся. Яшчэ ўчора вырашыў абхітрыць Валіка. Побач з кустом раскапаў пясок, зрабіў узгорак, які нагадваў магілу, і абклаў яго дзірваном.

Шчаўя я ў той дзень дамоў не прынёс. Адразу пайшоў да Валіка і сказаў:

— Ты пытаў пра магілу партызана. Яна каля капліцы. Пад ракітай.

Дома маці, калі я прыйшоў, некуды прыбіралася. І раптам сказала мне, дастаючы са скрыні хустку:

— Нікуды не выходзь сёння з двара. Пойдзем да Панцакоў.

Зноў выратаваў мяне стары куратнік на былым нашым дворышчы. Шкада было маці, але я нічога не мог зрабіць. Калі б ты ведала, мама, якою я заняты справаю, ты б, напэўна, ніколі не сварылася на мяне!

## Частка трэцяя

### 1

Золкі халадок запоўз у хляўчук. Замест коўдры мне далі старую ватоўку, якою няможна было накрыцца: нацягнеш на плечы — аголяцца ногі, закрыеш ногі — мерзне спіна. Я ляжаў з заплюшчанымі вачыма, але не спаў, успамінаў, як ноччу сустрэўся з доктарам. Міцька перавёў яго праз дрыгву, а далей ён пайшоў са мною. Доктар вельмі стаміўся за гэтыя два дні, і я ні пра што не стаў пытаць у яго.

З хаты пачуўся кашаль. Гэта маці з тых пор, як цётка напаіла яе зеллем, заходзілася такім надрыўным доўгім кашлем. І мізарнела, слабела на вачах.

Я хутка ўскочыў са сваёй пасцелі і апрануўся. Трэба бегчы да Сцяпана Антонавіча...

У доміку было ціха. Пастукаў. Ніхто не абазваўся. Я падумаў, што стары доктар спіць, і не хацеў будзіць яго. Вырашыў пачакаць каля канавы, зарослай ракітамі. На дне канавы мігцеў, дрыжаў маленькі ручаёк, і я пачаў кідаць у яго каменьчыкі. Раптам мяне паклікалі. Я азірнуўся і ўбачыў Валіка. У яго ў руках было старое вядро. З кішэні тырчаў нож.

— Ты куды гэта? — спытаў я.

— Трэба магілку дагледзець. Учора бегаў да капліцы. Пясок зусім ссунуўся.

Я нават прысвіснуў — Валік здзівіў мяне. Ведаў бы ён, што магіла не сапраўдная! Адчуваючы, як чырванею, я адвярнуўся. Кажуць, па твары можна даведацца: хлусіць

чалавек ці не. Нейкі час я прытвараўся, што гляджу на божую кароўку. Перабіраючы маленькімі лапкамі, яна паўзла па маім калене.

— Паслухай, Валік, а вядро табе нашто?

— Вады набяру, каб кветкі паліць. Учора пасадзіў на магіле.

— Ты нож схавай,— параіў я.— Калі немец убачыць, можа цябе забіць. Немцы нажоў вельмі баяцца.

Валік паклікаў мяне з сабою, але я адмовіўся:

— Маці трэба памагаць. Яна ж у мяне хворая.

Ён пайшоў у поле. Я таксама падняўся, каб ісці, але ўбачыў, што Валік павярнуў назад. Спачатку ён ішоў паволі, потым заспяшаўся і, нарэшце, пабег у мой бок. Хутка я зразумеў, чаму ён вярнуўся. Немцы! Пяцёра іх спускаліся па невялікім схіле ў лагчыну. Адтуль можна выйсці ў поле, не пераходзячы канавы. Ад нас яны былі далёка.

— Цяпер не трэба бегчы! — сказаў Валік.— Яны могуць нас убачыць. Калі пабяжым, страляць будуць.

— Давай сюды нож!

Мы прыселі і, усадзіўшы нож у мяккую гліну, запляскалі яго зверху зямлёй. Потым пачалі ў вядро сыпаць гліну, быццам прыйшлі сюды па яе.

Немцы, мінуючы канаву, пайшлі далей у поле, і Валік пацягнуў мяне ў мястэчка. Але я застаўся на месцы.

— Ідзі сам, калі хочаш,— адказаў я.— Пагляджу, куды немцы пойдуць.

Валік без мяне ісці пабаяўся. Мы падпаўзлі бліжэй да ручая і, не адрываючы вачэй, пачалі наглядаць за немцамі.

Панцак таўхануў раптам мяне ў бок:

— Што ты робіш?

— Нічога.

— Рукамі што робіш?

— А-а.

Я сам не заўважыў — ад хвалявання сціскаў і расціскаў кулакі, мяў у пальцах гліну. Валіку было не зразумець, як страшна я хваляваўся. Няўжо пойдуць немцы па следу? Заўважыць Міцька іх ці не? Мне б цяпер не тырчаць тут з Валікам і не глядзець, як ідуць ворагі па полі,— бегчы б [illegible] усіх сіл да леснічоўкі, сказаць, каб схаваліся. Я закрыў ад страху твар рукамі.

— Глядзі, яны да капліцы ідуць! — сказаў Валік.

Немцы сапраўды ішлі туды. Адзін за адным уваліліся ў капліцу, хвілін праз дзесяць выйшлі, абышлі яе вакол, потым пастаялі і павярнулі назад. Як я быў удзячны нашаму доктару! Гэта ён настояў, каб партызана перавесці з капліцы. А я яшчэ не хацеў! Калі б стары ўрач быў зараз тут, кінуўся б ад радасці яму на шыю. Але яго не было, сядзеў побач Валік, і я аблапіў яго і закрычаў:

— Ура-а!..

Сцяпан Антонавіч! Як я ўзрадаваўся, калі ўбачыў яго на двары. Расказаў яму, што немцы наведваліся ў капліцу.

— Нядаўна прыходзіў паліцай,— сказаў Сцяпан Антонавіч.— Правяраў, ці дома я.

— Я за вашым домам увесь час наглядаў. Ніхто да вас не прыходзіў.

Доктар выглядаў стомленым, рукі ў яго дрыжалі.

— Папраўляецца партызан? — спытаў я.

— Думаю, выжыве. Многа давялося з ім павамждацца,— расказваў Сцяпан Антонавіч.— Цяпер лепш яму. А твой таварыш — малайчына! Смелы хлопец!

— Як жа вы там жылі?

— Жылі. На свежым паветры. Свой дазор быў. Міцька ўвесь дзень на дубе сядзеў:назіраў. А ноччу я не спаў. Усе шолахі чуў.

— А гаварыць што-небудзь старым Каржаковым?

— Пакуль не.

На развітанне ён паклаў руку мне на плячо.

— Ведаю, што ты смелы хлопец. Але памятай: будзь асцярожны!

Ад таго, што немцы не засталі партызана ў капліцы, у мяне ўвесь дзень быў такі вясёлы настрой, што рот сам расплываўся да вушэй.

## 2

Маці стала горш. Гаспадыня сказала, што ёй трэба ляжаць у ложку. Я вырашыў зрабіць у гаспадарцы што-небудзь карыснае.

Толькі ўзяў малаток у рукі — маці даўно прасіла прыбіць мацней завесы ў варотцах,— як у двор увайшоў стараста.

Сам ён да местачкоўцаў не заходзіў. Хіба толькі па важнай якой справе. Позвы, напрыклад, у Германію ўручаць. А так звычайна пасылаў паліцаяў.

— Блазнюк! — Стараста балюча пстрыкнуў мне ў лоб.— Маці дома?

— Ляжыць хворая. Не ўстае.

Больш са мною ён гаварыць не стаў, зайшоў у хату, сеў на ўслон.

— Ты, Арына, вось што,— сказаў ён, часта міргаючы. У яго была такая звычка.— Муку ў мяне брала зімою? Брала! Аддаваць думаеш?

Маці падняла з падушкі галаву:

— Я з радасцю б. Ды вось... Пачакайце трохі, устану на ногі і адраблю яе вам.

— Хіба на тым свеце. Лепш прышлі за сябе хлопца. Зразумела? Каб заўтра быў у мяне!

Стараста падняўся, адпіхнуў нагою ўслон, на якім сядзеў, і выйшаў з хаты. Маці заплакала. Гаспадыня, якая маўчала ў час размовы, пачала на чым свет стаіць клясці старасту, называць яго ірадам, крывасмокам, бандытам і бязбожнікам. Потым спахапілася:

— Што ж гэта я! Прэсвітэр наадварот гаворыць: нават ворага трэба любіць. Не гаруй, Арына! Бог нас не забудзе. Мы ж яго ў сэрцы носім. Памаліся, на душы палягчэе. А Лёнька хай да старасты ідзе. Можа, хоць накормяць там.

— Божа, бяры нас хутчэй да сябе. Каб так не мучыцца. Сіл больш няма такое цярпець.

— Забярэ! Прэсвітэр гаварыў. Адпачнеш на тым свеце.

Трэба было ісці да старасты. І я пайшоў. Дом яго быў абгароджаны высокім плотам. У гародчыку буялі кветкі: Ні ў адным двары ў мястэчку я не бачыў кветак, а ў старасты было іх шмат.

Два дарослыя яго сыны сядзелі ў садзе пад яблыняй, пілі гарэлку. Казалі, што адзін з іх, старэйшы,— дэзерцір і здраднік. Разам з немцамі прыехаў у мястэчка. Другі быў паліцаем.

На ганак выйшаў сам гаспадар:

— Прыйшоў, значыцца... А чаго спазніўся?

— Хадзіў па гліну за мястэчка. Трэба было печ пабяліць.

— Вось што... Сёння будзеш збіраць і вылушчваць са струкоў боб. Такое будзе табе першае заданне.

...Дапамагаў мне збіраць на градах боб унук старасты Віцька, хлопчык гадоў васьмі. Яму гэта была забаўка. Сарве два-тры струкі, пасядзіць, потым зноў сарве.

Віцька спытаў:

— Табе хочацца ў нас працаваць?

— Не.

— Чаму? Мы багата жывём. Майго дзеда ўсе баяцца.

— Бо ён злосны і дрэнны.

На агародзе жанчыны капалі стараставу бульбу. Мабыць, таксама адраблялі пазыку. За нашай работай наглядаў трэці сын старасты, Барыс, высокі пухлы абібок. Усе казалі, што ён дурнаваты. Дурань дурнем, а сваю справу ведае. Калі мы разгінаемся, каб перадыхнуць, адразу пачынае лаяцца, крычаць, што мы дармаеды. І пагражае паклікаць бацьку...

Абедалі мы ўсе разам у садзе. Толькі сям'я старасты сядзела за сталом, а нам, парабкам, разаслалі на зямлі старую настольніцу. Падалі рэдкую прасяную поліўку. А самі ўплёталі боршч, ад якога вельмі смачна пахла, кашу са смятанай.

Прыйшоў Рымпа. Старасціха пабегла ў дом, прынесла яшчэ адну міску з лыжкай і бутэльку гарэлкі. Рымпа скінуў з сябе пінжак, адшпіліў кабуру з пісталетам.

— Нехта зноў загады паздзіраў з платоў,— сказаў ён.— Злаўлю — на месцы застрэлю.

— Народ наш ненадзейны,— глуха абазваўся староста.— На заводзе вунь лістоўкі амаль кожны дзень раскідваюць.

— Гэтую справу мы разблытаем, Іван Сцяпанавіч. Далібог!

— Я непарадкі на кансервавым прыкмячаю даўно,— умяшаўся ў размову малодшы сын старасты, паліцай. У мястэчку ўсе яго звалі чамусьці Памідорам.

— Прыкмячай, прыкмячай! — Рымша стукнуў яго па плячы.— Камендант узнагародзіць.

— Табе, Рымша, усё смешачкі. Добра табе. Плётку ў рукі і — пайшоў махаць направа і налева. А мне вось як цяжка з нашым народам.— Стараста правёў далонню сабе па гарляку, паказваючы, як яму цяжка працаваць.— Парадак народ не прызнае наш. Камендант сказаў: «Не знойдзеш зачыншчыкаў на кансервавым — разам з сям'ёю адпраўлю ў Германію парабкаваць». Лёгка мне, га?

Рымша ўжо напіўся, вочы асавелі, твар зрабіўся чырвоным.

— Нічога, Сцяпанавіч, не бядуй. Зачыншчыкаў знойдзем,— сказаў ён.— Выведзем іх на чыстую ваду...

Перад тым як ісці дамоў, я насыпаў за пазуху бобу, апрануў на сябе пінжачок, каб не так было відна, і завярнуў па дарозе да Валіка.

Убачыў яго на вуліцы.

— Прапаведнік казаў, што трэба любіць бліжняга. А мы з табою хіба любім? — сказаў я.

— А каго любіць трэба?

— Хоць бы Каржаковых. Ніхто ім, старым, не дапамагае.— Нічога больш не гаворачы, я пацягнуў Валіка да іх.

Старыя сядзелі за сталом у сваёй маленькай хатцы і чыталі біблію. Здзівіліся, калі ўбачылі нас на парозе.

— Вось вам гэта,— высыпаў я на стол боб.— А заўтра вам будзе дапамагаць ён,— паказаў на Валіка.— Вады прынясе, дроў. Прэсвітэр сказаў: бліжняму трэба памагаць.

— Чаго ж вы стаіце? — спахапілася бабулька.— Сядайце на ўслон.

У прасценку паміж вокнамі вісеў пажоўклы партрэт. Малады хлопец, смеючыся, глядзеў на нас. Гэта быў здымак дзядзькі Міколы. Заўважыўшы, што я доўга гляджу на партрэт, бабулька сказала:

— Сын. Адзін быў у нас. Загінуў.

— Не загінуў, а госпад бог да сябе ўзяў,— азваўся стары.

— Хутка з ім сустрэнемся,— кіўнуў угору.— Ён раней за нас туды перасяліўся.

— Ён не на небе. Сын ваш ля капліцы пахаваны. Гэта я ведаю. Толькі вы нікому не кажыце. Ён быў партызан,— раптам горача загаварыў Валік.

— Што, што? — падняўся са свайго месца стары.— Хто табе сказаў пра гэта?

— Ніхто мне не казаў. Я сам здагадаўся.

Каржаковы аж анямелі, калі пачулі такое. Я схапіў Валіка за руку і пацягнуў за сабою з хаты.

— І хто цябе за язык цягнуў? Ну і дурань жа ты.

— Мне вельмі шкада іх стала.

## 3

Маці сказала, што я даўно ўжо адрабіў старасце за муку. Але ён усё прымушваў працаваць мяне на сваім агародзе.

Кожны раз, перад тым як ісці дамоў, я насыпаў за пазуху фасолю, гарох ці боб. Усё гэта перадаваў Валіку, а ён адносіў Каржаковым.

Сёння пад вечар неба зацягнула хмарамі, збіралася на дождж. Мяне не адпусцілі дамоў, загадалі ссыпаць фасолю ў вёдры і пераносіць у сенцы.

У двары раптам паказаўся Рымша.

— Памідор... Бацька дома?

Акрамя гаспадара і яго сына-паліцая, нікога ў доме не было. Памідор выйшаў на ганак, смачна пацягнуўся.

— Бацька мне патрэбен,— сказаў Рымша, і яны ўдвух пайшлі ў дом.

Я аднёс вядро ў сенцы, высыпаў фасолю ў карыта і пабег зноў на агарод. Думка ў мяне была такая: пакуль яны там у доме будуць гаварыць, піць гарэлку, я хутчэй закончу работу, насыплю за пазуху паболей фасолі і, не паказваючыся на вочы гаспадару, пайду дамоў. Калі я ішоў з агарода з чарговым вядром фасолі, заўважыў, што акно ў доме расчынена насцеж. Праходзячы паўз яго, пачуў размову. «Можа, што цікавае?» — падумаў я. Ціха падкраўся да акна і сеў на прызбу. Спачатку не разбіраў асобных слоў, хоць і чуў усё добра. Боязна было: раптам хто вызірне ў акно, убачыць, што падслухоўваю. Тады... Усё ж, перамагаючы страх, прымусіў сябе слухаць. Хрыплым голасам гаварыў Памідор:

— Сам бачыў — падыходзіць да кожнага і шэпча на вуха.

Пачуўся голас Рымшы:

— Лістоўкі таксама яна, відаць, раскідала. Сёння даведаўся, што і Бусел з ёю заадно.

— Чаму адразу немцам не сказаў, дурная твая галава? — злосна спытаў стараста.

— Не было калі.

— Ідзі цяпер.

— Упраўлюся! — азваўся Рымша.— На Лену даўно злосць нашу. Браць будзем на світанні, як лягуць спаць.

— Няўжо ты, Рымша, гаспадаром у мястэчку зрабіўся? Забыў, што стараста ёсць? — сказаў гаспадар.— Твая справа далажыць, а там будзе відаць...

— Ты, Іван Сцяпанавіч, мною не кіруй. Не люблю, каб камандавалі.

Голас Рымшы азваўся ля самага акна, і я, сарваўшыся з прызбы, даў ходу на агарод, а адтуль — у мястэчка.

Трэба было бегчы, папярэдзіць усіх. Імчаўся хутка і ліхаманкава азіраўся назад — баяўся, каб Рымша не дагнаў мяне.

Каму першаму сказаць? Бусла я ведаў, а пра каго яны яшчэ гаварылі? Пра Лену, пляменніцу настаўніка матэматыкі.

У галаве стукала: хутчэй-хутчэй-хутчэй!

Бусла дома не было, і я пабег да Лены. Я нават не ведаў, што буду ёй казаць. Галоўнае — застаць яе дома.

Агародамі дабраўся да месца, хацеў пералезці праз плот, каб падысці да акна, але ўбачыў, што дзяўчына сама

выйшла на ганак. Я прытаіўся. Лена пачула шолах, уважліва азірнулася па баках і падышла да плота.

— Лена! — ціха паклікаў я.

— Што здарылася? Перапалоханы ты нейкі...

— Я хачу сказаць: Рымша сёння пойдзе на вас немцам гаварыць. Ён усё ведае. Вам трэба хавацца. І зараз жа.

— Хто цябе паслаў?

— Ніхто. Я сам чуў. Рымша гаварыў.

Больш я нічога не сказаў. Пабег да Бусла. На гэты раз застаў яго і, блытаючы ад хвалявання словы, усё яму расказаў.

Потым, калі сцямнела, правёў іх за мястэчка.

Я вельмі стаміўся. Падумаў, што трэба пераначаваць у полі, адпачыць, а раніцай пайсці дамоў, каб не выклікаць падазрэння. Думаў так, а вочы мае заплюшчыліся самі, і ўсяго агарнула прыемная стома...

Колькі было часу, калі я прачнуўся, не ведаю. Хутка быў ужо на ўскраіне мястэчка каля саўгасных пабудоў. Сеў, затаіўся за падмуркам разбуранага дома. Тут мне знаёмы кожны камень, кожная цагліна. Памятаю, як бацька разам з іншымі мулярамі складваў сцены з чырвоных цаглін. А я прыносіў бацьку абед і гуляў тут у разбойнікаў разам з хлапчукамі.

З-за хлява выйшаў немец. Пастаяў трохі на адным месцы, потым пачаў хадзіць паўз платы. Я ад страху аж пахаладзеў увесь. Потым немца паклікалі з вуліцы. Мне б цяпер толькі і перабегчы ў агароды, але я затрымаўся на нейкую хвіліну і не паспеў.

Раптам на вуліцы пачуўся глухі тупат ног. Я адпоўз назад, сарваўся з месца і кінуўся паўз саўгасны сад. Дыхаць

стала цяжка, ногі анямелі, і я бухнуўся ў густы быльнік. Кашуля ўся прамокла на спіне, рукі дрыжалі. Бачыў, як паліцаі і немцы ламаліся ў дзверы дамоў, шасталі па агародах. Здавалася, што вось-вось знойдуць і мяне. Калі я добра агледзеўся, то ўбачыў, што ляжу ля плота. Пераскочыў яго і затаіўся за зрубам калодзежа. Месяц, як на злосць, выпаўз з хмар і ярка асвятляў хлеў, сабачую будку ля яго, сцяну дома і калодзеж, за якім я сядзеў.

У мястэчку чуліся крыкі, гучная гаворка, але я спярша не мог нават зразумець, на якой мове гавораць: на нашай ці нямецкай. Недалёка ад мяне стукнулі веснічкі. Я высунуў галаву з-за калодзежа, прыгледзеўся. У двор убеглі паліцай і немцы. У руках у іх бліснула святло ліхтарыка. І халодная хваля пакацілася па маім целе — гэта быў двор старога доктара. Хутка ворагі выйшлі з хаты. Я падскочыў ад радасці — Сцяпана Антонавіча з імі не было.

## 4

На другі дзень я не мог выйсці з хлеўчука, бо маці зняла з мяне і схавала штаны, у якіх я прыйшоў раніцай дамоў. Штаны, праўда, былі і да гэтага парваныя, але маці доўга гаравала:

— І трэба ж так, жывога месца на іх няма! Дзе ты быў ноччу?

— У Міцькі начаваў.

— Загоніш ты мяне, сынок, жывую ў магілу.

Гаспадыня ўслед за маці таксама захліпала носам, забожкала, што цяперашнія дзеці ў бога не верацць, біблію не чытаюць. Потым пачала даводзіць маці, каб трымала мяне

ў руках. Не вытрымаў, заплакаў і я — стала шкада маці.

Мяне пакінулі ў адных трусах, на ноч замкнулі ў хляўчук, а на другі дзень нечакана-негадана прынеслі штаны. Але не тыя, парваныя, а другія, у якіх звычайна вядуць у малітоўны дом. У тыя дні, калі я працаваў у старасты, маці з гаспадыняй мяне туды ледзь не кожны дзень цягалі. Але іх малітваў я не чуў, адсыпаўся ў Валіка на печы.

— Вечарам надзенеш! І нікуды не збяжы,— цвёрда сказала маці.— Прэсвітэр казаў, каб усе былі.

— Добра, мамка, не збягу! Буду цябе заўсёды слухаць. І сябраваць стану толькі з Валікам. І біблію чытаць буду,— абяцаў я.

— Вось-вось,— узрадавалася яна.

Штаны маці ўсё ж забрала з сабою, а я ўзяў кніжку, якую яшчэ раней пазычыў у Міцькі, і пачаў чытаць.

Раптам па даху хлеўчука дробна застукалі каменьчыкі. «Валік!» — падумаў я. Менш за ўсё хацеў цяпер яго бачыць. Прыстане — не адвяжашся. Зрабіць выгляд, што мяне тут няма? Я схаваў кніжку, залез пад палок: заходзь — не ўбачыш. Цікава, адкуль ён кідае каменьчыкі? Я падпоўз да варотцаў і, не ўстаючы з зямлі, высадзіў галаву на двор. Не відаць. Каменьчыкі, праўда, ужо не так часта стукалі. Адзін, вялікі, моцна грымнуў над маёю галавой і з грукатам скаціўся ўніз, на зямлю. Пільна агледзеўся і заўважыў, што кідалі з-за плота. Я ўбачыў Міцьку.

Пераскочыць плот — адно імгненне. Міцька нават разгубіўся, калі я з'явіўся перад ім.

— Нашага партызана забралі,— сказаў Міцька.

— Хто? — збялеў я.

— Партызаны. Прыйшлі і забралі з сабою.

У мяне адлегла на сэрцы.

— Напалохаў толькі мяне. А я падумаў, што немцы. І нічога ён не перадаваў? — спытаў я ў Міцькі.

— Перадаваў прывітанне. І дзякаваў. Казаў, што мы з табою сапраўдныя піянеры. І героі.

Пакуль перагаварылі ўсё, мінула багата часу. Прыйшоў дамоў — ні маці, ні гаспадыні няма. На ложку ў хаце ляжалі мае новыя штаны, чыстая кашуля і побач, на падлозе, стаялі чаравікі. Пасноўдаўся па двары, пасядзеў у хлеўчуку. Горш няма, калі чакаеш. Хай бы лепш прыйшла маці ды дала прачуханца, чым вось так чакаць. І я не вытрымаў, пайшоў у малітоўны дом. У двары нікога не было. Клікнуў цераз плот Валіка. Ціха. Увайшоў у двор, ступіў на ганак. Дзверы былі не замкнутыя. Адчыніў іх — нікога. Можа, усе пайшлі мяняць у вёску золата на хлеб?

Я так падумаў, бо на тым тыдні быў выпадак... Раніцай яшчэ мяне збудзіла гаспадыня, павяла за сабою ў двор і дала ў рукі лапату.

— Капай вось тут,— паказала месца каля куста бэзу. Я доўга тыкаў лапатай у зямлю, пакуль не намацаў нешта цвёрдае. Узяўся рукамі — маленькі чыгунчык, у якім звычайна кіпяцяць у печы малако. Выцягнуў яго з зямлі.

У хаце гаспадыня з чыгунка выняла анучку, разгарнула яе і высыпала на стол бліскучыя завушніцы, пярсцёнак з дрыготкім каменьчыкам і яшчэ нейкія блішчастыя забаўкі.

— Цяпер не трэба мне гэтае багацце,— сказала яна, згарнула ўсё зноў у анучку, завязала і запіхнула за пазуху.

І павялі мяне на малітву. Але не да Панцакоў, а ў дом самога прэсвітэра Афанасія. Там было шмат людзей і, як

я зразумеў, павінна адбыцца важнае служэнне. Вельмі ціха, амаль у цемені, спявалі малітвы. Калі змоўклі, прапаведнік загаварыў:

— Ахвяруйце на бога!

Доўга стаялі на каленях. Потым нашая гаспадыня адышла ў кут, пакорпалася за пазухай, вярнулася да стала і паклала на стол усе свае дарагія забаўкі...

Куды ж яны пайшлі? Можа, зноў у прэсвітэра моляцца? А можа, немцы на работу іх пагналі? Абегаў усё мястэчка, але маці з гаспадыняй не знайшоў.

Прайшоў дзень. Ні маці, ні гаспадыня не вярнуліся. Вечарам пабег да Каржаковых. Даведаўся, што веруючыя пайшлі ў зруйнаваны палац чакаць, калі іх бог возьме на неба. Каржаковы спадзяваліся сустрэць на зямлі свайго сына.

Я памчаў з усіх ног за мястэчка. Дрыгва пачыналася на тым месцы, дзе расла купінамі асака, каля валуна. Азірнуўшыся па баках, пачаў пераскакваць з адной купіны на другую, затым выскачыў на бераг вострава, на якім стаялі аблупленыя ветрам цагляныя сцены. Тут рос ажыннік, і на ім было так багата чырвоных ягад, што я не ўтрымаўся, пачаў ірваць іх і цэлымі прыгаршчамі сыпаць сабе ў рот. Потым пабег да руін. Між каменняў заўважыў вялізную шчыліну. Падышоў бліжэй, расхінуў кусты — тут быў цёмны ўваход у пячору. Лезці ў яе мне стала страшна, і я вырашыў пачакаць — няўжо ніхто не выйдзе адтуль, з-пад зямлі? Раптам заварушыліся кусты, затрашчала галлё, і з пячоры паказаўся Валік. Узрадаваўся, калі ўбачыў мяне.

— Маці мая тут?

— Ага! — кіўнуў ён.

— Мне сказалі, што ўсе вы тут,— прамовіў я.— Цэлы дзень шукаў. Чаму ты мне не сказаў?

— Ніхто і не ведаў, куды павядзе прэсвітэр. Твая маці вельмі гаравала, ісці сюды не хацела, але Афанасій прыгразіў, загадаў, каб ішла. Сказаў, што тут, у пячоры, святое месца, тут пахаваны святыя. Я таксама сюды не пайшоў бы, але бацька і маці пацягнулі. Я стаў баяцца веруючых. Моляцца дзень і ноч, быццам з глузду з'ехалі.

— І ты молішся?

— Абрыдла ўжо. Мабыць, прэсвітэр выдумаў усё гэта. І пра святое месца і пра шчасце на небе.

— Зразумела, што выдумаў. І маці маю абдурыў. Калі бацька вернецца, яна перастане маліцца. Не хадзіла ж колькі часу, калі бацька...— Я прыкусіў язык.

Валік расказаў, што ўчора ноччу вобмацкам абшукаў усю пячору, але месца, дзе пахаваны святыя, не знайшоў.

— Валік, мне трэба маці ўбачыць.

— Гэта зусім проста зрабіць. Я пакажу табе ўваход. Пайшлі!

Панцак, відаць, сам баяўся, бо спытаў, ці няма ў мяне запалак. Я падаў.

— Ведай, што пячора ўвесь час віляе,— сказаў ён.— Не стукніся галавою.

Уваход у пячору быў вузкі, потым пашырэў, па ім свабодна, не згінаючыся, мог прайсці дарослы чалавек. Запалка асвятляла мала, і ў цемені, перш чым зрабіць крок, даводзілася намацваць нагамі зямлю і шырока расстаўляць рукі, каб не натыкнуцца на каменную сцяну і не стукнуцца лбом.

Здалёк пачуліся ціхія галасы. Маліліся.

Валік сказаў:

— Тушым агонь! Цяпер блізка.

І раптам у канцы пячоры бліснула слабае святло. Цяпер я ўбачыў сходы, якія вялі на круглую пляцоўку. Хутка збег па іх уніз. Пачуў, што да мяне ідуць. Толькі зараз я зразумеў, адкуль ішло святло: гэта набліжаліся са свечкамі веруючыя. Яны ішлі вельмі марудна, пахістваліся і ўсе былі загорнутыя з галавою ў нейкія белыя прасціradлы. Доўгія хісткія цені сунуліся ўслед за імі, яны былі вялізныя, страшныя, падобныя на здані веліканаў. Я мімаволі прыціснуўся да сцяны. Захацелася кінуцца назад, але прага ўбачыць маці, выратаваць яе не дазволілі мне гэта зрабіць.

Усе веруючыя тым часам збіліся на пляцоўцы ў кучу, сталі на калені. Сястра Галіна моцна цягнула малітву, прасціradла ссунулася з яе галавы. Потым жанчына падпаўзла да свечкі, што стаяла на падлозе, і лізнула языком полымя. Маці я ніяк не мог разглядзець — усе былі ў аднолькавых белых балахонах.

Паціху пайшоў паўз сцяну, шукаючы маці. І раптам нехта пранізліва крыкнуў:

— Аблава! Немцы!

## Частка чацвёртая

### 1

Свечкі патухлі. У цемені пачалася валтузня. Я кінуўся назад, але на некага натыкнуўся, адскочыў убок, потым пабег наперад і так стукнуўся аб сцяну, што аж іскры з

вачэй пасыпаліся. І тут адразу ж мяне асляпіла рэзкае святло электрычнага ліхтара. Я закрыў твар рукамі, адвярнуўся да сцяны. Уцячы няма куды. Няхай робяць са мною, што хочуць. За маёй спіною нешта тварылася, але што — зразумець не мог.

Запахла гарэлым. Я азірнуўся. Каменная пляцоўка была асветлена факеламі, якія трымалі ў руках немцы і паліцаі. Веруючыя — іх чалавек трыццаць — стаялі насупраць, спуджана цconfigуліся адзін да аднаго. Усіх прымусілі стаць побач, тварам да сцяны, рукі пакласці на галовы. Я ўбачыў, як немец выйшаў наперад і пачаў сцягваць з кожнага белыя прасціradлы. Усіх абшукалі і аднаго за адным павялі да выхада з пячоры. Самаробныя факелы смуродзілі дымам, які аж выядаў вочы.

Услед за ўсімі я выйшаў з пячоры на вольнае паветра. Зрабілася лягчэй. Запахла палыном і дзікай мятай. Потым нас пагналі. Я ўсё ўглядаўся ў натоўп: дзе ж маці? Стаяла ноч, і пазнаць яе сярод людзей было вельмі цяжка. Ад святла месяца, які выступіў з-за хмар, усе твары здаваліся незнаёмыя і нежывыя. Я вельмі спужаўся, што не знайду маці, забег наперад людзей і кінуўся да згорбленай жанчыны:

— Мама!

— Я тут, сынок! — абазвалася яна.

Але немец адпіхнуў мяне, прымусіў стаць у строй.

Каля дрыгвы да нас падышлі яшчэ некалькі немцаў. На купіны асакі было накідана галлё, а на ім ляжалі дошкі. Па гэтай грэблі немцы і паліцаі прайшлі сюды.

Пад канвоем нас давялі да капліцы. Тут і застала раніца. Але я не заўважыў, як яна наступіла. Толькі раптам

убачыў, што развіднела, убачыў горасны твар маці, белую пасму валос, што выбілася ў яе з-пад хусткі. Я нават на першым часе не здагадаўся, што маці пасівела. А маці ж мая яшчэ зусім маладая! Калі праводзілі бацьку, у яе былі такія густыя русыя валасы.

Да паўдня нас пратрымалі каля капліцы, пакуль паліцаі на хуткую руку забівалі ў зямлю калкі і ачэплівалі іх калючым дротам. За гэтую агароджу і загналі ўсіх. Гаспадыня наша памкнулася была пагаварыць з адным паліцаем: спытала, ці доўга нас будуць трымаць і калі адпусцяць.

— Загадана не адпускаць,— буркнуў ён.

Потым нас пералічылі. Трыццаць два чалавекі. На вазку пад'ехаў староста і сказаў, што паслана данясенне начальству. Там вырашаць, што з намі рабіць.

Хутка немцы даручылі паліцаям ахоўваць нас, а самі пайшлі. У мястэчку ўжо даведаліся пра ўсё, і да капліцы пачалі прыходзіць родзічы. Размаўлялі, совалі цераз дрот перадачы. Паліцаі не перашкаджалі гэтаму, толькі правяралі, што перадаюць: малако, яйкі забіралі сабе. Нехта сказаў, што забілі каменданта.

— Немцы ўзлаваліся. Аблавы ідуць па ўсім мястэчку. Ледзь што — расстрэльваюць на месцы,— казалі мястэчкоўцы.

Мяне адведаў Міцька. Здагадаўся, што я тут, і прыбег. Я адышоў з ім далей ад дарослых.

— Слухай, Міцька,— спытаў у яго цераз дрот,— гэта праўда, што каменданта забілі?

— Праўда... Адсюль лёгка можна ўцячы,— сказаў Міцька.

— Я даўно ўцёк бы, каб не маці. Не пакінеш яе. Нягожая зусім.

— Ты, Лёнька, трымайся. Кажуць, наша армія ўжо недалёка. Наступае. Хутка вызваліць.

## 2

Моцна пякло сонца. Маці зрабілася дрэнна, і я з гаспадыняй адвёў яе ў цянёк пад капліцу.

Пад вечар да нас за дрот прыгналі яшчэ людзей з вёсак. Ахоўвалі цяпер толькі трое паліцэйскіх. Яны мала звярталі ўвагі на вязняў; двое гулялі ў карты, а адзін сноўдаўся паўз дрот. Я падумаў, што ноччу, калі будзе такая ахова, уцяку.

Валік цяпер не адыходзіў ад мяне ні на крок. Сядзець на зямлі нам хутка абрыдла, і мы пачалі хадзіць і шукаць шчаўе.

Новыя людзі прынеслі і новыя чуткі. Адны казалі, што сагналі нас сюды для таго, каб адправіць у Германію.

А высокі мужчына ўсё паўтараў:

— Нас заб'юць. Пабачыце — расстраляюць.

Расказвалі пра забойства каменданта кожны па-свойму. Гаварылі, што камендант вёз важныя паперы, у якіх загадвалася спаліць усе хаты, а жыхароў расстраляць. У дарозе падскочыў да машыны на кані чалавек і стрэліў у каменданта. Яшчэ казалі: па дарозе машыну дагнаў немец-матацыкліст, загаварыў з камендантам па-нямецку, а потым кінуў гранату і забіў не толькі каменданта, але і ўсю ахову. І яшчэ гаварылі, што каменданта зарэзалі на-

жом у камендатуры. Але ўсе сыходзіліся на адным: у нямецкага каменданта былі важныя паперы, якія ў яго забралі. Чакалі, што вось-вось павінен прыехаць стараста. Усім хацелася на волю, але нікога не адпускалі, і затрыманыя тоўпіліся каля паліцэйскіх, каб першымі пачуць рашэнне. Толькі Валікавы маці і бацька сядзелі на зямлі і маўчалі. Валік не рашаўся нават з імі загаварыць.

Нарэшце на кані пад'ехаў Памідор, паклікаў мардатага паліцая, які сноўдаўся ля агароджы, убок. Мардаты раптам хутка вярнуўся і сказаў усім, што мы заложнікі і нас не адпусцяць. Калі не знойдзецца той, хто забіў каменданта, мы ўсе будзем расстраляны.

Гэтыя словы пачуў дзядзька Павел, цяжка падняўся і пайшоў да капліцы. Рукі яго сціснуліся ў кулакі. Такім злосным я дзядзьку ніколі не бачыў.

— Ну што, святы Афанасій,— падышоў да прэсвітэра і сказаў ён,— калі на неба паляцім? Немцы туды раней нас адправяць.

Прапаведнік падняў у неба вочы:

— На ўсё божая воля!

— Гэта не бог, а ты нас завёў у пастку!

— Ты пра што? — перавёў той вочы на дзядзьку Паўла.

— Пра тое, што быў апошнім дурнем, калі верыў табе і тваім забабонам!

Ля іх сабраліся людзі. Дзядзька наступаў на Афанасія, а той адыходзіў назад, крычаў:

— Людзі, не слухайце яго!

— Я пытаю ў цябе: чаму ты завёў нас на згубу? Дзе твой бог, каб нас выратаваць?

Падняўся гармідар. Людзі стоўпіліся ля дзядзькі і пра-

паведніка. Умяшаўся паліцэйскі і загадаў усім разысціся і сесці на зямлю.

З паўгадзіны было ціха. Раптам я ўбачыў, што да людзей паўзе на каленях сястра Галіна. Валасы ў яе растрапаныя, вочы вырачаныя.

— Людзі! — моцна і ўсхвалявана закрычала яна.— Мы будзем выратаваны! Я бачыла божы знак.

Веруючыя кінуліся да цёткі. А яна, паказваючы ў той бок, дзе за капліцай быў куст, гаварыла:

— Разгарнула куст, глянула... і ледзь не самлела: з-пад зямлі жоўты ўзгорачак расце. Магіла, значыць, а над ёю — ззянне.— Сястра Галіна падпаўзла бліжэй да Афанасія і, пазіраючы яму ў вочы, спытала: — Што гэта, Афанасій?

— Дзіва! Святы знак. Бог сышоў на зямлю па нас.

— На магіле нават свежая кроў! — выгукнула сястра Галіна.

Валік мне шапнуў, што гэта ён пасыпаў магілу чырвоным пяском, каб прыгажэй было. І веруючыя кінуліся ў той бок, куды паказвала цётка. Чуліся галасы:

— Сыдзі да нас, дух святы!

— Памажы нам, божа!

— Вазьмі на неба, святы госпад!

Потым галасы патанулі ў гуле. Тыя людзі, што былі бліжэй да ўзгорка, бралі ў жмені пясок і перадавалі яго адзін аднаму. Ім цёрлі твары, сыпалі за пазухі. Раптам Валік ускочыў на валун, крыкнуў:

— Слухайце мяне! Я праўду ведаю!

Галасы сціхлі.

Усе глядзелі на яго.

— Гэтая магіла не святая. У ёй пахаваны савецкі партызан. Ён загінуў за нас і Радзіму! — крыкнуў Валік.

І раптам цішыню прарэзаў голас Афанасія:

— За наш ратунак... Ахвяру богу!

— За грахі нашы! Ахвяру! — закрычалі на розныя галасы веруючыя і кінуліся да Валіка.

— Вопратку здымайце з яго, вопратку! — крыкнуў прапаведнік і першы ўчапіўся ў Валіка. Да Валіка пацягнуліся рукі, сарвалі з яго кашулю. Кінуўся я з усіх сіл яму на дапамогу, але нехта адкінуў мяне ўбок. Я бачыў толькі шырока разяўленыя раты, вырачаныя вочы. Валік недзе знік. Потым я ўбачыў, што ён паплыў над галовамі, яго перадавалі з рук у рукі і ён адбіваўся нагамі і рукамі, быццам заблытваўся ў нейкай павуціне.

— Валік! — крыкнуў я з апошніх сіл і самлеў.

Калі апрытомнеў, адразу мне на вочы трапілася маленькая постаць майго сябра. Ён бег, падаў, падымаўся, зноў бег у высокай траве па другі бок агароджы. Мне стала лягчэй — вылузаўся, значыцца, з рук гэтых боскіх служак. Мардаты паліцай позна ўбачыў, што хлопчык вырваўся на волю. Стрэліў яму наўздагон, але не трапіў...

Ноччу мяне разбудзіла маці. Схілілася нада мною:

— Уцякай, сынок, адсюль.

— А ты, мама? — спытаў я.

— Я як-небудзь. Можа, адпусцяць.

Было цёмна. Нават месяц схаваўся за хмары. Мяне біла дрыготка, зуб на зуб не трапляў. Я моцна абняў маці, адчуў, як калоціцца і яна.

Калі паліцэйскі трохі адышоў ад агароджы, я падлез пад дрот, на каленях і локцях папоўз у траву.

## 3

— Цябе не будуць шукаць,— сказаў Міцька, калі даведаўся ад мяне пра тое, што здарылася ля капліцы.— Валіка — іншая справа. Ён крычаў пра партызана. Але і ты лепш не паказвайся нікому цяпер на вочы. Асабліва паліцэйскім. Яны сталі злосныя, як звяры...

Я доўга не мог заснуць, ляжаў з Міцькам на вышках у леташнім сене, глядзеў у шчыліну даху і бачыў, як веруючыя хапалі Валіка. Дзе ён цяпер?

Пад раніцу я, стомлены і змораны, быў задрамаў. Вейкі самі зліпліся. І раптам скрозь дрымоту пачуў ціхае, кацінае «мяў». Міцька таксама прачнуўся.

— Няйначай, кот нейкі заблудзіўся,— сказаў ён і папоўз да лесвіцы. За ім падаўся і я.

Мяўканне больш не паўтаралася, але мы доўга прыслухоўваліся да начной цішыні. Тут у вароты хлява ціха пастукалі. Стук быў дзіўны: адзін-два-тры, адзін-два-тры.

— Што за ліха,— плюнуў Міцька.— Ты чуў? Вызірні.

Я вярнуўся на ранейшае месца і выглянуў праз акенца. Нікога не было.

— Можа, Валік?

— А калі паліцаі?

— Хіба паліцэйскія сталі б мяўкаць?

— Пачакаем.

Раптам зноў — стук. І — голас:

— Міцька, ты тут? Гэта я...

— Валік! — скубнуў я Міцьку за рукаво.

Злезлі па лесвіцы з вышак, ціха адчынілі варотцы.

— Мы думалі, што ты ўцёк у лес.

— Бег туды, потым вярнуўся. Мяне шукаюць?

— Пакуль не ведаем. Здорава ты перад паліцаямі выступіў! Не пабаяўся.

— Хай праўду ведаюць.

— Добры ты, Валік, хлопец. Толькі праўды і ты не ведаеш усёй. Мы цябе падманулі тады. Карацей, партызан Каржакоў не памёр ад ран. І магіла, якую ты даглядаў, не сапраўдная. Толькі ўзгорак.

— Няўжо?

— Каржакоў ачуняў, і яго забралі партызаны. Толькі тады мы не маглі табе сказаць пра гэта. Баяліся. Бо не ведалі, які ты. Сам разумееш. Крыўдзішся?

— Раней пакрыўдзіўся б. Цяпер — не.

— Мы можам прыняць цябе ў падпольны піянерскі атрад «Спартак».

— Я ж не піянер.

— Уступіш, калі ў школу пойдзем. А цяпер ты будзеш трэцім членам нашага атрада.

На світанні Міцька пайшоў у мястэчка ў разведку. Вярнуўся ён апоўдні і паведаміў:

— Тваю маці і ўсіх астатніх прывялі ў мястэчка і зачынілі ў саўгасным складзе.

— Што гэта будзе, Міцька?

— Аб'явілі, што даюць усяго дзень тэрміну. Не знойдзецца вінаваты, які забіў каменданта,— расстраляюць усіх.

Ён зноў знік, увечары вярнуўся ўсхваляваны:

— Стары Каржакоў прыйшоў у камендатуру і сказаў, што ён забіў каменданта. Прасіў, каб людзей не расстрэльвалі.

— Што ты, Міцька? А далей?

— Не паверылі. Сляпы ж ён.

— Як ты думаеш, Міцька, можа, ён і забіў?

— Ды не. Сказаў так, каб людзей выратаваць.

4

У мястэчку было неспакойна. Да нас даносіліся людскія галасы, крыкі паліцаяў і немцаў. А ў небе чулася гудзенне самалётаў. Цераз мястэчка праехалі нямецкія гарматы. У хмары пылу некуды гналі кароў і авечак.

Ноччу мяне збудзіў Валік:

— Немцы ўцякаюць!

Недзе блізка бухалі гарматы.

— Чуеш? Нашы! — радасна закрычаў Валік.

У мястэчку то там, то тут усё часцей і гусцей гучалі аўтаматныя чэргі, вінтовачныя стрэлы, чуліся крыкі, гергетанне немцаў.

Міцька, Валік і я злезлі з вышак, выскачылі з варот і пабеглі. Ніводнага чалавека не было відаць. Развіднела, і ніхто з нас, нават Міцька, не ведаў, што цяпер нам рабіць. І тут я, не звяртаючы ўвагі на стрэлы, выглянуў на вуліцу. Паўз нас беглі два хлапчукі і крычалі:

— Немцы ўцяклі, немцы ўцяклі!

Адзін, убачыўшы нас, спыніўся:

— Пайшлі з намі на плошчу!

Але Валік падаў голас:

— Трэба бегчы да складоў!

Паўз рэдкія платы мы доўга беглі па вуліцы. Гарэў нечы дом. Каля складоў стрэлы заціхлі. І тут мы ўбачылі ўзброеных людзей, апранутых у цывільнае адзенне.

— Гэта партызаны! — крыкнуў Міцька.

А тыя збівалі прыкладамі замкі. Адчынілі вароты, і арыштаваныя, напіраючы адзін на аднаго, пачалі выходзіць на вуліцу. Я ўбачыў раптам сваю маці, закрычаў ад радасці і, распіхваючы локцямі людзей, кінуўся да яе. Маці схапіла мяне за руку.

— Сыночак, сынок! — усё паўтарала і паўтарала яна.

А на вуліцу высыпалі людзі:

— Нашыя прыйшлі, нашыя!

Сапраўды, на плошчы з'явіліся нашы салдаты.

Два байцы распрануліся ля калодзежа і лілі з вядра адзін на аднаго ваду. Партызаны з чырвонымі стужкамі на шапках змяшаліся з салдатамі. На вуліцу ўехалі гарматы. Высокі камандзір заўважыў нас і махнуў рукою:

— Бяжыце сюды, хлопцы! Лезьце! Пакатаем!

Ён дапамог нам узлезці на лафет гарматы, і мы паехалі па мястэчку ўсім на зайздрасць.

І тут я заўважыў, што з натоўпу выскачыў высокі чалавек з аўтаматам у руцэ і кінуўся наперарэз гармаце.

— Тата! — І я павіснуў на бацькавай шыі.— А дзе дзядзька Мікола? — спытаў.

— Каржакоў?

— Ага.

— Тут, сынок, тут. Пайшоў бацьку хаваць. Забілі яго фашысты.

Мы доўга маўчалі.

## 5

Яшчэ стагнала ад далёкіх выбухаў зямля, яшчэ ў небе гулі фашысцкія самалёты, але мястэчка ўжо жыло свабод-

ным жыццём. Дзеці бегалі, насіліся паўз платы, а людзі пачалі зноў збірацца разам. Увечары зайграў недзе гармонік і забрахаў уцалелы сабака. Міцька і Валік сказалі, што нас, дзяцей, хутка будуць збіраць у школу.

Мы зноў перасяліліся ў свой дом. На вуліцу цяпер выходзіў я рэдка. Маці стала зусім дрэнна. Я сядзеў на ложку, трымаў яе за кволую руку. Ад маці не адыходзілі бацька і Сцяпан Антонавіч. Доктар хадзіў некалькі разоў у медсанбат, што размяшчаўся ў мястэчку, браў там і прыносіў лякарствы. Некалькі разоў нават прыводзіў адтуль медсястру рабіць уколы.

— Ці хутка яна ўстане на ногі? — пытаў у доктара бацька.

— Устане. У яе жаўтуха.

Маці пачула размову, расплюшчыла вочы, паклікала бацьку да сябе. Ён падсунуў табурэт да ложка, сеў.

— Цімох, ты не крыўдуй на мяне, што маліцца хадзіла,— пачала гаварыць яна ціхім нямоглым голасам.— Прасіла ў бога, каб ты вярнуўся жывы... Цяпер маліцца не буду... Як убачыла, што яны хацелі забіць Валіка, усё ўсярэдзіне ў мяне перавярнулася... Калі бог хоча крыві, ён з фашыстамі заадно... Цяпер ты разумееш, Цімох?

— Разумею, Арына. Ляжы, табе не трэба хвалявацца,— сказаў бацька.

Маці нічога не ела, прасіла толькі піць, і я вырашыў схадзіць да руін старога палаца, каб назбіраць ёй ажын. Некалі маці іх вельмі любіла.

Схапіўшы з паліцы гладыш, я пабег за мястэчка.

Ажын было на кустах так многа, што ад іх аж пазвісаў долу ажыннік. Усе ягады спелыя, буйныя. І блішчалі на

сонцы. Хутка я назбіраў іх поўны гладыш і пачаў выбірацца з густых калючых кустоў. Ажыннік назойліва чапляўся калючкамі за кашулю, быццам не хацеў пускаць мяне дамоў, балюча калоў у рукі. Раптам я пачуў нечыя галасы. Гаварылі блізка. Я паставіў на зямлю гладыш і асцярожна пачаў красціся да таго месца, адкуль чулася размова. Расхінуў трохі кусты і ўбачыў Афанасія і Спірыдона. Яны сядзелі на траве насупраць адзін аднаго. У руках у прапаведніка быў мяшэчак.

— Не магу больш тут,— сказаў Спірыдон.— Калі сцямнее, пайду. А ты вяртайся, Панас, у мястэчка.

— Там цяпер мне няма чаго рабіць.

— Асарамаціўся,— усміхнуўся Спірыдон.— Перабаршчыў з канцом свету.

— Цяпер у мястэчку мне ніхто і гнілое яйка не прынясе. Яшчэ арыштуюць. За тое, што хлопца Панцаковага хацеў забіць.

— Табе не трэба баяцца. Я — іншая справа: дэзерцір. Так што будзем развітвацца. І гэта падзелім пароўну,— сказаў Спірыдон, паказваючы на мяшэчак.

— Потым.

— Не, давай цяпер. Усё можа здарыцца ў наш час.

І Спірыдон выхапіў з рук у прапаведніка мяшэчак, адарваў з яго завязкі. З ціхім звонам пасыпаліся ў траву залатыя пярсцёнкі і манеты.

Прапаведнік пачаў дзяліць.

— Пярсцёнак табе, пярсцёнак мне.

Спірыдон прагнымі вачмі глядзеў на золата.

— Слухай, Панас,— сказаў ён.— Баюся, што цябе і праўда арыштуюць.

Афанасій нічога не адказаў, працягваў дзяліць. Калі золата было раскладзена на дзве роўныя кучкі, прэсвітэр узяў парожні мяшэчак і пачаў ссыпаць туды сваю долю.

— Ты, здаецца, больш сабе ўзяў,— сказаў Спірыдон.— Давай перадзелім зноў.

— Не будзь дурнем.

— Давай пералічым!

— Хопіць лічыць!

Спірыдон раптам учапіўся абедзвюма рукамі за мяшэчак і з сілай ірвануў яго да сябе. Потым ускочыў на ногі, кінуўся ў кусты. Прапаведнік пабег за ім, выхапіў з кішэні нож, размахнуўся і ўсадзіў яго Спірыдону ў спіну. Той нема застагнаў і зваліўся на зямлю.

Не ведаю, як я ад жуды не закрычаў. Проста анямеў ад перапалоху і кінуўся да кладкі...

Раніцай часта-часта нехта біў у рэйку. Тугі чысты звон разлягаўся па мястэчку. Раптам у дзверы ўбеглі Міцька з Валікам. Абодва з кніжкамі ў руках.

— Лёнька, гэта звоняць, каб у школу дзеці збіраліся! — радасна выгукнуў Міцька.

Я надзеў новыя штаны і чаравікі, завязаў на шыю гальштук, які ўчора забраў са свайго схованчa, схапіў старыя падручнікі шостага класа, і мы выбеглі за парог. Хутка ўтрох памчаліся па шырокай местачковай вуліцы.

Падымалася сонца. Пачынаўся харошы дзень.

# ЗМЕСТ





*Николай Фомич Копылович*

ЗАСАДА

Повести

Для детей среднего школьного возраста. Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке

Рэдактар В. Д. Рудава. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктары Е. У. Дзмітрыенка, Я. А. Бебель.

ІБ № 363

Здадзена ў набор 19.02.79. Падп. да друку 29.08.79. АТ 01243. Фармат 70×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,70. Ул.-выд. арк. 7,14. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1986. Цана 35 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.